Мастак Насця Дунец

МАСЛЯНІЦЫНА Ірына нарадзілася ў 1965 годзе ў горадзе Пачынку Смаленскай вобласці. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працавала ў розных перыядычных выданнях рэспублікі. Удзельнічала ў складанні шэрага кніг Памяці, падрыхтоўцы энцыклапедычных даведнікаў. Сумесна з гісторыкам і публіцыстам М. Багадзяжам у 1995 г. выдала кнігу гістарычных нарысаў пра славутых жанчын Беларусі "Слава і няслаўе". Ірына вядомая чытачам рэспублікі як драматург. За п'есу "Крыж Ефрасінні Полацкай" атрымала Скарынінскую прэмію ў галіне гістарычнай драматургіі.

Кніга легенд Ірыны Масляніцынай будзе цікавай для шырокага кола чытачоў. Аўтарка засяродзіла ўвагу на паданнях і легендах, на якія вельмі багатая наша славутая зямля. Зыходзячы з пачутых сярод народа легенд, яна дае тлумачэнне назвам беларускіх гарадоў і мястэчкаў, рэк і азёраў. Спалучаючы фальклорныя матывы з літаратурнай апрацоўкай, яна дасягае своеасаблівага і яркага каларыту, багатага як эмацыянальным, так і фактычным матэрыялам.

# СІНІ КАМЕНЬ

У суме і роспачы дажывала апошнюю сваю ноч асуджанае сяло. Ніштo не магло прынесці ўжо выратавання, бо акружылі з усіх бакоў невялічкае паганскае паселішча воіны гародзенскага князя і чакалі толькі раніцы, каб пачаць расправу над тымі, хто так доўга і цвёрда адмаўляўся прыняць Хрыстову веру.

У тую зорную ноч ніхто не спаў: бацькі развітваліся з дзецьмі, нявесты з жаніхамі, мужы з жонкамі. І толькі як апошняе спадзяванне ў душах людскіх цеплілася думка: "Пярун — не пакіне! Бацька Пярун абароніць!"

Апоўначы здарылася дзіва: небасхіл раскалоўся надвое на шляху чагосьці бліскучага і вострага, як страла, грымнуў гром і пырснулі ва ўсе бакі блакітныя іскры. Пасыпаліся каменні на галовы княжацкіх ратнікаў, і разбегліся яны ў жаху.

— Гэта Пярун! Гэта наш Пярун! - крычалі язычнікі. — Ён выратаваў нас! Бог нашых бацькоў сапраўдны Бог!

Каменяпад скончыўся на світанку, і тады стомленыя, але шчаслівыя людзі заўважылі незвычайнае блакітна-зялёнае ззянне на ўскрайку сяла. Самыя смелыя рушылі туды і хутка знайшлі вялікі круглы пляскаты камень. Ён быў густога сіняга колеру і вельмі гарачы. І паганцы схіліліся як адзін перад каменем-пасланцом вялікага Бога продкаў...

З тых часін ніхто не замінаў дзецям Перуновым жыць так, як ім хацелася. Нібы сапраўды сіні камень, што ўпаў у ноч вялікай адплаты, стаў аберагаць іх спакой і шчасце. Увесь нябесны жар з каменя выйшаў, і цяпер кожны з сялян, каму ў вочы зазіралі беднасць, гора, кожны, каму было цяжка і неспакойна на душы, мог дакрануцца да яго рукою. І тады ўсе цяжкасці зնікалі, гора змянялася нечаканай радасцю, беднасць — дабрабытам.

— За вернасць нашу такая нам узнагарода, — з гонарам гаварылі людзі.

З вялікай падзякі да свайго талісмана назвалі яны паселішча сваё Сіні Камень і ніколі нават не мыслілі аб тым, каб змяніць гэтую назву.

Невядома, якім быў бы свет людзей, калі б побач са шчаслівымі не жылі зайздроснікі. Як гэта заўсёды бывае, знайшоўся чалавек, якому дабрабыт і радасць жыхароў Сіняга Каменя нажом вострым у сэрца ўтыркаліся, і чалавекам гэтым быў Пахом з суседняй вёскі Шкленск. Ад зайздрасці ён нават сну пазбавіўся. Варочаецца ноччу ў ложку ды думае: "Чым жа яны лепшыя за мяне? Хіба я не працую з ранку да ночы, а што з гэтага маю? І коні ў іх больш сытыя, дагледжаныя,

быццам не тым жа аўсом кормяць іх, і жонкі паслухмяныя, не тое, што мая злая ды сварлівая, і дзеці ніколі не хварэюць, і збажыны збіраюць болей. І ўсё з-за таго, што побач з іх вёскаю гэты сіні камень-абярог ляжыць".

Лодырам быў Пахом, таму і поле не радзіла, зарасло пустазеллем, і коні былі худыя, і ў жонкі сапсаваўся нораў. Але не гэта было галоўнай заганай Пахома, а тое, што быў ён нячысты на руку, усё цягнуў у хату, што ні ўбачыць: ці то цвік ад падковы, ці то збан, які выпадкова забыла на вуліцы суседка. Усяму знаходзіў прымяненне. Таму хаця і была яго хата з выгляду бедненькай, паўразбуранай, але знутры больш за ўсё мела падабенства са складам розных дробязяў.

Вось і вырашыў Пахом, што ў хаце яго знойдзецца месца і цудоўнаму сіняму каменю, а з ім прыйдзе і ўдача ў дом.

Сабраўся ён ноччу, запрог дзвюх схуднелых кабылак і накіраваўся да вёскі шчаслівых суседзяў. З цяжкасцю ўкаціў зіхатлівы нябесны камень на воз, пацягнуў павады, але ледзь зрушыліся з месца коні, быццам не камень, а гару наважыўся перавезці ў сваю гаспадарку злашчасны Пахом. Толькі на світанку дацягнуліся кабылкі Пахомавы да хаты гаспадара. Выкаціў зайздроснік камень ды і паклаў яго пад вугал сваёй хаты, лепшай апоры паўразбуранаму жытлу і не знойдзеш.

Пацёр у задавальненні Пахом рукі ды пачаў шчасця чакаць. Толькі дзе ж яно, тое шчасце? Акалелі абедзве кабылкі, што з апошніх сваіх сіл дацягнулі цяжкую паклажу, скасабочылася, завалілася набок хата, у хаце прыдушыла лаваю жонку. Праз два дні выпаў град і пабіў пасеў, зладзеі знеслі ўсё хатняе начынне, пачалі хварэць і паміраць дзеці.

Мітусіцца сярод няшчасцяў сваіх Пахом, нічога зразумець не можа. Толькі мудрыя бабулькі вясковыя хітаюць галовамі ды перашэптваюцца паміж сабою: Няйначай, грэх на душу ўзяў чалавеча!

Здагадаўся, урэшце, Пахом, што віной яго бедам. Выкаціў камень з-пад вугла хаты ды пакаціў на тое месца, адкуль калісьці ўзяў.

І як толькі сіні камень упаў ва ўжо амаль размытую дажджамі яміну, якую прабіў ён калісьці ў зямлі, падаючы з неба, скончыліся няшчасці неразумнага Пахома.

І прайшлі стагоддзі, і змяняліся людзі, а сяло Сіні Камень па-ранейшаму лічылася мясцінай шчаслівай, жытлом, дзе людзі не ведалі гора. І камень-абярог Перуноў па-ранейшаму зіхаціўся скрозь час таямнічым, глыбокім, як нябесная сінь, святлом.

...Ды пачарнеў сіні камень. У апошнюю вайну, калі чужынцы спалілі вёску...

# КРЫНІЦА

Зычныя гукі паляўнічых рагоў заставаліся ўсё больш убаку. Счырванелы ад хуткай скачкі, князь амаль ужо не чуў іх. Уся ўвага яго была скіравана наперад, туды, дзе паміж галін мільгаў белай хусцінкай хвост аленіхі. Гэта была вельмі буйная, моцная самка. Пераскочыўшы амаль праз галовы княжацкіх паляўнічых, яна вось ужо дзве гадзіны зводзіла за сабою князя кудысьці ў самую глуш.

Але адчувалася, што яна ўжо стамілася і хутка пагоня скончыцца. Так і ёсць. Аленіха спынілася і, цяжка дыхаючы, павярнулася да князя, каб годна сустрэць праціўніка.

Князь нацягнуў лук, і раптам... аленіха знікла. І разам з ёю паплылі, захіталіся, расталі ў цемры кроны дрэў. Князь апусціў лук і абцёр далонню твар. Вочы слязіліся ад нечакана рэзкага наплыву цемры. Князь выцягнуў руку — і не ўбачыў яе, паднёс да вачэй — і таксама не ўбачыў.

— Што ж гэта значыць? — услых прамовіў князь і злёгку пацягнуў павады.

Конь павольна, але ўпэўнена пайшоў. Значыць, ён бачыў дарогу.

Страшэнная здагадка, нібы паліцай па галаве, ударыла князя: ён аслеп! Князю неаднойчы даводзілася бачыць сляпых людзей. Гэта былі і дружыннікі, што страцілі зрок у бітвах, і сівыя шаноўныя мужы, вочы якіх гаслі павольна і доўга. Але каб аслепнуць вось так адразу, без усялякіх прыкмет хваробы, аслепнуць зусім маладым... У злосці князь сцебануў каня, і ён, узняўшыся на дыбкі ад нечаканасці, скінуў вершніка на мяккую траву. Імгненна ён ускочыў на ногі і паклікаў каня. Аднекуль здалёк данеслася ржанне. Князь пайшоў на гэты гук. Іржанне паўтарылася, але ўжо далей.

Цішыня з усіх бакоў напаўзла на князя, не чуваць было нават шолаху дрэў, быццам разам са слепатой надышла і глухата. Пэўны час князь вобмацкам ішоў наперад. Потым спыніўся, апусціўся на зямлю.

Ён зразумеў: гэта — канец.

Князь ляжаў на зямлі, тварам да неба, раскінуўшы рукі. Слёзы сцякалі па яго твары.

Раптам хруснула галінка. Князь уздрыгнуў. Хтосьці набліжаўся да яго. Чалавек? Звер? Здань?

— Не падыходзь! — закрычаў ён. — У мяне яшчэ хопіць сілы, каб забіць цябе!

—Навошта ж табе, князь Мсціслаўскі, жыццё беднага пустэльніка? — пачуўся ціхі, бы шамаценне травы, голас.

— Які пустэльнік? Адкуль тут пустэльнік? Ты хочаш заманіць мяне? Ты прыйшоў па маё жыццё! Ты не адзін. Колькі вас? — выкрыкнуў князь.

— Углядзіся, княжа. Хіба ты не бачыш мяне? — так жа ціха адказаў пустэльнік.

— Я цябе не бачу, — горка, але ўжо спакайней вымавіў князь. — Я сляпы, чалавеча.

Чыесьці вялікія мяккія рукі апусціліся на яго плечы, дапамагаючы яму ўстаць.

— Хто ж стварыў з табою такое, княжа?

— Мабыць, Бог. Але за што — не ведаю.

— Ідзі ж за мною, не бойся, — уздыхнуў пустэльнік. — Ніхто не пакрыўдзіць цябе, пакуль я з табою.

Яны ішлі зусім нядоўга. Потым стары ўвёў князя ў сваё жытло. Тут было цёпла і пахла зёлкамі. Пустэльнік даў госцю нейкага духмянага адвару, які той прагна выпіў, потым паднёс да князевага твару свечку, доўга ўглядаўся ў вочы.

— Што са мною, стары? — зрывістым голасам спытаў князь.

— Раніцай ты будзеш бачыць, але вельмі слаба, вечарам жа зрок зноў здрадзіць табе. І так будзе заўсёды, княжа, я ведаю гэту хваробу.

— Божа! — ускрыкнуў князь. — Значыць, мне не трэба нават вяртацца. Каму патрэбны сляпы князь? Мае ворагі заб'юць мяне, а я нават не даведаюся, хто.

Ён закрыў твар рукамі. Праз некаторы час ужо спакойным голасам папрасіў:

— Стары, дай мне атруты. Ты ж, здаецца, ведаеш, з якіх зёлак яна рыхтуецца. Такая, каб не было ні пакут, ні страху.

— Гэта словы слабога, княжа, адгукнуўся пустэльнік.

— А што ж мне яшчэ застаецца?

— Зараз спаць. А раніцай я паспрабую памагчы табе.

Шэрай раніцай разбудзіў пустэльнік князя. Ішлі яны зноў нядоўга. Спыніліся ля глiністага ўзгорка, дзе рос густы арэшнік. З-пад яго карэнняў ледзь бачным струменьчыкам прасочвалася вада.

— Калісьці тут біла крынічка, — задуменна прамовіў пустэльнік. І вада была гаючай, і многія хваробы лекавала. У пашане ў людзей была крыніца: прыходзілі сюды яны па цудоўную ваду з усіх бакоў. Але аднойчы здарылася вялікая бяда. Стары князь, твой бацька, паляваў у гэтых мясцінах, конь яго схіліўся да вады, каб напіцца, ды паслізнуўся на купіне і зламаў нагу. І князь загадаў пакараць крыніцу, засыпаць яе. Тады і апусцелі гэтыя мясціны.

Здзіўлена слухаў князь пустэльніка, які імкнуўся набраць у чару хаця б некалькі кропель каштоўнай вадзіцы.

— Табе б, княжа, вады гэтай папіць зараз ды вочы ёй прамыць. Можа, хвароба твая і прайшла б, дык хіба набярэш? — уздыхнуў стары. — Бачна, вельмі ж цяжкі грэх узяў на сваю душу бацька твой, засыпаўшы крыніцу. І хвароба твая кара за грэх той.

Тады прагучаў упарты малады голас князя:

— Я буду бачыць, чуеш, стары? Уласнымі рукамі расчышчу шлях, дам ёй волю дзеля сябе і дзеля іншых, тых, хто таксама пакутуе ад хвароб.

Штодзень прыводзіў пустэльнік князя да крыніцы, і ўвесь дзённы час сляпы дакопваўся да пахаванай калісьці вадзіцы. І спачатку яе набіралася столькі, каб амачыць ёю вочы, а потым і больш, каб зрабіць глыток, другі.

Праз тыдзень раптам з-пад пальцаў князя заспяваў, зазвінеў чысты струменьчык. І піў ваду гэтую князь вялікімі, прагнымі глыткамі. І падстаўляў вочы свае пад яе, і слёзы радасці, змешваючыся з пырскамі, сцякалі па шчоках яго.

І тады ён убачыў, спачатку няясна, а потым усё выразней галіны дрэў з трапяткім зялёным лісцем, сонца паміж верхавінамі соснаў, добры, увесь у дробных маршчынах твар пустэльніка. І яшчэ ён убачыў далёкія постаці коннікаў гэта княжыя служкі скакалі да яго, радуючыся, што, нарэшце ж, адшукалі свайго гаспадара.

Кажуць, яшчэ шэсць тыдняў ездзіў князь Мсціслаўскі да крыніцы, пакуль не стаў зрок яго такім вострым, што змог ён весці палкі свае ў час бітвы пры Грунвальдзе.

А на зямлі, дзе рукамі сваімі адрадзіў князь гаючую крыніцу, па яго волі быў пабудаваны кляштар, настаяцелем якога стаў добры пустэльнік.

Час разбурыў і абветрыў сцены Пустынскага кляштара. Але і зараз яшчэ жыве мсціслаўская крынічка, бо забываецца зло, а дабро перажывае стагоддзі.

# ЛОСКІ КУПЕЦ

У час вандровак па Беларусі мне давялося пабываць на Валожыншчыне і там пачуць прыгожую легенду, звязаную з мястэчкам Лоск. Гэта легенда тых часоў, калі Лоск яшчэ быў горадам, вядомым гандлёвым цэнтрам і ўпрыгожваў яго славуты драўляны замак, што належаў магнатам Кішкам. Людзі кажуць, што да нашых часоў легенда дайшла дзякуючы нейкаму тамтэйшаму купцу, які пакінуў яе ў сваіх запісах. Запісы не захаваліся, як не захавалася і імя гэтага чалавека. Але гісторыя, апісаная ў іх, цяпер перадаецца з вуснаў у вусны, і ў ёй, наперакор няўмольнаму часу, гучыць голас лоскага купца, загадкавай асобы з далёкага XV сгагоддзя...

* * *

...Не магу гандляваць лёнам. Бо кожны раз, як даводзіцца мне бачыць гэтае грубаватае, моцнае палатно, ува мне пачынае гучаць песня чарнакосай красуні Лоскага замка.

Як купец, самы багаты і знатны ў Лоску, я быў вельмі частым госцем у замку князёў Кішкаў. Там аднойчы я і ўбачыў яе. Мне было крыху больш трыццаці, і хаця я меў ужо сям'ю, дзявочая прыгажосць захвалявала мяне. Дзяўчына была падобна на майскую яблыньку: пяшчотная, гарэзлівая, белатварая, з доўгаю чорнай касою. Апранулася як князёўна, але я добра ведаў усіх гаспадарскіх дзяцей. Яе ніколі раней не бачыў я сярод іх, таму мне вельмі хацелася спытацца ў каго-небудзь пра новую насельніцу Лоскага замка. Добра, што не зрабіў гэтага, своечасова ўспомніўшы, якім падазроным і недружалюбным бывае князь Кішка з тымі, хто спрабуе даведацца аб таямніцах яго сям'і. Тады я паспешліва схаваў сваю цікаўнасць за звычайнымі гандлёвымі справамі.

Потым я яшчэ некалькі разоў бачыў прыгажуню і ўсё не знаходзіў зачэпкі загаварыць з ёю.

Пазней мяне зусім захапілі бясконцыя турботы. Некалькі разоў я ездзіў у Нясвіж і Навагародак, гандляваў і ў Менску. Так прайшло каля года.

У адзін з кароткачасовых прыездаў у Лоск мяне разам з некалькімі найбольш багатымі мясцовымі купцамі запрасілі ў замак. Мы пайшлі і вечарам сталі гасцямі пышнага застолля. Акрамя нас у гаспадара былі яшчэ і заезджыя госці — пяцёра магнатаў з суседніх гарадоў. Некаторых з іх я ўжо ведаў, бо даводзілася вельмі часта гандляваць у іх уладаннях. Але былі і незнаёмыя, сярод якіх найбольш прыцягваў погляд малады сінявокі дваранін. Ён быў у тым узросце, калі ў

мужчын яшчэ толькі пачынаюць прабівацца вусы, а сэрца поўніцца рамантычным жаданнем кахання і славы. Побач з ім, сарамліва апусціўшы вочы, сядзела мая "яблынька" і, чырванеючы, слухала, што ён шаптаў ёй на вуха.

"Якая прыгожая пара, — падумалася мне. Няйначай, будзе вяселле, і нас, купцоў, запрасілі сюды, каб памагчы зрабіць вясельны баль яркім, багатым".

Але я памыліўся. І зразумеў гэта толькі тады, калі хтосьці з гасцей падняў кубак за будучы паход. Значыць, Лоск чакала не вясёлае свята, а вайна, і мы павінны былі памагаць князю падрыхтавацца да яе...

Ужо амаль перад раніцай п'яных гасцей гаспадаровы слугі развялі па пакоях замка. Мне дастаўся невялічкі пакойчык з шырокім ложкам і акном, якое выходзіла ў сад. Я заснуў амаль адразу. Не ведаю, колькі праспаў, пабудзіла мяне адчуванне, быццам я не адзін. Імгненна адплюшчыў вочы і яшчэ паспеў заўважыць чорную чалавечую постаць у маім акне, якая ўзнеслася кудысьці ўгару. Праз хвіліну ўсе непаразуменні зніклі. Я здагадаўся, што той, каго толькі шго бачыў, імкнуўся трапіць у пакой, які знаходзіўся над маёй галавой. Тое, што я не памыліўся, паказаў слабы ўскрык, які данёсся зверху. Сталі чутны прыглушаныя галасы: мужчынскі і жаночы. Каюся, падслухаў усю іх размову.

— Навошта ты тут? Цябе маглі заўважыць, усхвалявана гаварыла жанчына.

— Усе спяць, а я вырашыў яшчэ раз пабачыць цябе, каб развітацца. Хутка мы паедзем, і мне не дазволяць гэтага зрабіць, — адказвалі ёй.

"Яблынька" і сінявокі дваранін (што гэта былі яны, я адразу здагадаўся) яшчэ доўга гаварылі адно аднаму пяшчотныя словы, потым пачулася добра зразумелая мне валтузня. Але, мабыць, у апошні момант дзяўчына ўсё ж такі вырвалася з абдымкаў юнака.

— Не, не трэба, — казала яна. — Нявеста павінна быць чыстай і сумленнай як перад Богам, так і перад людзьмі. Я буду верна чакаць цябе з паходу. А потым, калі ты вернешся і папросіш маёй рукі ў бацькі, стану тваёй жонкай.

— Так будзе абавязкова, — адказаў ёй юнак, хоць у голасе яго чулася незадаволенасць.

— А твае бацькі?.. Ці згодзяцца яны на наш шлюб? — раптам усхвалявана пытаецца дзяўчына. — Маці ж мая з простых.

— Што з таго? Я кахаю цябе, а ты — мяне. Значыць, мы будзем разам, — палка адказаў юнак. Ды я і зараз падараваў бы табе пярсцёнак, але ж не маю яго пры сябе.

— Каханы, — пяшчотна вымавіла прыгажуня,— я і так веру табе. — І, памаўчаўшы, дадала: — Вочы ў цябе, як кветкі льняныя, — сінія, валасы — колеру льняных валокнаў. Даю табе слова, любы: увесь час, пакуль буду чакаць цябе, адзенне маё будзе толькі льняным. І гэта будзе значыць амаль тое ж, шго і пярсцёнак на пальцы пашлюбаванай дзяўчыны...

Так я даведаўся, што прыгожая незнаёмка незаконнанароджаная дачка князя і парабчанкі.

Купцы не любяць войнаў і вельмі баяцца іх. Памыляецца той, хто лічыць, што вайна ўзбагачае гандлёвы люд. Куды прыемней і лягчэй гандляваць у мірны час півам, хлебам, лёнам ды ўпрыгожаннямі, чым пастаўляць князям, часта ў доўг, баявых коней ды зброю. Яшчэ адна небяспека: купец ніколі не можа быць упэўнены ў тым, што вайна не давядзе яго да галечы. Калі ў горад уваходзіць вораг, ён рабуе і знішчае ўсё, не разбіраючыся, каму гэта належыць. Заставацца ў Лоску і чакаць вяртання князя з паходу мне не хацелася, таму я часова пакінуў родны горад і перабраўся ў Варшаву. Туды здаўна запрашаў мяне ў госці мой добры сябра, таксама купец. У Варшаве я прабыў роўна два гады. Калі ж ваенныя клопаты трохі сціхлі, я паспяшаўся вярнуцца ў Лоск.

Адной з першых навін, якой сустрэў мяне родны горад, была звестка аб дзіўнай, незразумелай упартасці лоскай прыгажуні. Яе слова стала вядомае ўсім: яна сама прызналася ў ім бацьку. Дзяўчына працягвала чакаць свайго каханага, адмаўляючыся верыць у тое, што пасля паходу ён узяў шлюб з іншай. Цэлымі днямі яна знаходзілася ў сваім пакоі ля акна. Там ткала з ільняных валокнаў палатно, шыла сабе пасаг ды расшывала дзівоснымі ўзорамі льняныя кашулі.

Тады ўпершыню пачуў я песню пра лён. У ёй быў сум, боль, адчай. І ўсё гэта перадавалася вельмі простымі словамі:

Ужо ж я сеяла лён, —
Як кахаў мяне ён.
А як лён ды ўзышоў,
Мой каханы пайшоў.

Далей у песні расказвалася пра дзяўчыну, што ішла ўбіраць лён, а душа яе пакутавала ад чакання. Яна трапала лён, а ў думках яе быў толькі зніклы каханы. Яна ўглядалася ў сіні колер кветак ільну, і яны нагадвалі ёй вочы мілага.

Палатно тку ў журбе...

Мне б не ведаць цябе! —
ірваўся крыкам адчаю голас той, што спявала.
Колер у палатна.
Як мая сівізна, —
аплаквала яна свой лёс. І пасля кожнага куплета чулася цягуча-пакутлівае, як плач кнігаўкі: "Лён... лён... лён..." Сэрца заходзілася ад гугі і спачування, калі чуліся апошнія словы гэтай песні:
Белы саван пашыю
На любоў на маю...

Аднойчы я атрымаў ліст ад свайго варшаўскага сябра, які пісаў, што ён дабіўся дазволу караля на вандроўку ў Італію і Палесціну. Гэта абяцала вялікае багацце, бо там нашы тавары цэняць на вагу золата. Сябра запрасіў суправаджаць яго ў гэтай паездцы. Я не мог адмовіцца ад такой спакусы. Атрымаць дазвол для мяне было проста. І вось — Італія! Яна ўразіла мяне і пакарыла. Пышныя палацы, аздобленыя золатам храмы, вясёлыя карнавалы, даступныя прыгажуні, выгадны гандаль... Мая вандроўка зацягнулася амаль на пятнаццаць гадоў. Я выпісаў да сябе сям'ю і пасяліў іх ва Фларэнцыі.

Толькі надыход старасці прымусіў мяне вярнуцца ў родныя мясціны. Якім жа маленькім, цесным здаўся мне Лоск! І нават княжацкі замак панік побач з італьянскімі palazzo. Але разам з гэтым вялікая любоў да маёй маленькай радзімы сціснула сэрца...

На другі ж дзень пасля прыезду я наведаў гаспадара Лоскага замка. Мяне адразу прынялі. Князь вельмі пастарэў, стаў павольны і задуменны ў рухах. Ён быў не адзін. Прыгожы мужчына ў росквіце моцы сваёй падаўся знаёмым, але я ніяк не мог успомніць, дзе бачыў яго і калі.

— Я ведаю, што ты прывёз з Італіі шмат залатых і срэбраных упрыгожанняў, — звярнуўся да мяне князь. — Можа, штосьці з іх зацікавіць маю затворніцу дачку, што колькі ўжо год, акрамя льну, нічога ведаць не хоча.

— Акрамя льну? — раптам уздрыгнуў прыгожы мужчына. — Ты не гаварыў мне нічога, хоць я вось ужо другі дзень гасцюю ў цябе, — звярнуўся ён да гаспадара. Няўжо яна яшчэ...

— Так. Яна працягвае чакаць цябе, — сумна адказаў князь, і я зразумеў, хто перада мною: няверны каханы лоскай прыгажуні.

— Яна ведае аб тым, што я тут? — усхвалявана спытаўся ён.

— Не. Навошта? Ты, хоць і ўдавец, не возьмеш яе. Ды і ніхто зараз не возьме, бо згубіла яна свой светлы розум разам з прыгажосцю. Хаця б у манастыр згадзілася пайсці, — павольна адказаў князь.

— Я павінны ўбачыць яе! — загарэўся госць.

— Не трэба! — сурова вымавіў князь, заступіўшы яму дарогу.

Але раптам абодва сціхлі, зірнуўшы на дзверы. Там стаяла жанчына. Ніхто не заўважыў, як увайшла яна. Худая, бледная, з сеткай дробных маршчынак ля вачэй і ўся сівая, вось што засталося ад лоскай прыгажуні.

Яна зрабіла некалькі крокаў наперад і раптам з адчаем і страсцю працягнула рукі да таго, каго чакала ўвесь гэты час. І ён, гледзячы на яе з жахам, як па прывід, што выйшаў з магілы, адступіў, пасунуўся ад яе.

— Не, гэта не яна... не яна... — ціха шаптаў мужчына.

Пачуўшы гэты шэпт, спынілася, нібы натыкнуўшыся на нябачную перашкоду, сівая жанчына, застагнала і, закрыўшы абедзвюма рукамі твар, выбегла з залы. Праз некалькі хвілін да нас данёсся немы крык чалядзінак:

— Скочыла з акна! Разбілася! Да смерці!

Не згаворваючыся, кінуліся мы ўсе на двор. Яна ляжала на зямлі ўжо нежывая, і нават крыві не было.

Першы падбег да яе няверны каханы і раптам адскочыў у жаху. Калі я ўбачыў тое, што напалохала яго, і маё сэрца зайшлося... Маршчыны, згаслыя вочы, выцвілыя губы нічога гэтага больш не было. Перад намі ляжала шаснаццацігадовая красуня з гладкім пяшчотным тварам — майская яблынька, ссечаная з кветам. І толькі каса яе па-ранейшаму была сівою, як напамін аб перанесеных пакутах і горы.

— Любава! Любавачка! — ускрыкнуў яе згубіцель і кінуўся цалаваць мёртвыя вочы, вусны, рукі.

Так упершыню я пачуў імя лоскай прыгажуні. Ды мне здалося, што я заўсёды ведаў яго. Сапраўды, якое іншае імя больш падыходзіла да яе?

З таго часу прайшло шмат гадоў, а я ўсё памятаю, спрабую зразумець незразумелае і пакутую ад гэтага. І яшчэ адно: не магу гандляваць ільном...

## ТАЯМНІЦА ГЛЫБІНЬ СВІЦЯЗЯНСКІХ

Была Еўдакія сястрою салдата, жонкай салдата, маці салдата. Атрымала з вайны тры чорныя лісты. Адплакала, адгаласіла, пасівела, пазбавілася красы-прыгажосці сваёй. Але ж жыццё працягваецца. І жыла Еўдакія, як трава лугавая, не ведаючы, навошта. Толькі радасці і было, калі зазірне ў яе бедную ўдовіну хату вясёлы пастух дзед Мікола. Шмат ведаў стары цікавых гісторый: шмат на свеце пражыў, праз тры вайны прайшоў. З ім ажывала сэрца Еўдакіі, быццам знікала, забывалася на час яе вялікае гора. Але адыходзіў дзед Мікола, і зноў навальвалася яно на няшчасную жанчыну — глыбокае і цёмнае, бяздоннае, бы азёрныя воды. Можа, таму іншы раз цэлы дзень хадзіла яна ля возера, імкнучыся разгледзець нешта праз дробныя хвалі. Добрыя суседкі спачатку спрабавалі адвесці яе далей ад вады, баяліся, што накладзе на сябе рукі. Але потым звыкліся і нават перасталі заўважаць гэткае дзівацтва.

Аднойчы Еўдакія, як заўсёды, была ля возера і раптам убачыла, што з вады да берага цягнецца прыгожая блакітна-серабрыстая стужка.

"Мабыць, хтосьці мыў бялізну ды згубіў яе тут", — падумала Еўдакія і пацягнула стужку на сябе. Пачуўся ціхі доўгі гук, быццам хтосьці дакрануўся далонню да звона. Стужка аказалася вельмі доўгай і ўсё цягнулася з вады. Жанчына і не заўважыла, як у руках апынуўся маленькі срэбрана-блакітны клубочак, і чым большы ён станавіўся, тым больш рассейваўся туман над возерам, тым чутней станавіліся галасы званоў.

І тут Еўдакія, узняўшы вочы, уздрыгнула: над вадой паказаліся залачоныя крыжы і купалы царквы. Некалькі імгненняў — і купалы ўзняліся ўгару, пад імі з вады вырасла званіца. Гучна, трывожна адазваўся звон і Еўдакія разгледзела праз туман цёмную постаць званара. Раптам заплакалі, загаманілі сотні чалавечых галасоў, спалоханыя вароны ды галкі пазляталі з дрэў, што абступалі возера, і ў страху Еўдакія выпусціла клубок з рук, моцна заплюшчыла вочы, заціснула далонямі вушы...

Усё абарвалася... І цішыня, якая раптоўна навісла над возерам, здалася яшчэ больш страшэннай, чым таямнічы гоман нябачных людзей.

Калі Еўдакія асмелілася расплюшчыць вочы, не было ўжо ні царквы, ні стужкі, а над Свіцязем па-ранейшаму клубіўся туман. Без памяці прыбегла жанчына да хаты дзеда Міколы. Цяжка дыхаючы, апусцілася на лаву.

— Што з табою, родная? — ласкава спытаў стары.

Доўга, збіваючыся, расказвала Еўдакія аб незвычайным здарэнні ля вады, а потым дзед Мікола спыніў яе:

—Чакай, Еўдакійка. Ці не аб гэтым жа чуў я ад майго прадзеда? Гавораць, так даўно, што і прыпомніць ужо нельга калі, на месцы возера стаяў горад, маленькі, але прыгожы. Жылі ў ім добрыя людзі: сумленныя купцы, умелыя рамеснікі, слаўныя воіны. Правіў жа горадам малады, але вельмі разумны, смелы і адукаваны князь. Горад назваў ён сваім імем — Свіцязь, бо калісьці будаваў яго сваімі рукамі.

І быў Свіцязь шчаслівым горадам, бо шчаслівымі былі свіцязяне, якім князь дараваў справядолівыя законы. І быў князь шчаслівым, бо любілі і шанавалі яго ў народзе.

Але надышлі чорныя часіны. З чужадальніх земляў, ад туманнага заходняга мора, прыйшлі ў наш край ворагі. Былі яны моцы велізарнай, колькасці неперавічанай, выгляду сграшэннага: з галавы да ног закаваныя ў жалеза, на шаломах пагрозлівыя рогі, за плячыма — плашчы з крыжамі. Неслі яны нашым людзям смерць і разбурэнні, і шлях іх ляжаў праз Свіцязь...

Тады ўдарыў свіцязянскі набат, заплакалі дзеці, загаласілі жанкі, і сціснулі мужныя рукі воінаў дзяржальны мячоў. Выйшаў на плошчу малады князь, суровы і строгі. І былі вочы яго чырвонымі ці ад бяссоннай ночы, ці ад нянавісці да ворагаў, ці, можа, ад пякучых, бы агонь, слёз. Ведаў князь: не выстаяць гораду пад націскам моцы чужынцаў, бо сілы — няроўныя. Але ведаў князь таксама, што нельга здаць горад без бою, бо няма большай ганьбы.

Хацеў сказаць нешта свіцязянам у апошні раз, але раптам пачуліся гукі рагоў — чужынцы выклікалі на бой.

І выйшла насустрач жалезным ворагам маленькая дружына княжацкая ды з ёй усё воінства гарадское. Нядоўга білася поле ля горада крывавую расою пакрылася. Тады прыўзняўся над целамі забітых ворагаў сваіх малады князь са стралой у грудзях, абвёў апошнім паглядам нешматлікіх ратнікаў, што з адчаем адбіваліся ад соцень жалезных воінаў, і ледзь чутна прашаптаў: "Божа, не дапусці ганьбы горада майго..."

І калі халоднае асенняе неба адлюстравалася ў яго мёртвых вачах, знік раптам Свіцязь. А на месцы горада разлілося возера. І застылі ў здзіўленні і страху на беразе жалезныя пераможцы.

Але, — працягваў далей дзед Мікола, — легенда гаворыць, раз у сто гадоў адкрываецца Свіцязь для вачэй чалавечых. Ды толькі таму чалавеку, які прайшоў праз смерць, слёзы, гора, цяжкія выпрабаванні і не страціў сваёй чалавечай шчырасці, дабраты, спагадлівасці. Вось

яму і трапляе ў рукі цудоўная стужка хваляў азёрных. І калі зможа ён зматаць усё возера ў адзін клубок — зноў вернецца да нас Свіцязь такім, якім ён быў. І выйдзе насустрач з глыбінь стагоддзяў малады князь, жывы, непаранены. І вернецца шчасце да нашай шматпакутнай зямлі. Але нікому яшчэ не ўдавалася гэта — мабыць, для шчасця і міру яшчэ не час...

Узрушаная ад пачутага, Еўдакія вярнулася да возера. Увесь дзень хадзіла яна ля вады, шукала таямнічую стужку, але глухім і нямым было на гэты раз возера. Моцна хавала яно ў глыбінях сваіх таямніцу дзівоснага горада ў чаканні наступнага стагоддзя.

# МІНДОЎГАВА КАРОНА

Над Новагародкам раскінулася зорная асенняя ноч. Горад спіць, і толькі, курчачыся ад холаду, ходзяць па замкавых сценах вартавыя. Вось сышліся двое з іх, пачалі перашэптвацца. Ноч такая бясконцая, і так пуста ды самотна, калі пад нагамі тваімі спіць горад, а над табою — толькі высокае чорнае неба. Воі-вартавыя знарок намячаюць сабе шлях так, каб час ад часу сустракацца. Два-тры словы — і яны зноў разыходзяцца.

— Гэй, сябра! Я цябе бачу ўпершыню. Скуль ты ўзяўся?

—Я — літовец. Я тут не так даўно. Прыйшоў з тых месцаў, дзе нарадзіўся наш кароль Міндоўг. Я — яго зямляк. А ты?

—Я — Шэраш, тутэйшы, беларусец. Служу Міндоўгу ўжо амаль цэлы сонцазварот. Але мне не падабаецца тут, і хутка я вярнуся да родных мясцін. Калі ты не супраць, будзем расказваць смешныя гісторыі — так хутчэй ноч бяжыць.

Вочы ў тутэйшага хітра блішчаць. Ён ужо ўбачыў, як, ухмыльнуўшыся, раптам ганарліва выцягнуўся яго субяседнік. Калі б не трэба было разыходзіцца, напэўна, Міндоўгаў зямляк сказаў бы штосьці з пагардай пра тутэйшых. Такіх, як ён, шмат з'явілася з тых часоў, калі князь Міндоўг стаў уладаром беларускага горада Новагародка. І асабліва пасля таго, калі стаў ён называць сябе каралём.

Пры наступнай сустрэчы вой-сусед сапраўды пачынае расказваць нейкі жарт пра дурнога тутэйшага, які ўлез з возам у дрыгву і ніяк не мог зразумець, чаму зямля засмоктвае яго дабро.

Што ж, калі яны сыдуцца ў наступны раз і час прыйдзе расказваць Шэрашу, ён адпомсціць самаўпэўненаму суседу. Ён раскажа яму пра Міндоўгаву карону.

* * *

З каронай было так. Калі аказалася, што ў Новагародку і Літве няма майстра, які б мог зрабіць яе для самалюбівага і ганарлівага Міндоўга, ён вырашыў дамовіцца аб гэтай важнай справе з кракаўскімі ювелірамі. Тыя згадзіліся за вялікую плату. "Калі Міндоўг хоча быць каралём, няхай і плоціць па-каралеўску", — меркавалі яны.

Карона атрымалася сапраўды цудоўная. Высокая, уся разная, бы абкружаны гатычнымі шпілямі сабор Дзевы Марыі ў Кракаве. З усіх бакоў, быццам разынкі са святочнага пірага, вытыркаліся з кароны каштоўныя камені ўсіх колераў вясёлкі. Вянчаў жа карону велічэзны шліфаваны алмаз. Кракаўскія майстры самі былі вельмі задаволены сваёй работай. Яны напісалі Міндоўгу, што карона гатова, але каштуе

яна значна даражэй таго, аб чым было дагаворана, і таму яны патрабуюць даплаты. Чалавек, які прывёз пісьмо, доўга з захапленнем апісваў князю, як выглядае яго карона. І, мабыць, Міндоўг застаўся задаволены, таму што ён адразу ж сабраў неабходную даплату і накіраваў лепшых сваіх людзей у Кракаў па каралеўскі галаўны ўбор. Тады ж быў назначаны дзень каранацыі, і ва ўсе бакі дзяржавы Міндоўга раз'ехаліся ганцы, абвяшчаючы людзям пра Міндоўгаву волю...

* * *

Познім вечарам у Кракаве ў дом ювеліра пастукаліся двое нявядомых. На адным з іх быў манаскі капюшон, які закрываў увесь твар чалавека.

— Пакажы нам карону, якую ты зрабіў для новагародскага князя, — папрасіў ён майстра.

—Панове, я нікому не абавязаны падпарадкоўвацца, акрамя майго круля. А вас дык я зусім не ведаю.

Чалавек у манаскім адзенні прыўзняў капюшон, і ювелір, імгненна замаўчаўшы, апусціўся перад ім на адно калена.

— Ну, а цяпер ты мне пакажаш Міндоўгаву карону? — спытаў кароль польскі, бо гэта быў менавіта ён. І залатых спраў майстар павёў нечаканых гасцей у дом і паказаў цудоўную сваю работу. Доўга глядзеў на яе кароль, а потым, нічога не сказаўшы, пайшоў. І толькі на вуліцы ён шапнуў свайму спадарожніку:

— Ну вось, дачакаліся. Цяпер у гэтых выскачак-новагародцаў будзе свой круль. Ці разумееш ты, як гэта небяспечна для няшчаснай Польшчы, якую і без гэтага раз'ядаюць усобіцы. Крулю з Новагародка будзе лёгка пераманіць да сябе частку маіх васалаў.

— Усё так, мой пан. Але што можна тут зрабіць?

— Слухай жа: карона гэтая не павінна дайсці да Міндоўга!

—Мы мусім затрымаць яе ў Кракаве?

— Ні ў якім разе! Я не хачу, каб узнікла вайна! Але карона можа згубіцца ў дарозе.

— А вось гэта — думка, — узбадзёрыўся субяседнік караля. — Па якому шляху павязуць новагародцы карону з Кракава? Праз пушчу? Ці не ў гэтых мясцінах гойсаюць дабучынскія галаварэзы?

— Дабучынскія? — зацікавіўся польскі кароль.

— Так. За пушчай, амаль на граніцы Літвы з Польшчай, ёсць мястэчка Дабучын. Яно з усіх бакоў абкружана лясамі, і лясы таксама завуцца Дабучынскімі, бо прыносяць тамтэйшым людзям шмат добрай здабычы, і не толькі зверам ды раслінай. Праз гэтыя лясы

праходзіць шлях з Польшчы ў Літву, і многія вандроўнікі становяцца ахвярамі мясцовых разбойнікаў. Дабучынскія галаварэзы іншы раз з'яўляюцца і ў нашых землях. Дарэчы, беластоцкі ваявода даставіў нядаўна ў Кракаў траіх. Яны зараз у турме, іх павінны павесіць. Але мы маглі б адпусціць аднаго з іх.

У той жа вечар малады вершнік, хударлявы, з глыбокім шрамам на левай шчацэ, выехаў з кракаўскай брамы і, прагна глынуўшы свежага паветра, сцебануў каня...

* * *

—А ты не жартуеш? — грозна спытаў атаман.

—Навошта? — засмяяўся яму ў адказ малады разбойнік.

Хто цябе ведае, аб чым ты дамовіўся з ляхамі? Можа, там будзе засада на нас?

— А раней ты мне верыў, Шпак.

— Верыў, так, верыў. Але вось ты — жывы і тут. А двое сяброў нашых, што былі з табою, разгойдваюцца ў пяньковых каралях.

— Ну, хопіць! — успыхнуў малады разбойнік. Ты пакрыўдзіў мяне, Шпак. Я больш з табой не застануся. Лічы, што гэта будзе мая апошняя справа. Я першы выйду на шлях і спыню Міндоўгавых людзей, каб вы мне паверылі. Але за гэта я патрабую сваю частку здабычы вялікі алмаз з кароны.

—Хай будзе так! адказаў агаман...

* * *

У Навагародку Міндоўг чакаў сваёй кароны. Усе тэрміны прайшлі, наступіў дзень, назначаны для каранацыі, а кароны ўсё няма. Навагародак нецярпліва шумеў, Міндоўг нерваваўся. Тады і прынеслі Міндоўгу чорную вестку: яго людзі забіты разбойнікамі ў змрочных Дабучынскіх лясах. Карона знікла. У гневе Міндоўг разбіў любімы кубак, разламаў цяжкай паліцай некалькі лаў і загадаў пакараць бізунамі весніка. Але адмовіцца ад каранацыі было ўжо нельга. І Міндоўг каранаваўся... медным абручом, які спехам выплавіў для яго з цяжкага падсвечніка спалоханы меднік...

* * *

Шэраш з хітрай усмешкай расказвае суседу, які кіслы быў твар вялікага Міндоўга ў хвіліну, калі на яго галаву святар апускаў нязграбнае меднае ўпрыгожанне, і як нямногія з тых, хто ведаў гісторыю з каронай, у гэты момант з цяжкасцю стрымлівалі ўсмешку.

Яго аповед разлічаны правільна: ганарлівы сусед не вытрымлівае і крычыць:

— Гэта — хлусня! Вам, тутэйшым, проста зайздросна, у вас былі князі, але ніколі не было свайго караля! А вялікі Міндоўг...

— З'яўляецца звычайным князем, — спакойна працягвае Шэраш. У вас таксама няма караля, бо нашы разбойнікі пазбавілі яго кароны. Без кароны што за кароль?

Сусед чырванее, потым бляднее і, раптам развярнуўшыся, хутка ідзе прэч ад свайго субяседніка.

Становіцца халадней. Асенні мароз моцна пакусвае рукі і твар. Асабліва Шэраш адчувае яго ў тым месцы, дзе шчаку яго перасякае шрам — памятка аб былых подзвігах. Ён праводзіць пальцамі па шчацэ і раптам зноў успамінае пра нядаўнюю размову. Ціха смеючыся, Шэраш штосьці дастае з маленькага скуранога кашаля на поясе.

Месячнае святло падае на рэч, што трымае Шэраш на далоні. У месячных промнях незвычайна і таямніча зіхаціць вялікі алмаз з кароны Міндоўга.

## "СВЯТЫ" ШЭРАШ

Шарашоўскі кірмаш! Якімі фарбамі расквечаны купецкія лаўкі, блішчаць на сонцы золатам велізарныя яблыкі ў кошыках, спалохана квохчуць куры ў руках гандлярак, весела гучаць заклікі: "А вось гліняныя гаршкі!", "Каму, каму спелых сліў? Падыходзь! Бяры!", "Стужкі! Стужкі красуням у косы!". У самым цэнтры базарнай плошчы размясціўся батлеечнік. Дзесяткі разявакаў стоўпіліся вакол яго і са смехам назіраюць за пацешнымі прыгодамі мужыка, што спачатку лупіць кіем пана, потым — папа і, урэшце, самога чорта. Усім падабаецца вясёлы паказ. І толькі стары з вялікаю калмагай барадою, здаецца, не падзяляе агульнага настрою. Ён пражыў ужо не адзін дзесятак гадоў на свеце і не ўпершыню прысутнічае на батлеечным спектаклі. Заўсёды паказваюць адзін і той жа сюжэт, толькі зрэдку мяняючы штосьці ў ім. Але ж вось гэтак, праз вясёлых лялек, можна расказаць людзям шмат аб чым. Хаця б гісторыю Шэраша, таго самага легендарнага заснавальніка іх мястэчка. Гэта было б не толькі цікава, гэта дапамагло б людзям захаваць памяць аб продках, якую яны ўсё больш і больш страчваюць. Вырашана: пасля спектакля стары падыдзе да батлеечніка і падкажа для яго лялек новы сюжэт...

Калісьці даўно на месцы Шарашова быў толькі лес. І не было нідзе паблізу чалавечага жытла, калі не лічыць маленькай бруднай карчмы, што стаяла на ўскрайку гандлёвага шляху, які праходзіў у некалькіх вёрстах адсюль. Хадзіла пра карчму дурная пагалоска, быццам водзіць сяброўства гаспадар яе з ляснымі зладзеямі. З-за гэтага апусцела карчма, і даўно ўжо багатыя вандроўнікі не спыняліся ў ёй. Але аднойчы познім вечарам тут з'явіўся малады чалавек, багата апрануты, па ўсім відаць, дваранін.

— Гэй, гаспадар! — гукнуў ён. — Вось табе залаты за вячэру для мяне і авёс для майго каня. Я спынюся ў цябе на ноч.

Убачыўшы золата, неяк дзіўна бліснулі карчмаровы вочы. Кінуўся ён да нечаканага госця, кланяецца яму, усміхаецца, налівае самае лепшае віно, саджае на самае лепшае месца, адганяючы ад яго п'яных пастаяльцаў у лахманах, што абступілі ўжо з усіх бакоў маладога двараніна. Тыя моўчкі адыходзяць і рассаджваюцца па кутках, змрочна аглядаючы адтуль госця. І доўга ў цішыні чутны лісլівы голас карчмара, які прапануе маладому вандроўніку лепшыя стравы. Але вось і ён сціхае і пакідае пастаяльцаў, каб паклапаціцца пра госцева каня. Тады за стол да двараніна падсаджваецца невядомы, хутчэй

падобны на жабрака, чым на чалавека, які здольны заплаціць за ноч у карчме.

—Ты хто такі? — пытаецца ён у маладога чалавека пасля некалькіх хвілін маўчання.

—Хутчэй гэтае пытанне павінен задаць я, — з гонарам адказвае дваранін.

— Я магу адказаць, але баюся, што маё імя нічога табе не скажа, тады як даведаўшыся аб тым, хто ты, я мог бы дапамагчы табе, — гаворыць жабрак.

— Мне не патрэбна нічыя дапамога, — адказвае дваранін, пры мне мой гонар і шабля.

—Што ж, шкада, што ты адмаўляешся ад сяброўства са мною, — ціха гаворыць незнаёмы і знікае.

* * *

Сярод ночы нешта прымусіла маладога дваранiна прачнуцца i сціснуць дзяржальна шаблі. Рыпелі прыступкі, што вялі ў пакой. Імгненне, і дзверы расчыніліся. У іх з'явіўся карчмар, які трымаў у адной руцэ свечку, а ў другой вялікі нож. Свечка добра асвятляла яго бледны, перакрыўлены грымасай твар. Ён зрабіў некалькі крокаў да пастаяльца і спыніўся.

— А, вы не спіце? — прагаварыў ён. — Што ж, тым горш...

Карчмар свіснуў, і ў пакой уварвалася ажно шэсць чалавек.

Прытуліўшыся спінай да сцяны, дваранін адчайна адбіваў удары, якія сыпаліся на яго. Некалькі разоў шабля яго трапляла ў нешта мяккае, і тады ў цемры чуліся лаянка і глухія стогны. Але і сам ён быў ужо ўвесь у крыві. І тады нечакана прыйшла дапамога. Нехта моцны і спрытны ўскочыў праз акно ў пакой, і ў галовы нападаючых паляцелі лава, шандалы, збан з вадой, што стаяў у кутку пакоя. Перавернуты дагары нагамі стол прыдушыў некага, цяжкая дубінка прайшлася па чыіхсьці рэбрах, і тады з ровам начныя забойцы кінуліся прэч з пакоя.

—Як мне аддзякаваць вам, мой заступнік? — цяжка дахаючы, спытаўся дваранін.

— Твой конь пад акном, — адказалі яму з цемры.

* * *

Пасля доўгай і хуткай скачкі два вершнікі спыніліся, і дваранін, які змог, урэшце, добра разгледзець свайго спадарожніка, са здзіўленнем пазнаў у ім дзіўнага жабрака, што прапанаваў яму сяброўства.

—Можа, цябе здзіўляе, што ў мяне таксама ёсць конь? — адазваўся жабрак. — Дык гэта не мой, я звёў яго з канюшні карчмара.

—За што яны хацелі забіць мяне? — спытаўся дваранін.

— З-за тваіх грошай. Хіба ты не ведаеш, што такім людзям, як гэты карчмар, нельга паказваць золата?

—Але ж той залаты, якім я расплаціўся за начлег, быў у мяне апошні.

Хвіліну спадарожнік маладога чалавека здзіўлена глядзіць яму ў твар, а потым пачынае рагатаць. Ён спаўзае з сядла на зямлю і качаецца на ёй.

—Вой, дурні, дурні! — чуецца праз смех. — Каб жа яны ведалі! Вось ужо сапраўды, па знешняму выгляду яблыка ніколі не разгадаеш, ці не чарвівы ён! Глядзі, каго павінны былі рабаваць, — на далоні жабрака з'яўляецца незвычайнай велічыні алмаз, і вочы яго субяседніка становяцца здзіўлена-вялікімі.

* * *

Так нечакана пачалося сяброўства кракаўскага двараніна Яна Красоўскага і вольнага чалавека Шэраша. І незвычайнымі былі лёсы кожнага з іх. Збяднелы дваранін Ян Красоўскі меў шчасце спадабацца адной з самых знатных дам пры двары караля. На жаль, у каханай маладога прыгажуна аказаўся раўнівы муж, які прыклаў усе сілы, каб ушчэнт разарыць свайго саперніка і пастаяннымі праследаваннямі прымусіць яго пакінуць Кракаў.

Шэраш жа за сваё жыццё паспеў змяняць шмат гаспадароў і вырашыў, што лепш за ўсё ні ад каго не залежаць. Але больш за ўсё Шэраш ганарыўся глыбокім шрамам праз увесь твар, па якім пазнавалі яго і сябры, і ворагі. Што датычыцца алмазу, дык з'яўленне яго ў дзіравых кішэнях Шэраша толькі сведчыла, што не заўсёды гэты чалавек быў бездакорны з законамі.

Як бы там ні было, Шэраш падгаварыў новага сябра на дамову: яны аб'ядноўваюць разам знатнае імя Красоўскага і алмазнае багацце Шэраша, каб дабіцца ад караля дазволу пабудаваць невялічкае паселішча, якое насіла б імя Шэраша і фармальна належала Красоўскаму. Гэта было выгадна і беспрытульнаму двараніну, і бадзягу з цёмным мінулым.

Так узнікла Шарашова. І першымі жыхарамі яго былі сябры Шэраша па яго вандроўках. Суровыя, моцныя, гордыя, яны прыходзілі сюды, каб знайсці часовы прытулак ад шматлікіх ганіцеляў, і заставаліся назаўсёды. У новае паселішча перабраліся таксама сяляне, якім абрыдлі прыцясненні мясцовых уладальнікаў. У Шарашове пасяліліся

рамеснікі і купцы, стары святар з памагатымі. Душой усіх быў дзейсны, вясёлы Шэраш. Ён назіраў за жыццём і працай мястэчка, разбіраў скаргі жыхароў, іх спрэчкі, бласлаўляў шлюбы, разам з узброеным атрадам абараняў цаселішча ад ворагаў. Яго імяніты таварыш толькі здзіўляўся энергічнасці і сардэчнай шчодрасці, якія праяўляліся ўва ўсім: ад падзелу паміж жыхарамі Шарашова адбітага ў шматлікіх ворагаў багацця да кахання. Шэраш не абраў сабе жонку, але шмат хто з дзяцей новага паселішча горда насіў прозвішчы Шарашовіч, Шаршуновіч, Шарашовец, утвораныя ад імя іх бацькі...

* * *

Аднойчы Яна Красоўскага знайшлі ў лесе. У грудзях яго тырчаў дарагі кінжал з вензелямі. Стары раўнівец адшукаў, нарэшце, сваю ахвяру.

Змрочны цень лёг на твар Шэраша... Ноччу, пасля пахавання сябра, ён сабраўся ў дарогу, узяўшы з сабою кінжал, якім быў забіты Красоўскі.

Прайшло няшмат часу, і нават да гэтых глухіх месц даляцела жудасная вестка пра страшную помсту Шэраша і пра тое, што кароль пакляўся злавіць і пакараць мсціўца. І гэта было адзінае, пра што дакладна даведаліся жыхары Шарашова. Шмат гадоў яны чакалі вяртання Шэраша, але дарэмна. Хадзілі чуткі, што ён загінуў у сутычцы з атрадам каралеўскіх стралкоў. Але ніхто не хацеў верыць у гэта. Бо доўга яшчэ некаторыя маладыя маці паселішча ўпарта называлі бацькам сваіх нованароджаных дзяцей Шэраша, які быццам бы хаваецца ў лесе разам з найбольш смелымі і адважнымі паплечнікамі. Як бы там ні было, праўды аб канцы Шэраша і да гэтых часоў ніхто не ведае...

* * *

Стары завяршае свой расказ, працягваючы руку да ратушы, на якой красуецца герб Шарашова: чалавек, апрануты ў рыззё, са ззяннем вакол галавы.

— Не глядзі, што на ім німб, — давяральна шэпча сівы расказчык свайму субяседніку. — Гэта — зусім іншы святы, не той, пра якога ты думаеш. Каралева Бона, даючы Шарашову магдэбургскае права, наказала майстрам выбіць на нашым гербе аднаго са сваіх святых патронаў. Ну, яны і выбілі постаць "святога" Шэраша, якому кароль так і не дараваў яго ўчынку. Усе аб гэтым ведаюць, але ні адзін з гараджан ніколі не выдасць майстроў. Гэта — самая свяшчэнная таямніца Шарашова.

## ЦАРЫЦЫНА ЎЗНАГАРОДА

Ці было гэта сапраўды, ці, мабыць, і хлусяць, але ж людзі гавораць, а мы, наіўныя, верым ім, што аднойчы праз беларускія землі ехала кудысьці па сваіх царскіх справах Кацярына II. Не адна ехала, са сваімі фаварытамі: графам Разумоўскім, графам Арловым і самім князем Пацёмкіным-Таўрычаскім.

Дарога доўгая, нудная, камарыкі беларускія з балот ды з лясоў зусім змучылі царыцу. Адганяе яна іх веерам, ды яны зноў насядаюць.

—Фуй, гэта ест дзікі край! — скардзіцца Кацярына. Колькі едзем ні аднаго горада. Я прэдпалагайт, тут і людзі зусім не жывуць!

— Ды як жа, жывуць, матухна, — адказваюць ёй. Вось хутка горад праязджаць будзем. Уздой называецца.

—Узда? Гэта ест отшэн цікавы назва. Я хацель бы ведаць, чаму ён такі? О, хто даведаецца пра гэта хутчэй і раскажа мне, — таго я буду добра ўзнагароджваць.

Пачулі гэтыя словы графы Разумоўскі ды Арлоў, даведаўся пра іх сам князь Пацёмкін-Таўрычаскі. І кожны вырашыў для сябе: маёй будзе гэтая ўзнагарода! Ведалі ж, якой шчодрай бывае царыца, калі ёй добра дагадзіць.

Вось пад'язджае карэта Кацярыны да гарадской брамы. Што пачалося тут! Ударылі званы, збегліся спалоханыя гараджане, выйшлі да карэты бургамістр ды папы з найбагацейшымі купцамі, хлеб-соль на ручніку вынеслі. Але ж царыца не рада. Галавою па баках паварочвае, дзе тут залачоныя палацы, пышныя кафтаны, шырокія крыналіны? І нос двума пальцамі заціснула:

—Фуй, тут ест отшэн непрыемны пах! Колькі мужыкоў, ды ўсе ў брудных панчохах! Ай, не! Тут я спыняцца не буду, пасля абедні ж і ад'еду.

Чуюць гэта графы Разумоўскі і Арлоў, задумваецца сам князь Пацёмкін-Таўрычаскі. Да абедні ж нямногім больш гадзіны засталося. Не даведаюцца за гэты час аб назве Узда — страчана царская ўзнагарода!

І вось просіцца граф Разумоўскі, каб адпусцілі яго хаця б на паўгадзіны па горадзе пахадзіць. Бо ён чуў, што хтосьці з яго далёкіх родзічаў жыве ў гэтых мясцінах. Сам жа толькі за вугал завярнуў — хап першага сусгрэчнага за каўнер:

— Ану, даражэнькі, расказвай мне, чаму горад ваш Уздой называецца? Скажаш, атрымаеш залаты грош з выявай матухны Кацярыны Аляксееўны!

Паглядзеў на важнага пана хітры беларус ды і гаворыць:

— Шаноўны пане, яшчэ ад прадзеда свайго чуў я адну гісторыю. Быццам калісьці вельмі даўно валодаў мястэчкам гэтым слаўны князь. І быў у яго малады сын. Палка ж закахаўся княжыч у адну дзяўчыну. Прыгожая была, добрая, працавітая, разумная. Адна бяда нязнатнага роду. Не даў стары князь блаславення свайго на шлюб гэты, ды малады упарты быў, супраць бацькі пайшоў, пры ўсім народзе нявестай дзяўчыну назваў. І ўжо дзень быў назначаны, калі ў храм павядзе маладую жаніх, але ж на ранняй зорцы ў дзень гэты вылавілі рыбакі цела княжай нявесты ў рэчцы. Людзі кажуць, стары князь загадаў утапіць яе. Пахавалі прыгажуню, але пасля гэтага княжыч нібы розум страціў. Усё хадзіў ён па беразе ракі і клікаў каханую па імені: "Узда! Уздзянка!" Вось і стаў горад наш Уздою, а рака — Уздзянкай.

Узрадаваўся граф Разумоўскі, паспяшаўся да царыцы. А ў гэты час граф Арлоў ужо дапрошваў аднаго яўрэйскага купца, таксама жыхара гэтага горада. Убег ён у лаўку бедалагі і, размахваючы шпагай, стаў гразіць яму:

— Заб'ю цябе, як сабаку, калі не скажаш, чаму горад ваш Уздою называюць!

Задрыжаў купец, ды рабіць няма чаго, трэба нешта прыдумляць:

Гаворать, даўно яшчэ, пры татарах, быў у гэтых мясцінах гаспадаром жорсткі хан Койдан. Адзінае, што любіў гэты чалавек — золата. Залатыя ланцугі ўпрыгожвалі шыю яго, залатыя пярсцёнкі зіхацелі на кожным пальцы яго, з золата была збруя яго каня. Аднойчы хан Койдан вырашыў даведацца, якой глыбіні наша рака. Але пасярэдзіне ракі закруціў яго вір, ледзь не патануў Койдан разам з канём. Выбраўся на бераг, паглядзеў, а вуздэчкі залатой з алмазамі на кані і няма засталася ў рацэ. Раззлаваўся хан, загадаў сагнаць усіх мужчын-гараджан да ракі, каб шукалі яны вуздэчку. І пачалі ныраць людзі пад татарскімі бізунамі. А плынь хуткая, рака глыбокая. Шмат людзей загінула ў рацэ. Вуздэчкі ўсё роўна не знайшлі. Таму рака атрымала назву Уздзянка, а горад — Узда.

Адпусціў граф Арлоў купца, сам кінуўся да царыцы па ўзнагароду.

Князь жа Пацёмкін-Таўрычаскі нікуды не хадзіў, ля матухны Кацярыны заставаўся. У ратушу за ёй пайшоў, дзе чакаў царыцу стол ды ўгодлівыя твары найзаможнейшых гараджан. І толькі потым выйшаў на некалькі хвілін.

Глядзіць, а перад ратушай стаіць салдат-вартавы. Увесь падцягнуты такі, напружаны, варухнуцца баіцца, ружжо на руцэ. Адным словам, малайчына! Вось пачынае з ім размову князь Пацёмкін-Таўрычаскі:

—Ну, служывы, як жывецца-служыцца? Добра?

— Так точна, ваша высакароддзе!

— А камандзіры не крыўдзяць?

— Ніяк не, ваша высакароддзе!

— А ці не можаш ты мне, служывы, расказаць, чаму горад ваш Уздой называецца?

—Ніяк не, ваша высакароддзе!

— Чаму ? Не ведаеш хіба?

— Так точна, ваша высакароддзе, ведаю, але нам недазволена размаўляць на варце. Нас за гэта караюць шпіцрутэнамі.

—А, пустое, служывы! Нічога не бойся! Глядзіш, і не пакараюць, калі за цябе сам Пацёмкін уступіцца.

І салдат расказаў:

—Назва горада ёсць алегорыя, ваша высакароддзе. Былі татары тут гаспадарамі, кіравалі яны нашым народам, як вершнік канём, пры дапамозе ўзды. Але хан Койдан і яго войска былі знішчаны слаўнымі дружынамі нашых князёў, ваша высакароддзе, і народ пазбавіўся цяжкай няволі, пазбавіўся сваёй узды. А ў горада, ваша высакароддзе, так і засталася назва — Узда.

Пахваліў князь Пацёмкін-Таўрычаскі салдата, паляпаў па плячы, напісаў указанне для камандзіраў яго, каб салдата павысілі ў званні, і задаволены вярнуўся ў залу, дзе працягвала вячэру Кацярына.

Зайшоў, а там ужо абодва сапернікі яго, Разумоўскі і Арлоў, сядзяць, надзьмутыя, бы індыкі, важныя, кожны чакае моманту, каб з гісторыяй сваёй да царыцы падысці, узнагароды дабіцца.

Адслужылі абедню ва Уздзенскай царкве, тут матухна Кацярына Аляксееўна і заспяшалася.

І вось карэта зноў вязе высакародных падарожнікаў па лясных беларускіх дарогах. А графы Разумоўскі, Арлоў і сам князь Пацёмкін-Таўрычаскі наперабой пераказваюць царыцы, чаму Узда стала Уздой. Расказалі, пачалі спрачацца, спрэчка ў крык перайшла, потым замільгалі кулакі.

Кацярына махае рукамі, ускрыквае, але спыніць спрэчку не можа. Паваліліся яе фаварыты адзін на аднаго — карэту перакулілі. Упала яна дагары коламі прама ў глыбокую калюжыну. Матухну Кацярыну Аляксееўну ледзь насмерць не задушыла. Тады і спрэчкі ўсе скончыліся.

Вылезлі ўсе з карэты, злыя, брудныя. Што ж тут рабіць, трэба вяртацца, адмывацца, адзенне сушыць. Да таго ж новая бяда: аброць на адным з коней разарвалася. Царыца вохкае.

Засталася Кацярына II супраць жадання свайго ва Уздзе начаваць, перад гэтым жа наказала знайсці добрых майстроў, каб новую аброць зрабілі.

Бургамістр не ведае, як і дагадзіць шаноўнай госці, лепшых майстроў дасылае ёй, усе — татары, нашчадкі тых, што калісьці тут панавалі, яны лепш за іншых і ў вупражы конскай разбіраюцца. За адну ноч зрабілі татары царыцынай шасцёрцы цудоўную вупраж.

Пажадала Кацярына раніцай сама паглядзець на работу майстроў. Бачыць, сапраўды, на яе конях залатая, упрыгожаная каменнямі аброць. Залюбавалася царыца, усміхнулася.

Бачаць графы Разумоўскі і Арлоў, адчувае сам князь Пацёмкін-Таўрычаскі, — добры настрой сёння ў матухны Кацярыны Аляксееўны, падбеглі да яе з пытаннем, чый жа аповед ёй больш даспадобы, каму з іх чакаць царскай узнагароды. А царыца і гаворыць:

— Нікога з вас узнагароджваць не буду. Бо не было правільный тлумачэння назвы Узда. Але я сама цяпер ведаць, чаму горад мець такі імя. Узда, бо жывуць тут отшэн карошы майстры, якія рабіць такі цудоўны ўзда. Я іх буду ўзнагароджваць.

І наказала Кацярына II выдаць уздзянскім татарам грамату, падмацаваную яе ўласным подпісам і пячаткай, дзе было напісана, што з гэтых часоў майстры і іх нашчадкі маюць права лічыць сябе дваранамі і гэты тытул захоўваецца за імі назаўсёды.

* * *

Кажуць, з тых часоў усе мясцовыя татары з гонарам прылічвалі сябе да дваранскага саслоўя. І зараз не-не ды і ўспомніць нехта з уздзянцаў аб царыцынай узнагародзе.

# ДУБ ДЫ САСНА

Яны раслі побач, і сонца аднолькава адорвала іх прамяністым цяплом, і аднолькава астуджвалі іх асеннія дажджы, і ўзімку аднолькава пушысты іней асыпаў іх кроны і ствалы. Малады дуб быў сапраўдным прыгажуном: дужы, рослы. Сасна побач з ім здавалася незвычайна тонкай, хоць вяршаліна яе ўжо ўсміхалася далёкаму небу. Яна не паспела яшчэ набраць той моцы, якая ператварае дрэва яе пароды ў магутную карабельную сасну. І дубу здавалася, што ніколі не вырасце яго сяброўка да гэтых славутых памераў, калі не абароніць ён яе зараз, пакуль яна яшчэ маладая і вакол так шмат усяго, што можа перашкодзіць яе росту. Неаднойчы пад ветрам ён ціха шамацеў лістотай:

—Прыцісніся да мяне. Звяжы лёс свой са мною. Ніхто не ахавае цябе лепш за мяне. Ніхто не зразумее цябе лепш за мяне...

Але кожны раз адказвала на гэта сасна:

—Не кліч мяне да шлюбу, дубе. Век дзявочы такі кароткі! Дай мне нацешыцца воляй!

У тое лета былі надта ж зорныя ночы. Кожную ноч дуб расказваў сваёй сяброўцы доўгія гісторыі пра дрэвы, якім удалося дарасці да зорак, і пра тыя, у якія трапіў страшэнны нябесны агонь у час навальніцы, і пра тыя, што ахвяравалі целам сваім, каб хтосьці змог пабудаваць з іх цудоўныя караблі і адкрываць новыя землі за акіянам, і пра тыя, шго выратоўвалі людзей у час бойкі, закрываючы моцным ствалом чалавечае цела ад стрэлаў і коп'яў.

Раптам усхвалявана зашамацела вяршалінай сасна:

— Цішэй. Сюды ідуць людзі. Цішэй, дубе...

Людзей было двое. Ён і яна. Яны набліжаліся сюды з розных бакоў і, убачыўшы адно аднаго, кінуліся ў абдымкі.

— Данупся!

—Міхал!

Толькі гэта паспелі вымавіць яны, і дыханне іх перарвалася. Але хутка дзяўчына заплакала:

—Міхал, любы мой, кахапы! Разлучаюць нас злыя людзі. Ніколі не быць нам разам.

—Хто ж пасмее зрабіць гэта, Данупся? Хто ўладны разлучыць каханых, якія быццам дзве палавінкі аднаго яблыка? Памылілася ты, сонейка маё. Калі мы самі таго не схочам, ніхто не забароніць нам кахаць адно аднаго.

— Слухай жа, Міхал, — журботна пачала дзяўчына, — даўно прыглядаўся да мяне панскі танцмайстар, шукаў ён дзяўчыну, якая б

лепш за ўсіх танцавала, бо патрэбны артысткі пану Радзівілу ў яго балет. А я ж і не ведала пра гэта! Калі б толькі зразумець раней: нагу б сабе пашкодзіла, каб не трапляцца на вочы гэтаму чалавеку...

— Не кажы так, Дануся, — запярэчыў хлопец. Твае ножкі стройныя, лёгкія. Танец твой — бы матылька палёт...

—А то ж і гора! — у роспачы крыкнула дзяўчына. — Даспадобы мой танец прыйшоўся танцмайстру. Ён і данёс пану пра тое, што знайшоў дзяўчыну для балета. А пан загадаў: забраць мяне ды раніцай даставіць у палац яго. Ці ведаеш ты, што гэта значыць, Міхале? Зачыняць, нібы ў келлі, прымусяць з ранку да вечара адно французскія танцы развучваць ды перад імянітымі гасцямі панскімі танцаваць. А з бацькам ды з маці бачыцца хіба толькі па святах вялікіх. А каханага наогул ніколі не мець. І замуж выходзіць не дазваляюць танцоркам, пакуль маладыя. А да старасці ў няволі ці дажывеш? Толькі іншы раз пан сваёй ласкай ашчасліваць можа. Але горш за магілу сырую такі гонар...

— Маўчы! Маўчы, прашу цябе! Ні слова больш, Дануся, не вытрымаў хлопец. — Не будзе гэтага ніколі, чуеш? Пакуль я жывы і пакуль кахаю цябе — не будзе гэтага! Мы збяжым зараз жа. Далёка. Мы маладыя, у нас — працавітыя рукі. Мы заўсёды зможам зарабіць сабе на хлеб. Хіба не так?

— Збегчы ад пана Радзівіла? — здзівілася дзяўчына. — Што ты! Усё роўна дагоняць, вернуць. Хіба ты не страшышся пакарання?

— Не вернуць, Дануся! Я ведаю добрых людзей недалёка адсюль. У іх мы зможам схавацца, а потым — на вольны Дон, да новага жыцця і шчасця.

— Не, Міхал, — ціха вымавіла яна. Не будзем мы шчаслівымі ніколі. Ці збегчы кудысьці, калі тут застаюцца бацькі нашы, твае сёстры, мае браты? Што зробіць з імі пан за нашу непакору? Няўжо ты хочаш ім зла, Міхал?

—Дык што рабіць нам, Дануся, каханая? — у адчаі спытаў юнак.

— Расстацца, — цвёрда адказала дзяўчына. — Я ж для гэтага і прыйшла сюды. Заўтра павязуць мяне ў Нясвіж, у маёнтак Радзівілаў. Даруй жа мне за ўсё, Міхал, і паспрабуй забыць хутчэй...

Яны яшчэ доўга стаялі побач, быццам рукі іх не хацелі ці не маглі раз'яднацца, але раптам дзяўчына рашуча ўскінула галаву і ступіла назад. Ён павольна адпусціў яе і нізка схіліў галаву. Але Дануся не зрабіла нават дзесяці крокаў. Нечакана яна азірнулася і кінулася да свайго каханага:

— Міхал! Гэта апошняя ноч... Хай яна будзе тваёй, хай яна будзе нашай!

Яны так і не зразумелі, што адбылося з імі, але назаўсёды запамяталі, як мігцелі над іх галовамі далёкія зоркі, быццам таямнічыя караблі, ж пахлі духмянай свежасцю травы і цягнуліся ў неба дрэвы, забыўшы аб карэннях...

Яны разышліся толькі тады, калі першыя сонечныя промні дакрануліся да ціхай начной зямлі. Ужо назаўсёды...

Моўчкі сустракаў лес узыход свяціла, і толькі калі добрае цяпло разлілося па ствалах дрэў, загаманілі тысячамі галасоў яліны ды клёны, бярозы ды ясені. І тады ціха прашаптала сасна:

— Дубе, мой верны сябра... Нядоўгае жыццё ў дрэва. Не паспеюць з'явіцца вакол яго маладыя парасткі, а ўжо прыходзіць нехта жорсткі з сякераю... Абдымі ж мяне, каб ніхто і ніколі не змог разлучыць нас, як разлучылі гэтых дваіх людзей. І няхай будзем мы разам у радасці і горы, у жыцці і смерці.

І пацягнуліся адно да аднаго дуб ды сасна, і перапляліся ствалы іх, і змяшаліся галіны.

Так і зараз стаяць яны, абняўшыся, на шляху да Нясвіжа. Над імі шумяць, пралятаючы, гады, а яны не чуюць, не заўважаюць іх у бясконцай сваёй пяшчоце. І нельга ссекчы адно з іх, не загубіўшы другое...

# РУЖА КОЛЕРУ СОНЕЧНЫХ ПРОМНЯЎ

Яны рушылі праз лес. Іх было пяцёра. Стары Крук, ідучы наперадзе, расхінаў галіны дрэў і злёгку прытрымліваў іх, каб ні адна не ўдарыла дзесяцігадовага хлопчыка, што крочыў побач з ім. У некалькіх кроках за імі ішоў старэйшы брат хлопчыка, ладны, з прыгожым, як у дзяўчыны, тварам. Справа ад юнака, абсякаючы на хаду сякерай цяжкапраходнае калючае кустоўе, крочыў мужны, моцны мужчына. Нягледзячы на спёку, ён быў у даспехах і са зброяй. Апошні цягнуўся босы чалавек у доўгім чорным адзенні, месцамі ўжо падраным галінамі. Ён ступаў за ўсімі быццам у сне, амаль не звяртаючы ўвагі ні на яловую ігліцу, што заблыталася ў яго доўгіх нечасаных валасах, ні на камяні і калючкі, што скрывавілі ногі. Ён штосьці ціха мармытаў, толькі зрэдау кідаючы на сваіх спадарожнікаў шалёны позірк вар'ята.

Усе яны ратаваліся ад смерці.

Гэта быў ужо сёмы дзень небяспечнай вандроўкі, сёмы дзень іх знаёмства, бо спачатку кожны ішоў самастойна. Потым у вёсцы, што амаль вымерла ад чумы, стары Крук падабраў двух братоў Шэравока і Трацяка, слабых і галодных, і ўгаварыў іх ісці за ім. Яшчэ пазней вандроўнікам сустрэўся воін Крыштупас, які ратаваўся ад свайго князя. Апошні прыстаў беглы манах Даміян. Ніхто не ведаў дакладна, куды ідзе, але ўсе марылі пра новае, ціхае, багатае лясным зверам месца, дзе б можна было схавацца ад усіх і пачаць новае жыццё.

Раптам хлопчык Трацяк спыніўся і пацягнуў носам:

— Ці чуеце?

Прынюхаліся і астатнія. Ледзь чутны водар, празрысты, дурманлівы, даносіўся да іх.

— Што б гэта магло быць? — спытаў Крыштупас, а Даміян спалохана жахнуўся.

Стары Крук рашуча пайшоў скрозь зараснік хмызняку і... выйшаў з лесу. За ім, жмурачыся на яркае сонца, з'явіліся яшчэ чатыры постаці.

Гэта было дзіўнае месца, светлае, духмянае. Удалечыні смяялася маленькая, незвычайна чыстая рачулка, вялікія цяністыя дрэвы пачціва схілялі перад ёй галовы. І нельга было зрабіць кроку, каб не наступіць на кветку. Дзікія ружы, здавалася, аплялі ўсю зямлю, і яна стала адзіным квітнеючым кустом. Белыя і жоўтым, ружовыя і цёмна-чырвоныя, колеру вінаграднага віна і колеру чалавечага румянцу — усе яны складалі адзіны дзівосны дыван.

— Гэй, як тут хораша! — хлопчык з радасным крыкам кінуўся бегчы па ружавым полі.

Зрабіў некалькі крокаў і апусціўся на зямлю перад адной з самых вялікіх і прыгожых руж юны Шэравок. Прысеў і стары Крук, выцягнуўшы хворыя ногі на сонцы. Крыштупас жа, падазрона агледзеўшы прыгожую паляну, пайшоў да вады, ні на хвіліну не выпускаючы свой меч.

Праз некаторы час Шэравок узняў вочы і са здзіўленнем агледзеў спадарожнікаў.

— Стары, а дзе Даміян? — спытаў ён.

Сапраўды, Даміяна нідзе не было. Крук у пошуках яго нават зайшоў у лес, але потым вярнуўся ў ружавую даліну.

— А, Пярун з ім! — сказаў стары і вылаяўся. — Хіба гэта першы ці апошні раз? І хіба мы пастухі, каб даглядаць за ім?

Але прыкрасць не пакідала Крука. Яму сапраўды надакучылі за гэтыя сем дзён таямнічыя знікненні звар'яцелага манаха. Аднойчы той зайшоў у багну, пачаў тануць, але на дапамогу не клікаў і толькі ціха маліўся. Стары выпадкова заўважыў яго. Другі раз ён заснуў прама перад мядзведжай бярлогай.

З кароткіх адрывістых расказаў Даміяна стары зразумеў, што быў той спачатку селянінам, потым ахрысціўся, надта заверыў у новага бога, пастрыгся ў манахі і разам з іншымі братамі пачаў хадзіць з княжымі дружыннікамі па паселішчах, пераводзіць паганцаў у хрысціянства. У яго роднай вёсцы людзі адмовіліся хрысціцца, і іх усіх пасеклі ў яго на вачах. Пасля гэтага ён і збег з манастыра і пазбавіўся розуму. Былі моманты, калі да Даміяна вяртаўся ваяўнічы запал, тады ён чапляўся да сваіх спадарожнікаў з патрабаваннем неадкладна прыняць хрысціянства. Але звычайна ён быў вельмі ціхі.

Раптоўна вярнуўся Крыштупас, і ўсе здзівіліся, як ціха і асцярожна, амаль нячутна, ступае ён.

— Там, ля ракі, хтосьці ёсць, — паведаміў воін.

— Ты лічыш, нам лепш пайсці адсюль? — спытаў Крук.

— Не ведаю. Там — жанчына, і яна спіць. Хадзем, я пакажу яе вам.

Ля ракі, у цяні дрэў, сапраўды ляжала жанчына. Цела яе, прыгожае і гнуткае, не было прыкрыта аніякім адзеннем. Доўгія светлыя валасы хвалямі падалі на стромкія грудзі. Белы льняны ручнік, які яна падаслала пад сябе на зямлю, ахоўваў яе ад калючак руж. Жанчына спала і ўсміхалася ў сне. І чацвёра вандроўнікаў міжволі залюбаваліся ёю.

— Якая прыгажуня! — прашаптаў у захапленні Шэравок.

— Зусім маладая... — паківаў галавою стары. — Ёй не больш пятнаццаці гадоў.

—Яна не можа быць тут адна,— насцярожана прагаварыў Крыштупас. — Хто ж тут: сябры ці ворагі?

І раптам жанчына адплюшчыла вочы. Здаецца, яна не здзівілася невядомым людзям, бо нават не кінулася адразу прыкрываць сваю галізну. Рухі яе былі раскаванымі і ўпэўненымі.

— Я шчаслівая бачыць вас, прамовіла яна. Гэта добры знак, бо ўжо вельмі даўно сюды ніхто не прыходзіць.

—Хто ты? Як тваё імя? — спытаў Шэравок у захапленні.

—Хто тут ёсць яшчэ? Чым займаюцца гэтыя людзі? — імкнучыся быць ветлівым, запытаўся Крыштупас.

Яна не паспела адказаць, бо тут пачуўся жахлівы крык.

— Гэта Даміян! — у страху прашаптаў Трацяк. І ўсе, нават не згаворваючыся, кінуліся ў той бок, адкуль даляцеў да іх крык вар'ята.

Яны ніколі не думалі, што бегчы па ружах так цяжка. Тыя кветкі, што былі трохі вышэй за іншыя, абдзіралі ім рукі і ногі, чапляліся за адзенне. Іншыя, трапляючы пад цяжкі абутак, ператварыліся ў слізкае месіва, і мужчыны ледзь не падалі.

Хутка яны заўважылі сутулую постаць Даміяна. Ён стаяў сярод дрэў, з жахам глядзеў кудысьці і час ад часу крычаў. Убачыўшы, што спалохала іх спадарожніка, і ўсе астатнія спыніліся і нават пасунуліся трохі. Паміж дзвюх старых бяроз, упрыгожанае белымі і чырвонымі ружамі, было капішча.

— Багіня Лада! — ускрыкнуў Шэравок.

Першы схіліўся перад багіняю кахання і прыгажосці стары Крук.

Ён памятаў яшчэ той дзень сваёй маладосці, калі маці прывяла яго да такога ж капішча, дзе чакала яго ўжо нявеста, добрая, працавітая дзяўчына-суседка. Лада аб'яднала іх лёсы, і яны былі шчаслівыя. Гэта потым, калі жонка памерла і гаспадыняю ў хаце стала нявестка, яму пачала пагражаць смерць. Нявестка падбухторыла супраць сгарога яго сына, і ў канцы галоднай зімы той адвёз Крука ў лес. Добра, што не прывязаў, толькі папярэдзіў, каб той не вяртаўся дамоў — усё роўна карміць яго няма чым. Стары ж акачаўся больш дужы і трывалы, чым здавалася. Ён выжыў у лесе, і калі снег сышоў — пакінуў назаўсёды гэтыя мясціны.

Так, ён паважаў Ладу, і яму было крыўдна, што ў апошні час людзі амаль забыліся пра гэтую багіню, даверыўшыся ўва ўсім Перуну. Ён бачыў у гэтым здраду каханню на карысць воінскай славы...

Стары Крук не адразу заўважыў, як побач з драўляным ідалам — Ладай з'явілася іх прыгажуня. Зараз на ёй было адзенне — доўгая

льняная кашуля, вышытая ружовымі, барвовымі і зялёнымі ніткамі. Вышыўка кветкі ружы. Ружавы ж вянок і на галаве. І гэтае адзенне, якое падказала, што перад імі вяшчуння, жрыца багіні Лады. На імгненне вандроўнікі перасталі бачыць у ёй проста прыгожую жанчыну.

— Я шчаслівая бачыць вас тут, — зноў паўтарыла свае словы валхоўка. — Багіня слухае вас з увагай. Што прывяло вас да Лады?

— Мы просім засгупніцтва багіні, мы жадаем, каб яна схавала нас ад ворагаў, — сказаў Крыштупас.

— Мы хочам пасяліцца тут назаўсёды,— падтрымаў яго стары Крук.

Жрыца запаліла агонь ля ног Лады і кінула туды жменю высахлых ружавых чаранкоў. Язык полымя рэзка ўскінуўся ўгору, і ў паветры паплыў прыемны пах.

— Хай будзе гак, як вы жадаеце, — сказала вяшчуння, — Лада дазваляе вам застацца.

Надта ж дзіўнымі былі першыя дні жыцця на новым месцы. П'янкі ружавы водар вельмі хутка пачаў раздражняць іх. Раніцай, набіраючы вады з ракі, Крыштупас гучна лаяўся:

— Немагчыма піць! У язык упіваюцца ружавыя калючкі!

Стары скардзіўся, што ў яго свярбіць усё цела ад драпін. І нават хлопчык Трацяк ужо не бегаў па ружавай даліне.

Адзін Шэравок, здавалася, быў шчаслівы. Яго рэдка бачылі ля сяброўскага вогнішча ён усё больш шукаў магчымасці застацца адзін на адзін з прыгажуняй жрыцай, а яна не вельмі працівілася гэтаму. Іх часта можна было сустрэць ля вогнішча багіні, і гэта чамусьці злавала Крыштупаса і Даміяна, да якога ў апошні час, здаецца, нават вярнуўся розум.

Аднойчы жанчына адвяла Крыштупаса ўбок ад сяброў і папрасіла ў воіна быць яе абаронцам. Аказалася, Даміян некалькі разоў ужо спрабаваў напасці на яе ў лесе, калі яна збірала грыбы і ягады. Яна баіцца яго, бо манах — шалёны.

Крыштупас абяцаў сваю дапамогу, калі жрыца пакіне сустрэчы з Шэравокам. Нічога не адказала вяшчуння, толькі звонка засмяялася.

Крыштупас быў добры воін, сам князь заўважыў яго і ўзяў у дружыну сотнікам. І потым ніколі не забываў яго пры падзеле баявой здабычы, на балі, у час палявання. Але аднойчы Крыштупас угнявіў князя, і ўдача адвярнулася ад воіна. Трэба было расправіцца з ворагам — смелым ваяводам суседняга князя. Гэта даручылі Крыштупасавай сотні. Але князь настойваў яшчэ і на знішчэнні сям'і ваяводы, жонкі і трох маленькіх дзяцей. І Крыштупас не паслухаўся.

Ён забіў у двубоі ваяводу, але сам дапамог яго сям'і выратавацца. Пасля гэтага Крыштупас ведаў, што яму ўжо не варта вяртацца на службу, дзе нічога, акрамя смерці, больш не чакала яго. І ён збег.

Аднойчы раніцай літоўскі воін адчуў, што побач з ім ля вогнішча зноў няма Даміяна. Ён імгненна ўскочыў і кінуўся на пошук манаха. Ён быў упэўнены, што той пайшоў на капішча да жрыцы.

Сапраўды, ля ідала Крыштупас убачыў дзве постаці, мужчынскую і жаночую. Але гэта быў не Даміян. Ён схаваўся і прыслухаўся.

— З таго часу, як мы даведаліся, што ты валхоўка, нікому і ў галаву не прыходзіць спытаць тваё імя, гаварыў Шэравок, — Але кожны хоча ведаць, як завецца тая, каго любіш.

— У мяне няма імя, — адказала прыгажуня. Яно мне не патрэбна. Калі я толькі нарадзілася, бацькі аддалі мяне старому вешчуну, каб я дапамагала яму служыць Ладзе. Ведаеш, Шэравок, багіня сама выбрала мяне. Раней тут было паселішча шмат людзей. Але аднойчы, вясной, невядома адкуль з'явіліся ружы. Імі пакрылася ўся зямля. Людзі спалохаліся, а вяшчун сказаў, што гэта Лада патрабуе зрабіць ёй тут капішча, а служыць ёй будзе той, хто народзіцца першы пасля гэтага добрага знака! Нарадзілася я.

Хутка людзі пакінулі гэтыя мясціны, бо ружы забівалі хлебныя каласы, а рваць іх вяшчун забараніў. Зусім нядаўна памёр і вяшчун. Перад смерцю перадаў ён мне волю Лады служыць ёй да тых часоў, пакуль не ўзыдзе дзіўная ружа колеру сонечных промняў. Тады я змагу пайсці адсюль і абраць сабе мужа.

І тут сонца, раптам пырснуўшы з-за дрэў, заблыталася промнямі ў доўгіх валасах жанчыны. І Крыштупас пачуў усхваляваны голас Шэравока:

— Ты сама сонечная ружа! Вось твае лісты (ён дакрануўся да адзення жрыцы). А гэта дзівосныя пялёсткі (ён правёў па валасах, што іскрыліся на сонцы, далонню), — Я даю табе імя — Ружа. А Лада дае табе волю, бо даўно ўжо ўзышла ў гэтай даліне Ружа колеру сонечных промняў!

Крыштупас пайшоў да сяброў. Але ля вогнішча таксама было неспакойна.

— Нельга так больш жыць! — крычаў Даміян. — Мы павінны знішчыць гэтыя праклятыя ружы, калі хочам застацца тут. Нам трэба расчысціць раку, паставіць хату, не, некалькі хат, каб кожны быў гаспадаром. А мне патрэбна царква альбо хоць каплічка для майго бога.

— А ты не баішся Лады? — запытаў хлопчык Трацяк.

— Каго мне баяцца? Драўлянага куміра?

— Ты чуў, Крыштупас? — спытаў Крук.

— Даміян на гэты раз гаворыць праўду.

— Я таксама згодзен з ім, — падтрымаў стары. — Але трэба ўміласцівіць багіню Ладу. І гэта можа толькі яе жрыца.

Тут жа вырашылі прасіць дзяўчыну заступіцца за іх перад багіняй. І ўжо раніцай першы ружавы куст быў выкарчаваны. Калі сонца стаяла ўжо вельмі высока, з'явілася Ружа з весткай, што Лада не прымае яе ахвяр і вельмі гневаецца на людзей. Мала таго, багіня не адпускае яе ад сябе. Сказаўшы гэта, прыгажуня расплакалася. І тады да яе падышоў Шэравок, ён папрасіў яе кінуць Ладу і працаваць разам з імі. Бо Даміян гаворыць, што Лада — толькі драўляны ідал, а сапраўдны бог іншы. Можа, так яно і ёсць? А ўжо калі Ружа вырашыць быць з ім, ён, Шэравок, возьме яе за жонку.

І Ружа згадзілася. Цэлы дзень людзі ваявалі з кветкамі. Яны лічылі, што чалавек, каб выжыць, павінен змагацца з прыродай. Толькі ж яны не ведалі, што іншы раз згвалтаваная прырода помсціць крыўдзіцелям, адбіраючы ад іх самае дарагое. У тым, што адбылося потым, не была павінна Лада, — гэта была помста самой прыроды, пакрыўджанай, парушанай...

Увечары Ружа заўважыла глыбокую стрэмку-калючку ў руцэ. Яна з цяжкасцю выцягнула яе. Але боль не праходзіў. Рука распухла і пачырванела. Стары Крук спрабаваў лячыць адварамі з зёлак, але гэта не дапамагло. На другі дзень з'явілася ліхаманка. Ружа, страціўшы прытомнасць, ляжала ля вогнішча і трызніла. Яшчэ праз дзень рука налілася злавеснай чарнатою, і Ружа памерла...

Яе хавалі раніцай, не саромеючыся слёз.

— Няхай паселішча, што калісьці абавязкова тут будзе, называецца Ружай, — прашаптаў Шэравок.

—Грэх называць мястэчка імем грэшніцы, — уздыхнуў Даміян, які бачыў сябе ўжо святаром тутэйшых мясцін.

— А хто гаворыць, што трэба называць яе імем? — прагаварыў стары Крук. — Няхай будуць Ружаны, бо руж тут шмат мы загубілі. Ніколі не будзе больш гэтая даліна такой прыгожай, дык хаця б як успамін аб былым — Ружаны.

* * *

Шмат кветак у садах і кветніках жыхароў Ружан. Але самыя любімыя па-ранейшаму — ружы: рознакаляровыя, пяшчотныя. Вырошчваць ружы тут ужо традыцыя. І кожны гаспадар спадзяецца, што аднойчы побач з яго домам расцвіце тая, адзіная, незвычайная ружа колеру сонечных промняў, якая, магчыма, прыносіць шчасце.

## ДУША ГОРАДА

Недалёка ад Лунінца знаходпіцца незвычайнае па прыгажосці сваёй возера Белае. Ціхае яно і празрыстае, быццам не вада ў ім, а слёзы, светлыя слёзы высокага суму. Шмат стагоддзяў захоўваецца ў народзе адно паданне...

* * *

Самыя пышныя палацы, самыя багатыя цэрквы, самыя тонкія шаўкі, самая трывалая зброя, самыя пародзістыя коні, самае смачнае віно — усё гэта можна было ўбачыць у горадзе, які ганарлівыя жыхары назвалі Шчаслівым. Але ніколі не завітвала сапраўднае шчасце ў горад гэты, бо жылі ў ім самыя сквапныя, самыя жорсткія, самыя чэрствыя людзі. Дастатак сябруе з такімі людзьмі, а шчасце, быццам палахлівая птушка, упырхвае ад іх. Ды і навошта ім шчасце, калі яны не ведаюць, што гэта такое? Усё жыццё сваё жыхары дзіўнага горада прысвячалі нажыве. Горад наведвалі толькі багатыя людзі. Нягледзячы на вялікі выбар тавараў, з мясцовымі купцамі ніхто не хацеў гандляваць занадта ўжо дорага ацэньвалася ўсё ў горадзе Шчаслівым.

Але аднойчы на вуліцах горада з'явіўся стары жабрак. Здавалася, яму не меней чым сто гадоў. Вочы яго, некалі сінія, так выцвілі, што былі амаль бясколерныя, барада, доўгая і зусім белая, збілася, у ёй заблытаўся дзядоўнік, адзенне густа абсыпаў дарожны пыл. Стары заходзіў у кожны дом, спыняў кожнага стрэчнага. Не, ён не збіраў міласціну, ён толькі прасіў глыток вады, бо, прайшоўшы доўгі шлях, вельмі стаміўся і паміраў ад смагі.

Але пацiскалі ў непаразуменні плячыма людзі: хіба хтосьці дае ваду так проста? Усё каштуе грошай.

Апоўдні без сілы зваліўся стары ля нечай высокай брамы, і гаспадар напусціў на яго сабак. Злосна кінуліся ганчакі на няшчаснага, і, напэўна, давялося б у той дзень старому развітацца з жыццём, каб нечакана не прыйшла дапамога. Маладзенькае дзяўчо кінулася да яго, і свіснуў гаспадар, клічучы сабак.

— Навошта табе гэты бадзяга? — неўзлюбіў ён.

— Гэта мой дзядуля, ён, урэшце, знайшоў мяне,— схлусіла дзяўчына.

Стары хацеў аддзячыць сваёй выратавальніцы, але міжволі з вуснаў яго вырвалася толькі хрыплае:

— Піць...

У бедным пакойчыку, што амаль прыляпіўся да хлеўчыка гаспадара сабак, жыла дчяўчына. Жытло яе ой як не спалучалася з багаццем другіх жыхароў Шчаслівага. Сюды прывяла яна старога жабрака, тут напаіла яго, накарміла, гасцінна запрасіла пераначаваць.

— І сапраўды, дзядуля, куды пойдзеш ты? Хутка сцямнее.

—Дзякуй, мілая, за ласку, але шлях мой далёкі, і трэба мне яшчэ да заходу сонца пакінуць ваш горад.

—Што ж, калі так, трымаць не буду. Даруй жа мне, дзядуля, што нічога, акрамя хлеба, не магу даць табе ў дарогу. Сам бачыш, як жыву я, бедная парабчанка.

І, гледзячы на яе, ціхую, добрую, сказаў ледзь чутна стары:

—Калі ў горада гэтага ёсць душа, дык гэта ты. Як жа імя тваё, мілая?

—Бярозай клічуць.

— Прыгожае імя, але нейкае не чалавечае. Што ж ты, дзяўчыначка, у царкве не хрышчана, у купелі не акунута?

— Сірата я, дзядуля. Ні бацькі, ні маці не ведаю. Людзі пад бярозай знайшлі — Бярозай і назвалі. Грошай жа заплаціць папу за хрышчэнне маё было некаму.

Доўга маўчаў стары, а потым сказаў:

— Ну, нічога, мілая. Быць хрышчаным яшчэ не значыць быць добрым чалавекам. Бачыў я шмат усяго ў жыцці сваім, але такіх прагных ды злых хрысціян, як вашы, сустракаю ўпершыню. За чэрствасць іх чакае такое ж і пакаранне. Але цябе, Бяроза, я вызвалю ад гэтага. Збірайся хутчэй, і на ранішняй зорцы пакінеш ты горад. Выйдзеш з усходняй брамы насустрач сонцу і будзеш ісці, пакуль не ўбачыш мяне. Я прыпынюся і пачакаю, каб звесці цябе адсюль далёка, у тыя землі, дзе вечнае лета, дзе спяваюць райскія птушкі і жывуць адны толькі праведнікі. Але сцеражыся ў шляху сваім азірнуцца назад, бо здарыцца бяда...

Калі дзяўчына апамяталася, старога ўжо не было. Як пайшоў ён, Бяроза і не заўважыла.

"Дзіўны чалавек, — падумала яна. — Кліча кудысьці ў чужыя землі, дабро збіраць у дарогу наказвае. Якое ж дабро ў сіраты? Няма нічога, акрамя вось гэтай сукенкі, што на мне. Ды і куды, навошта я пайду адсюль? Каму патрэбна я ў тых далёкіх землях?"

З гакімі думкамі легла яна спаць, але сон не ішоў, і ўпершыню здалося Бярозе няўтульным, цесным яе жытло, брыдкай пакорлівасць парабчанкі злому гаспадару. Раніцай яна ўжо не сумнявалася, што пойдзе за дзіўным старым, куды б ён не паклікаў яе.

Дзяўчына ціха ўстала з ложка, абвяла апошнім паглядам маленькі пакойчык, што замяняў ёй шмат гадоў дом, і, не азіраючыся, пайшла праз багаты двор гаспадара. Сабакі завурчалі, але не кранулі яе. Праз увесь сонны горад няспешна ішла дзяўчына. Стук яе драўляных чаравікаў па бруку быў адзіным гукам, які парушаў перадсвітанкавую цішыню. Бяроза падышла да ўсходняй брамы. Вартавыя соладка спалі, і ніхто не аклікнуў дзяўчыну.

Яна ішла насустрач сонцу, што павольна ўзнімалася над далёкім узгоркам, і ціха ўсміхалася. Жыццё новае, прыгожае, радаснае чакала яе.

Далёка на ўзвышшы заўважыла Бяроза постаць учарашняга свайго госця, які чакаў яе. Узыходзячае сонца кідала дзіўнае святло на старога, і ад гэтага ён здаваўся абкружаны незвычайным ззяннем. Дзяўчына паскорыла крок і раптам пачула страшэнны грукат, нібы за яе спінаю раскалолася неба. Бяроза спынілася. Заўважыўшы гэта, занепакоіўся стары.

Затрэслася зямля, і адтуль, дзе знаходзіўся горад Шчаслівы, данесліся крыкі і енк. Белы ад жаху стаў твар у дзяўчыны.

— Толькі не азірайся! — ускрыкнуў стары.

Але ці то голас яго быў заглушаны грукатам нябесным і падземным, ці проста гэтак было прадвызначана лёсам, непапраўнае здарылася. Азірнулася Бяроза і ўбачыла, як няўмольнай ракой з неба на яе горад цячэ вада, як зямля пад цяжкасцю гэтай асядае, утвараючы катлаван, як на месцы горада ўзнікае глыбокае возера.

І тут сілы сталі пакідаць дзяўчыну. Цела застыла і выцягнулася, кроў у венах замерла, а ногі прараслі карэннямі ў зямлю. І абярнулася дзяўчына Бяроза ў дрэва бярозу, і схіліла галіны свае над возерам.

Не хаваючы слёз, наблізіўся да яе стары.

—Чаму ж ты не паслухалася мяне, мілая? — спытаўся ён, дакрануўшыся рукою да шурпатага бярозавага ствала. Стой цяпер побач з горадам сваім, прыгожае моцнае дрэва. Аплаквай, душа горада, тых, хто ніколі ні па кім не плакаў, сумуй аб тых, хто ніколі ні па кім не сумаваў. Ты пражывеш вельмі доўга, бо я прызначаю табе тэрмін у тысячу гадоў. За гэты час слязьмі сваімі павінна ты выкупіць цяжкі грэх горада. Тады знікне возера, тады скончыцца пакаранне...

* * *

Старыя людзі з навакольных вёсак яшчэ памятаюць велізарную, моцную бярозу, адзіную ля вочера Белага. Мабыць, сапраўды ад яе слёз вада ў вочеры стала светла-празрыстай?

Шкада толькі: ніколі ўжо не збудчецца прадкачанне дзіўнага жабрака, ніколі ніхто не ўбачыць больш горад Шчаслівы, выйшаўшым з вод азёрных, бо знайшоўся злы чалавек, які ссек прыгожае дрэва на дровы. Кажуць, замест светлага бярозавага соку на ствале забітага дрэва выступіла кроў…

## ПАРУШАНАЕ СЛОВА

Гэй, ты, слаўны, ты, сівы гусляр! Праспявай нам песню старую пра вялікую спрэчку волатаў ды пра слова, што парушылі.

Дзе Прапашэск-град цяпер стаіць, раней церам на ўзгорку быў. У тым цераме расквечаным прыгажуні Кацярыны дом, паляўнічай з роду волатаў, з роду слаўнага Мікулавага.

У Мікулы Селяніціна не было братоў адна сястра: косы — лён, а вусны макаў цвет, — Кацярына Селянінаўна. Моц дала абодвум ім зямля, ды такую, што баяліся нават сватацца да волаткі добры малайцы-багатыры.

Толькі чуткі пра красу яе даляцелі ўжо да Полацка. А ў Полацку тады сядзеў князь праслаўлены Волхв Усяслаў. Пажадалася князю слаўнаму паглядзець сястру Мікулаву. Ён сабраў дружыну смелую, асядлаў каня любімага. Едзе Волхв Усяслаў ды думае: "Князь не буду, а высватаю маладую Селянінаўну". Вось пад'ехалі да церама. Ім насустрач выйшла ладачка, быццам белая лябёдачка. Вочы — колеру сінь-возера.

— Кацярына Селянінаўна! Госцем князя ці не прымеш ты?

І адказвае маладачка:

—Я гасцям заўсёды радуюся...

На сталы ды на дубовыя белыя абрусы пасланыя. Гаспадыня сінявокая разлівае мёд па келіхах.

Задае пытанне князь Усяслаў Кацярыне Селянінаўне:

—Чаму ж мужа ты не абярэш, прыгажуня светлакосая? Чаму дом твой столькі год пусты, — не гучыць дзіцячы смех у ім? Час прыйшоў табе, пяшчотная, называцца чыёйсьці ладаю.

І адказвала прыгожая Кацярына Селянінаўна:

—Я не супраць, княжа Волхв Усяслаў, стаць сяброўкай мужу-волату. Але волаты перавяліся на зямлі, на гора беднай мне. Сціснy я рукой далонь каму, ён ад болю ажно ўскрыквае. Хіба муж такі патрэбны мне?

Засмяяўся слаўны князь Усяслаў:

—Кацярына Селянінаўна! Вось сядзяць мае дружыннікі, маладыя, нежанатыя. Кожны моцны, кожны дужы з іх. Хіба ні адзін з багатыроў не падыдзе ў мужы табе? Ты прызнач выпрабаванне ім...

Уздыхнула Селянінаўна. І пайшла ўкруг сталоў хадзіць. У паўсілы руку цісне ім, — і ад болю стогнуць волаты. Толькі князь Усяслаў і вытрымаў ды яшчэ два моцныя воіны: малады Сцяпан Раманавіч ды ўгорскі воін Чорны Марка.

І тады падумаў князь Усяслаў: "Каб была ты, Селянінаўна, не нашмат, але слабейшаю, я б абраў цябе княгіняю. Але роўныя па моцы мы, — мужу трэба ўсё ж дужэйшым быць..."

А Сцяпан ды Марка волаты, неразумныя, рашыліся дабівацца Селянінаўны, пасварыўшыся адзін з адным.

І зірнула Селянінаўна на абодвух, і ўбачыла: змрочны тварам Марка багатыр, прыгажун — Сцяпан Раманавіч. І яшчэ яна ўбачыла, што слабейшы Сцяпан за Марка ўсё ж. І дурное сэрца выбрала ўпоперак усяму слабейшага.

— Што ж, — казалі ёй багатыры, — ты прызнач выпрабаванне ім. І які ў ім пераможа, той назаве цябе хай ладаю.

— Раніцай ім дам па каменю, адказала Селянінаўна, хто далей закіне камень свой, таму стану вернай жонкаю...

То не чайка над вадой крычыць, то над Сожам плача дзяўчына:

— Сож — мой братка! Лёс мой горкі, Сож. Дапамогі ў цябе прашу. Памажы Сцяпану любаму. Яго камень хай пераляціць праз твае праз хвалі хуткія. Камень Марка праглыні ты, Сож. Хай не даляціць да берага ён!

І рашыла вырваць хітрасцю перамогу для каханага маладая Селянінаўна. Дае Марку вялізны камень, а Сцяпану невялікі. Кінуў першы камень свой Сцяпан, прасвістаў над Сожам камень той і ўпаў ён ажно за пяць вёрст. Засмяялася Селянінаўна, у чаўнаку праз Сож пераплыла ды прыбегла ў поле чыстае, знайшла камень той Сцяпанаў ды на яго ўскочыла ў радасці, пад нагою багатырскаю след адбіўся ды на камені...

Закрычала Селянінаўна:

— Гэй, Сцяпане! Ты мне муж ужо!

І пачуў усё гэта волат Марка. Ён схапіў вялікі камень свой, размахнуўся, кінуў з усіх сіл, — Маркаў камень лёг за дваццаць вёрст.

Пабляднеў прыгожы юны твар Кацярыны Селянінаўны, калі воі Усяслававы закрычалі:

— Марка перамог!

— Не бываць таму ніколі ўжо! — адказала Селянінаўна.

— Дала слова і назад бяру. Муж мне будзе той, каго хачу!

Толькі раптам загрымеў пярун, і затрэслася сыра зямля, бо для роду для Мікулавага ганьбы большай не магло і быць, чым парушыць слова ўласнае, слова гонару сумленнае.

І — не стала Селянінаўны. Расцяклася хуткаю вадой, абярнулася чыстым струменем, зазвінела бруістай крыніцаю...

Дзе Прапашэск-град стаіць, вёрст за пяць Калодзеж Сіні ёсць. Б'е струмень у чалавечы рост вада чыстая, крынічная. Углядзіся ў гэты слуп вады, мо пазнаеш прыгажуню ў ім? Багатырку, што парушыла слова, дадзенае волатам...

## НАШЧАДАК

—Чаму ты думаеш, Ніл, што мы пойдзем з табою? — маладога селяніна з грубымк вялікімі, як у сапраўднага аратага, рукамі і ўпартым высокім ілбом абкружылі з усіх бакоў аднавяскоўцы.

—Вы не можаце кінуць мяне зараз, калі я, урэшце, даведаўся, хто адзіны сапраўдны нашчадак князя Сапегі.

— Мы не верым табе. Ці зможаш ты даказаць, што ты сын князеў?

—Так кажа мая маці, Марына. А кожны з вас ведае, што няма ў нашым сяле больш сумленнага чалавека.

Шум спрэчкі перарывае голас саракагадовай, яшчэ вельмі прыгожай жанчыны:

— Браты, чаму вы не верыце майму сыну? Успомніце, як аднойчы позняй восенню ў нашых мясцінах заблукалі два паляўнічыя. Я тады была маладзенькая, і маці марыла аддаць мяне замуж за багатага. А тыя двое казалі, што яны — княжацкія лоўчыя, і маці запрасіла іх пераначаваць у нашай хаце. Замуж мяне не ўзялі, не роўняй аказалася Марына маладому госцю, бо быў ён не лоўчым, а князем. Але вось сына падараваў мне вялікі Сапега. Ніл — Сапегаў нашчадак, і таму мае, напэўна, права на спадчыну.

—Марына, скажы, калі ласка, — выходзіць наперад сівы селянін з добрымі вачыма, ці ведаў князь пра дзіця?

—Я хацела сказаць яму пра гэта яшчэ дваццаць гадоў таму, але мяне нават не пусцілі ў палац, уздыхае жанчына.

Сціхаюць людзі. Яны ўражаныя і разгубленыя.

— Цяпер вельмі цяжка даказаць штосьці, — кажа сівы селянін, — князь памёр, і ніхто не сцвердзіць правы твайго сына.

— Наадварот, толькі зараз і трэба пачынаць, — гарачыцца хтосьці. — Сам Сапега ніколі б не згадзіўся прызнаць Ніла сваім нашчадкам. Але ён памёр, і няма зараз нікога больш дастойнага прыняць яго спадчыну, чым Ніл.

— Правільна! — чуюцца крыкі. Хай Ніл будзе нашым панам!

—Хто пасмее пярэчыць нам з-за таго, што Марына не мела шлюбу з князем? Затое Ніл — старэйшы з усіх Сапегавых дзяцей!

— Няхай прызнаюць яго правы, а не то мы пакажам ім, як могуць простыя людзі змагацца!

— Хопіць крыўды! Ніл, абяцай, што будзеш шкадаваць сялян, і мы — твае!

Шум усё большы. Цяпер ужо крычаць і жанкі:

—Колькі цярпець нам прыніжэнні ад паноў? Кожны з іх толькі і глядзіць, як бы пакрыўдзіць безабаронную жанчыну. Дабівайся,

Марына, справядлівасці! Ужо калі ты выгадавала княжацкага сына, то павінна за гэта хаця б штосьці мець!

—Я даб'юся сваіх правоў, — ціха кажа Ніл, і Марына з гонарам і пяшчотай глядзіць на яго.

* * *

У Ружанах было неспакойна. Пранесліся чуткі, што з'явіўся князь-самазванец. У цэрквах святары пелі ўжо анафему яму. А ў сваім пышным пакоі зачыніўся раз'юшаны малады Сапега, не жадаючы бачыць нават уласную маці і братоў. Сяляне былі гатовы прызнаць Ніла гаспадаром, бо, пражыўшы дваццаць гадоў у простай сялянскай сям'і, не мог ён, па іх разуменні, забыць пра беды і крыўды простых людзей. Іншыя маладыя мужчыны далучыліся да Нілавых людзей, астатнія з цікаўнасцю чакалі, чым усё скончыцца.

Калі стала зразумелым, што мірам Нілу ніколі не дабіцца прызнання сваіх правоў, у Ружанскай пушчы з'явіўся новы гаспадар. І з тых часін Сапегі пачалі сапраўдную вайну супраць бунтаўнікоў-сялян. Год трымаліся нілаўцы, але не былі роўнымі сілы...

Сумнай была гэгая апошняя вячэра. Ніл сядзеў моўчкі і здаваўся значна старэйшы, чым быў на самай справе. Ніхто не сумняваўся, што заўтра прыме смерць, бо з усіх бакоў абкружаны іх лагер войскамі, выкліканымі Сапегам для знішчэння саперніка.

— Няўжо нам не застаецца нічога, акрамя гаго, каб як мага даражэй прадаць сваё жыццё? — спытаў нехта.

—Ёсць выйсце, хмура адказаў Ніл. — Учора на плошчы каля царквы быў абвешчаны ўказ: "Сапегі згодны дараваць усіх ашуканых злодзеем і забойцам Нілам людзей, калі яны выдадуць яго, звязаным, у рукі сапраўднага князя". Гэтую вестку прынесла мая маці, Марына. Салдаты прапуспілі яе да нас дзеля гэтага.

Узнімаецца шум абурэння:

—Як дрэнна ты думаеш пра нас, Ніл!

— Хіба мы заслугоўваем гэтага?

— Мы не здраднікі!

—Ты сапраўдны князь, мы празнаем толькі цябе!

Ніл з падзякай аглядае твары людзей, што засталіся верныя яму нягледзячы ні на што.

— Тады смерць, слаўная смерць дзеля праўды. Мы загінем разам, падтрымліваючы адзін аднаго ў цяжкі час, засланяючы адзін аднаго ўласным целам, як брата. І нам не будзе нічога шкада, і нам не будзе страшна.

Некалькі чалавек ускокваюць, каб моцным мужчынскім абдымкам прыціснуць да сябе Ніла. Не, не панам, не ўладаром над сабою адчувалі яны яго ўвесь гэты час. Быў Ніл для іх братам, сынам. Быў Ніл жывым увасабленнем справядлівасці, якой пакуль не змаглі яны дабіцца. І ніхто не заўважыў, як збоку за імі назіралі жаночыя вочы, поўныя тугі і адчаю. Марына не думала зараз пра сына. Яна ведала, што не мае нічога, каб захаваць яго жыццё. Але разам з ім павінны прыняць смерць і ўсе гэтыя добрыя, прыгожыя, працавітыя людзі, што паверылі ёй і ўступіліся за яе гонар. Яна думала пра іх сем'і, жанчын, якіх ведала і любіла, сваіх сябровак, дзяцей, якім давядзецца з маленства даведацца пра долю сіроцкую.

І Марына выйшла наперад: маленькая, слабая. І ўпала на калені:

— Даруйце мне, землякі! Зманіла я вам. Не Сапегаў сын мой Ніл. Селянінам быў яго бацька, звычайным, як і ўсе мы. Славы хацела, багацця хацела для Ніла — толькі смерць здабыла і яму, і вам. Ратуйце ж сябе дзеля родных вашых. Выдайце сына майго Сапегам!

І цішыня павісла над лесам. І маўчалі людзі доўга, як і тады, калі сказала ім Марына, што сын яе — нашчадак вялікага князя.

— Не трэба было табе казаць нам пра гэта зараз, — павольна прагаварыў урэшце хтосьці. — Лепей было б для нас, не ведаючы, смерць прыняць. Таму што ніхто ўсё роўна не здрадзіць правадыру нашаму. Не дазволіць зрабіць нам гэга сумленне. Бог даруе табе за хлусню, Марына, як даруем зараз мы ўсе.

—Але не я! — крыкнуў раптам Ніл, кідаючыся да жанчыны. — Маці, што нарабіла ты? Навошта? Аднавяскоўцы! Няма маёй віны ў тым, што здарылася. Не ведаў я нічога. Але калі ёсць у вас сумленне, дык і ў Ніла яно маецца. Сам аддамся ў рукі ворагам сваім. Няхай шыбеніца — я заслужыў яе, затое ўсе вы будзеце жыць. Дараванне...

—Даравання не будзе, — хрыплым голасам, непадобным на свой звычайны, вымавіла Марына. Каб атрымаць дараванне, сыне, яны павінны выдаць цябе. Яны, а не ты сам.

—Вяжыце мяне, людзі! — ціха прамовіў Ніл. — Не трэба лішняй крыві...

* * *

Шыбеніцу паставілі на плошчы, дзе звычайна праводзіўся кірмаш. Паглядзець на пакаранне прыйшоў увесь горад, былі тут і людзі з навакольных вёсак. Асобна ад усіх стаялі былыя разбойнікі-нілаўцы, якія атрымалі дараванне цаной жыцця свайго правадыра. На іх глядзелі з недаверам, амаль з нянавісцю. І нілаўцы, адчуваючы гэта, нізка схілялі галовы і хавалі вочы. З вялікім гонарам, як мог бы зра-

біць толькі нашчадак князя, узышоў на памост насустрач сваёй смерці Ніл. І калі пятля няўмольна зацягнулася вакол яго моцнай, як у сапраўдаага аратага, шыі, міласэрная смерць закрыла вочы Марыны. Без крыку, без стогну ўпала маці на рукі аднавяскоўцаў мёртвай...

Доўга не пакідалі страшэннага месца нілаўцы. Яны апусціліся на калені прама на брук, вусны іх ледзь чутна варушыліся. Што шапталі яны? Маленне альбо проста апошняе "даруй"?

На другі дзень нілаўцаў пад аховай прывялі на пустэчу, дзе было дазволена ім жыць. І хутка ўзнікла невялічкае паселішча адрынутых. І нейкі час нікому не дазвалялася заходзіць да іх. Гасцям з іншых месцаў сяляне тлумачылі гэтую забарону словамі: "Тут жывуць варанілаўцы". Хутка вёска пачала называцца Варанілаўцы, а потым і Варанілавічы.

Да гэтых часоў захавала яна сваю назву.

## АПОШНЯЯ АХВЯРА

Лета было такое гарачае, што трэскалася зямля пад нагамі, і трэшчыны былі нібы глыбокія барозны, прааранымя велізарным плугам волата. Вада ў калодзежах знікла, згарэлі трава і лістота на дрэвах, засох нават свяшчэнны дуб на капішчы, на гары. Тады шмат каму стаў з'яўляцца ў сне страшэнны цмок. Луска на целе яго была чырвонай і гарачай, бы распаленае вугolle, з пашчы вырываўся агонь, а з ноздраў — густы дым. Ад гэтага жаху людзі стагналі і кідаліся, але не маглі прачнуцца: абязводжанае, слабое цела не слухалася. У гэты час стары вяшчун паклікаў да сябе свайго сына Рамонка.

Рамонак быў звычайным юнаком, вясёлым і шалапутным, таму жыў не з бацькам на гары, а ў сяле, дзе шмат гожых дзяўчат. Вяшчун пакуль толькі адаойчы захацеў бачыць сына. Стаміўшыся ад скаргаў заклапочаных бацькоў мясцовых красунь, стары патрабаваў ад Рамонка клятвы, што з гэтых часоў для яго будзе існаваць толькі адна дзяўчына, суджаная яму яшчэ з нараджэння, ціхая і сціплая Шчарыца, якую кахаў Рамонак па-сапраўднаму. Юнак даў слова і сумленна трымаў яго, таму цяперашні выклік бацькі вельмі здзівіў.

На гары, ля капішча, было яшчэ больш горача, чым унізе. Рамонак адразу знайшоў вешчуна. Той сядзеў пад чорнымі, бы абсмаленымі, галінамі дуба з заплюшчанымі вачыма. Рамонак нерашуча спыніўся ў некалькіх кроках ад старога, тады той, не адкрываючы вачэй, прагаварыў:

— Сыне, мяне пакінулі мае памагатыя. Яны спалохаліся цмока.

Вяшчун зірнуў на юнака і хрыпла засмяяўся. Рамонку стала страшна: бацькаў смех быў падобны на рыпенне сгарога дрэва пад ветрам, у ім быў голас вечнасці. Раптам стары змоўк і стаў сумны:

— А я ж таксама бачыў яго, сыне.

Рамонак здрыгануўся.

—Так, — працягваў вяшчун, я сню яго вось ужо тыдзень, але нікому яшчэ не казаў пра гэта. Навошта?

— Чаму ён з'яўляецца людзям, адкуль? — спытаў усхваляваны юнак.

— Мы ўсе хворыя, — паківаў галавою вяшчун, — і ў нас адна хвароба спякота, смага. Таму нам з'яўляецца цмок — гаспадар сухавеяў. Ён радуецца, гэты злы бог: вада знікла і нас чакае непазбежная смерць.

— Хіба нельга нічога зрабіць?

— Мы людзі, сыне. Чалавек не павінен змагацца са стыхіяй, павольна адказаў вяшчун.

— Але чаму не паспрабаваць, — параіў Рамонак.

— Паспрабаваць? Садзіць у пустынях дрэвы? Спыняць рэкі? Асушаць балоты? Загадваць дажджу ісці не тады, калі трэба, а тады, калі нам хочацца? А калі ў гэтым вялікая мудрасць багоў, нам не зразумелая? Ці не сапсуем мы штосьці сваім умяшаннем, сыне?

— Аб чым гаворыш ты? — не зразумеў юнак.

— Я гавару аб тым, што спякоту і сухавей, уладаром якіх з'яўляецца вогненны цмок, можа перамагчы толькі вялікі Пярун. Але мы ўгнявілі яго, і ў знак гэтага засох вешчы дуб.

Бацька і сын доўга маўчалі, а потым Рамонак ціха спытаў:

— За што Пярун гневаецца на людзей?

— А хіба ж ты не бачыш, як адштурхоўваюць мацнейшыя ад крыніцы тых, хто слабейшы, як адбіраюць мужчыны апошнія кроплі вады ў дзяцей, як за глыток вады той-сёй са шчасліўцаў, хто мае запасы вады, патрабуе кахання ў самых прыгожых жанчын? — узарваўся вяшчун. Мы забылі, што адрознівае чалавека ад жывёлы, сыне. Мы развучыліся быць спагадлівымі, міласэрнымі, добрымі. Мы больш не ўмеем ахвяраваць сабою, але толькі гэта магло б яшчэ выратаваць нас.

Вяшчун змоўк, і калі ён зноў пачаў гаварыць, голас яго быў ужо іншым, і словы здаваліся заклінаннем:

— Чалавечая кроў павінна заўтра раніцай напаіць свяшчэнны дуб. Ад яе ажыве Перунова дрэва, пачуе тады нас Вялікі Бог і сыдзе, каб уступіць у бой з вогненным цмокам і перамагчы яго. І ты будзеш дапамагаць мне ў гэтым ахвярапрынашэнні, сыне. Гэта будзе першая твая ахвяра, малады вяшчун, бо багі вырашылі, каб ты змяніў мяне, старога і нядужага.

Юнак адштурхнуўся ад бацькі з жахам.

—Няўжо я павінен забіць чалавека, бацька? — крыкнуў ён.

— Такая воля багоў, — непахісна адказаў вяшчун.

— І хто ж стане ахвярай? Каго ты абраў? Я ведаю ўсіх гэтых людзей, хіба змагу я ўзняць руку на любога з іх?

— Зможаш, Рамонак, прагаварыў стары. — Гэта не будзе насіллем, сыне. Ахвяра сама назаве сябе, яна будзе згодная на смерць.

Вечарам усе жыхары сяла сышліся ля капішча. Вакол сухога дрэва злавесна гарэлі вогнішчы, гучаў напружаны, таямнічы напеў. Вяшчун абыходзіў усіх з чашай і даваў глытнуць нейкага духмянага напою. Людзі ахвотна прыпадалі да чашы, спадзеючыся прагнаць пастаянную смагу. Вось вяшчун падышоў да дрэва і, працягнуўшы з маленнем да яго рукі, пачаў гаварыць. Водбліскі вогнішча дрыжалі і скакалі па твары сівога жраца Перуновага, голас яго гучаў у цішы

моцна і сурова. Вяшчун дакараў Перуна за тое, што ён адвярнуўся ад людзей. Яны не заслужылі яго гневу, бо не ўсё добрае загінула ў душах. І зараз усе сабраліся тут, каб даказаць гэта яму. Пярун убачыць, як выйдзе наперад адзін, самы аддамы, самы дзёрзкі, смелы і любячы чалавек, каб крывёю сваёй напаіць сухую зямлю і заслужыць гэтым дараванне Вялікага Бога.

Вяшчун азірнуўся, усе замерлі, нервовая сутарга прайшла па целе Рамонка, што стаяў ля алтара з ахвяравальным нажом у руках. Маўчанне цягнулася вельмі доўга. Вяшчун углядаўся ў твары людзей і не бачыў у іх нічога, акрамя страху.

— Няўжо я памыліўся ў іх? — ледзь чутна прашаптаў ён.

У той момант, калі ўсе спадзяванні пакінулі старога, з натоўпу аддзялілася худзенькая постаць і зрабіла некалькі крокаў да алтара. Рамонак ахнуў і кінуўся да яе, бо гэта была яго нявеста, Шчарыца.

— Ты хочаш памерці? Чаму? Навошта? — закрычаў ён.

— Рамонак, уздыхнула дзяўчына, — мая маці ляжыць у непрытомнасці, бацька ад слабасці не можа нават узняць лук, рукі яго высахлі і сталі падобнымі на рукі падлетка. Сястра памерла на маіх вачах, — яна прасіла піць, а я нічым не магла дапамагчы ёй. Я яшчэ тады падумала: "Каб жа было магчыма, крывёю б сваёй напаіла іх усіх". Багі пачулі мае думкі. Рыхтуйся ж да вялікага ахвярапрынашэння, каханы.

Дарэмна просіць Рамонак нявесту адмовіцца ад сваіх слоў, дарэмна заклінае сваім каханнем... Смела падыходзіць Шчарыца да алтара і схіляе сваю прыгожую гордую галаву. У роспачы кідаецца юнак да старога вешчуна:

— Бацька, дапамажы!

—Волі багоў трэба падпарадкоўвацца, сыне, — гучыць суровы адказ.

—Каб я забіў яе? — крычыць Рамонак, і слёзы крыўды і болю з'яўляюцца на вачах яго. — Ды лепш я загіну! Чаму ты сам не зробіш таго, чаго патрабуеш ад мяне? — звяртаецца ён да бацькі.

— Рамонак, сыне, — уздыхае вяшчун. Я ўжо стары, мая рука стала нявернай. Я не хачу, каб апошнія хвіліны гэтай мужнай дзяўчыны былі пакутлівымі. Твая рука — дужэйшая. Няўжо ты менш мужны, чым яна?..

Доўга стаяў перад нявестай Рамонак. І рука яго, узнімаючыся шмат разоў, бяссільна апускалася. І тады Шчарыца штосьці ціха і пяшчотна сказала яму. Ніхто не пачуў гэтых слоў, толькі ўбачылі ўсе, як горка плакаў пасля іх вешчуноў сын...

Калі кроў Шчарыцы пралілася на сухую зямлю, грымнуў гром. Маланка, бы бліскучая страла, упілася ў падножжа старога дуба. З-пад каранёў свяшчэннага дрэва з'явілася вада. Спачатку крынічны струменьчык, потым ручаіна і, урэшце, бурны пеністы паток. Ён падхапіў цела няшчаснай Шчарыцы і панёс яго кудысьці ўдалечыню, пракладаючы сабе рэчышча на выпаленай зямлі.

— Слава Перуну! — крыкнуў стары вяшчун. — Ён пачуў нас, ён перамог страшэннага цмока!

У радасці людзі кідаліся адзін аднаму ў абдымкі, цалаваліся, спявалі. I толькі адзін чалавек не падзяляў іх весялосці. Гэта быў Рамонак. Да самай сваёй смерці, якая прыйдзе да яго ў глыбокай старасці, застанецца ён сумны і маўклівы. Ён стане вешчуном, як таго жадалі багі і яго бацька, але першая яго чалавечая ахвяра будзе апошняй у гэтых мясцінах, бо Рамонак пакляўся сабе адвучыць Перуна ад чалавечай крыві. Ён стрымае сваё слова. Раку ж у гонар мужнай Шчарыцы назавуць Шчарай. I ніколі людзі, што будуць сяліцца потым на яе берагах, не забудуць аб тым, шго найвышэйшы сэнс жыцця чалавека — ахвяраваць сабой дзеля шчасця іншых.

* * *

Кажуць, мястэчка, што вырасла з маленькага паселішча на беразе Шчары, і назву сваю Слонім атрымала з-за пастаяннай гатоўнасці мясцовых людзей ахвяраваць сабою, засланяючы ад бяды іншых. Моцнай заслонай быў Слонім увесь час для Новагародка, багатага гандлёвага горада, якім заўсёды імкнуліся авалодаць чужынцы.

## БЕЛЫЯ СЛУПЫ

Ціха гарэла лампадка перад абразамі, змрочныя памінальныя спевы, здавалася, суправаджаліся гулам грому, што быў чутны тут, у глыбіні манастырскай. Час ад часу бліскавіцы асвятлялі твары святых братоў, што стаялі побач з мёртвым целам свайго настаяцеля. Многія з іх былі маладымі, а на па-дзявочаму прыгожым твары юнага паслушніка, які ў роспачы схіліўся над нябожчыкам, нават яшчэ не абазначыўся лёгкі пушок, што з часам перарастае ў вусы. Крыху наводдаль ад усёй брацціі маліўся, кланяўся перад абразамі стары манах, брат Сергій.

Гучны стук у манастырскую браму прымусіў усіх здзіўлена ўзняць галовы.

— Брат Агафон, — звярнуўся стары манах да аднаго з тых, хто знаходзіўся побач з целам настаяцеля, — ідзі і даведайся, хто з мірскіх асмеліўся парушаць спакой жытла ў такую ноч. І калі гэтаму чалавеку патрэбна суцяшэнне, дапамога альбо ціхае прыстанішча, няхай брат Пётр прапусціць яго.

Пачціва апусціўшы галаву перад старцам, брат Агафон паспяшыў рабіць тое, што яму загадалі. Праз некаторы час ён вярнуўся, але не адзін. Мужчына з суровым, поўным годнасці тварам ішоў побач. Шэрае дарожнае адзенне яго было наскрозь мокрае, вада струменямі сцякала па доўгіх валасах, твары і барадзе.

— Брацціе, — сказаў ён, перахрысціўшыся, — я пасланы да вас, каб замяніць закліканага Богам прападобнага айцанастаяцеля. Імя маё Паісій.

У свеце бліскавіцы нямногія паспелі заўважыць хуткі позірк, кінуты на новага настаяцеля маладым паслушнікам.

Раніцай нябожчыка аддалі зямлі, і брат Сергій ціхмяна перадаў усе справы манастырскія ў рукі айца Паісія. Яму паказалі ўвесь манастыр: келлі брагоў, трапезную, царкву і капліцу, склеп і бібліятэку, у якой штодзень браты руплівa перапісвалі велізарныя фаліянты. Пасля вячэрняга малення брат Сергій увёў новага настаяцеля ў келлю, больш прасторную і ўтульную, чым іншыя.

— Тут жыў наш настаяцель, ціха прагаварыў ён. — Тут ад гэтага часу жыць табе, святы айцец.

— Але чаму тут два ложкі? — здзіўлена спытаўся Паісій.

— Былы настаяцель дазваляў хлопчыку-паслушніку жыць з ім у адной келлі. Але калі тваё распараджэнне будзе іншым, ён пяройдзе ў келлю да братоў Агафона і Іаана. Гэта самыя маладыя з усёй брацціі.

Штосьці недагаворанае старым манахам здалося настаяцелю дзіўным, быццам з вялікаю неахвотаю той прапанаваў перавесці паслушніка да маладых манахаў. Паісій паспрабаваў зазірнуць у вочы яго, але нізка была схілена галава брата Сергія. І адказаў Паісій:

— Я вырашу гэта заўтра, пакуль жа няхай усё застаецца як і пры папярэдніку маім.

З паклонам увайшоў у келлю юны паслушнік:

—Святы айцец, ці накажаце мне чакаць вас сёння вечарам, каб перад сном разам памаліцца небу аб душы нябожчыка?

—Не, сыне мой, адказаў настаяцель. — У мяне ёсць яшчэ справы, кладзіся спаць без мяне.

І зноў пытлівы хуткі позірк паслушніка спыніўся на твары і постаці Паісія. Але на гэты раз святы айцец заўважыў яго.

Да ранішняга звону маліўся настаяцель ля алтара ў невялічкай капліцы. Ён прасіў Бога аблягчыць яму цяжар новай справы. Дзень, праведзены ў гэтым манастыры, запэўніў яго ў тым, што існуе нейкая злавесная таямніца. Манахі маўкліва імкнуліся адхіліцца ад шчырай размовы з ім, стары Сергій часта цяжка ўздыхаў, расказваючы пра таго ці іншага з братоў, слёзы блішчэлі на вачах яшчэ аднаго сгарога, брата-ключніка Пятра. Паісій не ведаў, якой небяспекі чакаць яму і адкуль, але адчуваў, што яна існуе.

Перад ранішнім маленнем новы настаяцель зайшоў у сваю келлю пераапрануцца. Яго здзівіла, што юны паслушнік яшчэ ў ложку.

"Напэўна, не чуў звону", — падумаў Паісій. Хвіліну ён хістаўся, ці будзіць яго? Паслушнік яшчэ не манах, для яго статут манастырскі не такі суровы. Мабыць, юнак ноччу таксама, як і ён, доўга маліўся? Бо, па ўсім відаць, смерць пастаяцеля больш за ўсіх уразіла яго. Сапраўды, у хлопцу гэтым шмат яшчэ мірскога, да душэўнага спакою сапраўднага інака яму яшчэ вельмі далёка. Але ранішняе маленне нельга прапускаць. І Паісій робіць крок да ложка паслушніка.

Тады той сам адплюшчвае вочы. Імгненне і паслушнік ужо на нагах. Коўдра адкінута прэч. І замірае анямела святы айцец, усхвалявана адступае да дзвярэй. Не хлопец-паслушнік перад ім, а зусім яшчэ юная жанчына, ад гарачага цела якой зыходзіць п'янкі, дурманлівы водар. На ёй амаль няма аддзення, і Паісій бачыць, якім прыгожым, стройным станам надзяліў яе Бог. Не саромеючыся, маладая жанчына падыходзіць да святога айца і дакранаецца да яго рукі. Быццам маланкай пранізвае яго. У жаху адхоплівае ён руку і бяжыць з келлі прэч.

Упершыню ў час малітвы думаў Паісій не пра Бога.

"Блудніца ў манастыры!" — думка гэтая перабівала ўсе астатнія. Раз-пораз усім целам ён уздрыгваў і ведаў, што ў гэты час на яго ўздымае вочы тая, што хавае сваю існасць пад грубым адзеннем паслушніка.

Калі манахі разышліся па справах сваіх, настаяцель паклікаў да сябе брата Сергія.

— Я ўсё ведаю, прамовіў ён. Адкуль у манастыры... гэты паслушнік?

— Яго прывёў сюды два гады таму стары настаяцель, даў імя Амбразій.

— Хто яшчэ ведае пра тое, што паслушнік — жанчына?

—Настаяцель адкрыўся мне ды брату Пятру, бо мы ўжо вельмі старыя для грэшных учынкаў. Нам наказалі аберагаць ад блудніцы брацію, бо шмат сярод іх слабых духам.

—І што ніхто з братоў за два гады не даведаўся пра таямніцу?

— Даведаліся. Браты Агафон і Іаан. Мыслю я, блудніца сама ім раскрылася, паквапіўшыся на маладосць іх і прыгажосць. Апошні час яна грашыла больш з імі, чым з айцом-настаяцелем. З суму захварэў настаяцель ды і памёр. І смерць гэтая сваёй нечаканасцю ўзбудзіла ўсіх інакаў.

— Брат Сергій! — ускрыкнуў Паісій. — Няўжо вы з братам Пятром, паважаныя старцы, у граху такім замешаны разам з нябожчыкам?! Няўжо не імкнуліся вы неяк паўздзейнічаць на айца-настаяцеля, каб вярнуць яго святой справе служэння Госпаду нашаму?!

Пахітаў галавою стары манах:

—Грэх вельмі глыбока пранікнуў у душу яго, і голас розуму ўжо не мог прабіцца праз гэтую тоўшчу. Адзінае, што заставалася нам з братам Пятром, гэта ахоўваць ад іншай брацii таямніцу, каб не ўвесці ў грэх увесь манастыр, ды маліць Госпада, каб прасвятліў ён розум нашага настаяцеля. Бог пачуў нашы малітвы і паслаў да нас чалавека шчыра адданага Яму, моцнага духам. Мы верым, ты ачысціш манастыр ад гэтага.

У гэты ж дзень Паісій наказаў старому Пятру ісці ў горад, што знаходзіўся ў некалькіх вёрстах ад лясного манастыра, з пасланнем да епіскапа. Нечаканай была просьба новага настаяцеля: знайсці людзей, у якіх два гады назад знікла пятнаццаці-шаснаццацігадовая дачка.

Два тыдні праводзіў ночы Паісій у келлі брата Сергія. Праз два тыдні ў час трапезы настаяцель выйшаў з-за стала і падышоў да месца, дзе паміж братамі Агафонам і Іаанам сядзела блудніца.

—Устань, паслушнік Амброзій! — прамовіў ён. — Альбо, можа, цябе трэба называць паслушніцай Амброзіяй?

Пабляднелая, устала маладая жанчына, і вочы ўсіх спыніліся на ёй з цікаўнасцю, страхам, абурэннем.

Тады адчыніліся дзверы трапезнай, і ў суправаджэнні манаха-ключніка Пятра нясмела ўвайшоў немалады ўжо чалавек у купецкім адзенні. Настаяцель узяў за руку жанчыну і падвёў да яго:

— Скажы, сумленны чалавек, ці гэта твая дачка?

І застагнаў, быццам ад нясцерпнага болю, той:

— Наталля, дачачка! Што ж ты гэта? Навошта з дому пайшла, навошта ў слязах нас пакінула? Ці ж не любілі мы цябе з маці, не пеставалі?

Тады вырвалася блудніца з рук Паісія, пабегла з трапезнай. Дарогу ёй заступілі браты Сергій і Пётр. Яна з крыкам кінулася да прыгожага брата Агафона, ад яго да маладога брата Іаана. Яна была падобна на вар'ятку, і бацька яе, пасівелы і няшчасны, раптам закрыў твар рукамі, і плечы яго бязгучна затрэсліся...

Прайшоў месяц з таго часу, калі з манастыра звезлі распусную Наталлю. Але спакой не прыйшоў у святое жытло. Душы манахаў былі растрывожаны раскрыццём таямніцы. Усё часцей думкі іх вярталіся да вабнасцяў юнай Наталлі. І малітвы ўцякалі ад іх, і страсныя словы нашэптваў ім на вуха грэх. А многія звар'яцелі ад думак гэтых, пачалі наракаць і таемна, і ўслых на айца Паісія за тое, што ён аддаў Наталлю.

Бачачы гэта, пакутаваў Паісій, штодзень слёзна маліў ён Бога, каб вярнуў той спакой у манастыр, каб выратаваў душы аблудных братоў, няхай нават цаною смерці іх грахоўнага цела.

Аднойчы на ранішняе маленне не прыйшлі браты Агафон і Іаан. Калі Паісій кінуўся да іх у келлю, ён убачыў іх ледзь жывымі. На целах іх былі відаць злавесныя чырвоныя плямы. І ў жаху адштурхнуліся ад заражаных святыя браты. Чума прыйшла ў манастыр, і першымі ахвярамі яе сталі тыя, хто быў больш за іншых грэшны.

Клапоцячыся пра жыццё брацііі, Паісій забараніў манахам набліжацца да нябожчыкаў. Ён хаваў іх сам. Дапамагалі капаць магілу старыя Пётр і Сергій. Але хваробу ўжо нельга было спыніць. На наступны дзень святое жытло не далічылася яшчэ аднаго чалавека, потым памерла адразу трое...

— Выратуй нас, грэшных! — у страху малілі манахі свайго настаяцеля. — Ты — адзіны сярод нас праведнік! Умалі Госпада дараваць нам грэх наш!

— Кара Божая — справядлівая, — з пакутай і болем адказаў ім Паісій. — Вы самі ведаеце гэта. Бо калі дапусціць Усявышняму, каб мы, служкі яго, блудзілі справай ці думкамі, то што ж можа быць тады дазволена мірскім?! Але кайцеся, браты! Кайцеся, і міласць Божая прыйдзе да вас. Давайце маліцца разам!

І апускалася ўся брацыя на калені перад алтаром, і імкнуўся кожны ў страсным маленні выпрасіць сабе дараванне. Але раптам замест слоў малітвы ў галовах іх пачыналі ўсплываць словы прызнання ў каханні прыгожай Наталлі, якія яны так і не паспелі сказаць ёй.

І чума працягвала касіць няшчасных. І прыйшоў дзень, калі ў манастыры засталіся ўсяго толькі тры чалавекі: настаяцель ды старыя браты Пётр і Сергій. Выкапалі яны для сябе тры магілы па розных баках манастыра, апусцілі ў іх дубовыя труны ды ў іх і клаліся ноччу спаць. Так рабілі яны, ведаючы, што калі смерць прыйдзе па аднаго ці двух адразу, то апошняму, аслабеламу ад маленняў і пастоў, будзе цяжка хаваць памерлых.

Дні ішлі, а смерць не клікала ні аднаго з іх за сабою. Аднойчы ноччу пачалася навальніца, і маланка, ударыўшы ў дах манастыра, запаліла яго. Агонь перакінуўся на царкву і капліцу, і хутка яны, драўляныя, згарэлі датла. Затаіўшы дыханне, манахі і іх настаяцель назіралі за тым, як павольна гаснуць уначы гэтыя гіганцкія паходні. І тада Паісій прамовіў:

— Знікла назаўсёды прыстанішча распусты і заразы. І гэта — Божае знаменне нам. Гасподзь пакінуў нам жыццё, ведаючы аб нашай невінаватасці, і ён жа загадаў нам ісці адсюль, пазбавіўшы нас жытла. Закапаем жа нашы магілы, пройдзем праз агонь, каб канчаткова ачысціцца ад заразы, і пакінем гэтыя мясціны.

Так яны і зрабілі, паставіўшы ў тых месцах, якія адзначылі раней для сваіх магіл, тры белыя слупы — знак таго, што тут нядаўна была чума, перасцярогу для людзей.

Доўга потым, кажуць, яшчэ адпуджвалі людзей, што мыслілі пасяліцца тут, гэтыя белыя слупы. Але прайшоў час, і на раней забароненым для жытла месцы ўзнік горад. Каб захаваць назаўсёды памяць аб дзіўных падзеях мінулага, яму далі імя — Стоўбцы, у гонар трох белых слупоў, пастаўленых трыма сапраўднымі праведнікамі.

## ПАНЕНКА

Даўно гэта было.

Жыў тады на зямлі нейкі пан. Ну, мабыць, і не зусім пан, а так, падпанак. Але фанабэрыстасці ў яго было на трох вялікіх паноў. Калі б яшчэ і багацце меў, зусім бы жыцця нікому ад яго не было. Ну, ды Бог мілаваў, багацця якраз і не даў. Але займець яго пану надта ж хацелася. Спрабаваў разводзіць авечак з густой бліскучай воўнай — паздыхалі яны ад нейкай хваробы. Сабраў было тавару гандляваць у чужых землях — напалі па дарозе рабаўнікі. Зусім сумны пан зрабіўся, не есць, не п'е, схуднеў, пачарнеў.

Тады і з'явілася яму ў сне паненка: сама бялявая, вочкі жвавыя, блакітнага колеру, косы доўгія, па зямлі цягнуцца, на галаве вянок з лілей, а вакол яго ўсё стракозы лётаюць, звіняць. Такую прыгажосць, мабыць, толькі ў сне і ўбачыць можна!

— Што ты невясёлы, што галаву павесіў? — пытае прыгажуня, а сама ўсміхаецца лагодна так. — Багацця хочаш — багацце атрымаеш. Вазьмі сабе ў жонкі працавітую дзяўчыну, з ёй усё мець будзеш.

— Ці ўжо не з табою мне ажаніцца трэба?

— А няхай бы і са мною. Хіба я не прыгожая? — смяецца паненка. — І па знатнасці табе нічым не ўступаю. Ты пан, я — таксама панскага роду, чым мы не пара адно аднаму? Заручыся са мною, і я дапамагу табе пабагацець. А пасля ўжо і вяселле згуляем.

Паплыло нейкае мроіва перад вачыма пана, ды і ўбачыў ён сябе побач з незнаёмай прыгажуняй. А вакол іх дзяўчаты з песнямі карагоды водзяць, музыкі граюць на скрыпачках. Абмяняліся яны пярсцёнкамі ды пацалункамі. Зусім закружылася панава галава. Чуе толькі голас сваёй нарачонай:

—Заўтра раніцай, як прачнешся, — нічому не здзіўляйся. Усё, што атрымаецца нам на дабро. І толькі памятай: не свабодны ты зараз, а жаніх. Трымай жа слова, што даў мне...

Саступіў сон перад яваю, калі пачуўся ранішні звон на бліжэйшай ад жытла панскага царкве. Расплюшчыў вочы пан ды адразу ж на руку сваю — зырк. Глядзіць, а там замест пярсцёнка, што ён заўсёды насіў, іншы з блакітным, як вочы невядомай красуні, каменем. Ускочыў пан з ложка ў здзіўленні вялікім. А на вуліцы гамоняць людзі, спрачаюцца, войкаюць. Аказваецца, за ноч нехта пабудаваў на рацэ, што цякла ледзь не пад вокнамі панскага дома, млынок, і працуе ён сам па сабе пад пяшчотнымі хвалямі рачнымі. І тут нешта быццам ударыла пана па галаве. Зразумеў ён, хто была яго начная нявеста, бо

ўспомніў, якое імя спакон веку насіла гэтая рачулка — Паненка. заручыўся ён, значыць, з самой рэчкаю!

Ну, ды нядоўга цягнуліся спалох і непаразуменне пана. Сэрца падказала яму, што знайшоўся, урэшце, для яго шлях разбагацець, бо не было паблізу іншага млына, і заўсёды людзі мясцовыя наракалі на долю за тое, што вельмі ўжо далёка прыходзіцца ім вазіць зерне на памол.

* * *

Прайшло тры гады. Разбагацеў пан, паважнеў, патаўсцеў, зрабіўся лянівы. Ён ужо амаль і забыў пра свае дзіўныя заручыны, бо не з'яўлялася з тых часін больш яго нявеста-рака, а толькі ціха і старанна працавала на яго, быццам і не Паненкаю зусім была, а сялянкай-парабчанкай.

Але вось аднойчы здарылася штосьці такое, што прымусіла нашага пана забыцца пра ўсю сваю ляноту і спакой. Запрасілі яго неяк суседнія паны ў свой маёнтак на імяніны, і там сярод гасцей ён убачыў прыгожую Тэафілю.

Ці сапраўды гэтая Тэафіля была такой ужо красуняй, пра тое мы не ведаем. Нехта кажа, што былі ў яе ўстаўныя зубы, іншыя бачылі пад пышным парыком рэдкія, куцыя валасы, а трэція гаварылі, што Тэафілі даўно пайшоў ужо трыццаты гадок. Аднак у яе быў вельмі багаты бацька, а да ўсяго сапраўдны шляхціц.

Адным словам, наш пан закахаўся. Панне Тэафілі таксама прыйшоўся даспадобы спрытны, вясёлы малады чалавек, і яна пасля нядоўгіх хістанняў аддала яму сваё сэрца.

Бацька Тэафілі быў задаволены: у зяця ёсць свая справа, вельмі прыбытная, багаты маёнтак, шмат грошай. З такім і парадніцца не сорамна. Навошта ж адкладаць вяселле?

Шлюб узяць вырашылі ў жаніховым маёнтку, ля таго самага млынка, з якога пан пабагацеў.

Вось падышла шчаслівая нявеста да самай ракі.

— Якая чысцюткая тут вада, — кажа, — якая хуткая плынь! Напэўна, цяжка прымусіць такую рэчку варочаць кола млына?

—Ды чаму ж цяжка? — смяецца жаніх. — Яна ў мяне пакорлівая, як служанка. Кожнаму жаданню павінуецца, багацце маё памнажае і нічога ўзамен не патрабуе.

Ніхто не заўважыў, як пры словах гэтых замарудзілася на хвіліну плынь рачная, прыпынілася кола вадзяного млынка...

Ноччу пасля заручын соладка спалася пану-жаніху. Бачыў ён у сне прыгожую Тэафілю, якая разам з ім лічыць залатыя чырвонцы і скла-

дае іх у вялікія мяшкі. А мяшкамі такімі ўжо да самага даху запоўнены млынок. Толькі раптам уздымаецца вецер, млын зносіць моцным парывам, і ўсе грошы з мяшкоў сыплюцца-падаюць у раку, якая прагна глытае іх. Дарэмна спрабуе пан выратаваць хоць бы частку багацця — падымаецца насустрач яму велізарная хваля, і ў ёй бачыць ён гордую постаць сваёй нявесты-ракі.

—Ты парушыў слова гонару, пан! — кажа яна. — Ты недастойны больш майго кахання, бяры ж назад свой пярсцёнак, ён непатрэбны мне. Бяры і помні: ніколі не была і не будзе Паненка пакорлівай служанкай, як ты аб тым марыў, здраднік.

—Аб якой здрадзе гаворыш ты, — спрабуе апраўдацца пан. — Ты — толькі рака, а я — жывы чалавек. Мне патрэбна жонка з людзей.

— Усяго месяц заставалася чакаць табе, пане, адклікаецца рака. — Мы сыгралі б наша вяселле, і душа ракі набыла б чалавечае цела. Ты быў бы шчаслівы і багаты. Але ты не вытрымаў выпрабавання вернасцю, мала таго, ты прынізіў, пры людзях абразіў мяне, Паненку. Дык лепш Паненцы знікнуць зусім, лепш водам у зямлю пайсці, чым дапамагаць нажываць багацце такому чалавеку, як ты!

Сказала ды і знікла. Прачнуўся пан увесь у халодным поце. Не апранаючыся, кінуўся на вуліцу. А там — дзіва дзіўнае: разваліўся млын у парахню, знікла з кладавой кудысьці ўсё багацце, а гордая Паненка прабіла сабе ля запруды новае рэчышча, абагнула сядзібу нявернага пана і панесла воды свае зусім у іншы бок.

Убачылі нечаканае разарэнне жаніха Тэафіля і яе бацька-шляхціц ды і разарвалі шлюбную дамову.

Адзін застаўся пан. Ды яшчэ бяднейшы, чым напачатку. З гора, кажуць, утапіцца надумаў, але вада заўсёды ўцякала ад яго, калі ён падыходзіў да калодзежа ці ў сажалку заглядаў.

* * *

Гэтае паданне і да гэтых часін расказваюць унукам і ўнучкам сваім сівыя бабулькі ў вёсках Петрыкаўскага раёна, што на Гомельшчыне.

## ВЯДЗЬМАРЧЫНА ПРАДКАЗАННЕ

Нішто не наводзіць такі сум, як зацяжныя дажджы. Калі густая сетка морасі і туману навісае над чалавечым паселішчам і ад вады нябеснай так макрэюць дарогі, што рухацца па іх зусім цяжка, у душы людскія пранікае тады незразумелая маркота, амаль на мяжы з адчаем. У гэты час адчувальней ціснуць на плечы гады, хутчэй чэпяцца хваробы, успамінаюцца ўсе памылкі, якія зрабіў у жыцці. Беспрасветна-шэрым бачыцца неба, бясконцымі ночы. І нават лес-карміцель і адзіны заступнік слабога чалавека ў час варожых нашэсцяў здаецца злым і непрыветным.

...Яна прабіралася праз буралом, разводзячы ў бакі мокрыя галіны і з цяжкасцю выцягваючы ногі з вязкага бруду. І, здавалася ёй, з-пад кожнага куста прагным вокам сочыць за ёй звер, за кожным дрэвам тоіцца злосны вораг — татарын-душагуб. Яна нават ужо не магла падбадзёрваць сябе песняй, як рабіла гэта заўсёды, калі ноччу прыходзілася ў адзіноце выходзіць з хаты. Ды і хіба магла зараз чымсьці дапамагчы песня ёй, маленькай жанчыне, шлях якой ляжаў праз змрочны начны лес, асенні дождж да злавеснага жытла вядзьмаркі? Колькі разоў яна ўжо спынялася з думкай вярнуцца, пакуль яшчэ не позна. Але ўспамін аб тым, што прымусіла яе рашыцца на гэта, падштурхоўваў ісці далей.

Вядзьмарка жыла ў самай гушчыні лесу. Яе хату маленькая жанчына пазнала адразу, хоць раней ніколі не бачыла. Амаль урослая ў зямлю, паўразбураная, з трухлявымі дзвярыма, толькі яна і магла быць жытлом язычніцы Нямілы.

Маленькая жанчына спынілася і, абедзвюма рукамі прыціснуўшы грудзі, дзе сэрца, здавалася, гатова выскачыць ад страху і хвалявання, увайшла ўсярэдзіну. І ў гэты момант пачуўся страшэнны ляскат грому, і цемру над лесам прарэзала маланка.

— Урэшце я дачакалася цябе, Луня, — данёсся да маленькай жанчыны рыпучы глухі голас з цемры. І вочы госці ўбачылі сухую постаць вядзьмаркі ў самым кутку на лаўцы. Пасмы сівых брудных валасоў падалі ёй на шчокі і плечы, закрывалі твар.

—Я ведала, што ты прыйдзеш, Луня.

— Навошта ты назвала мяне такой брыдкай мянушкай, старая? — асмялеўшы, спыталася маленькая жанчына. — У мяне ёсць імя.

У адказ пачуўся смех, падобны на карканне вароны:

— Старая, кажаш? А ты зірні на сябе ў люстра вады азёрнай. Хіба ў цябе не сівыя косы, не маршчыністы твар, не згорбленая спіна? Ты не нашмат маладзей мяне, Луня. А наконт мянушкі, дык не я яе

прыдумала. Я толькі паўтараю тое, што кажуць пра цябе людзі. Бо, як сава-луня, ты выходзіш з хаты сваёй на начны промысел і крадзеш у суседзяў рэшткі ежы пасля вячэры. Даўно ўжо ніхто ў тваім паселішчы не называе твайго сапраўднага імя.

—Адкуль ведаеш ты гэта пра мяне? — дрыжачым голасам шэпча маленькая жанчына.

—Я ведаю і не толькі гэта, — смяецца вядзьмарка. — Усё жыццё тваё, Луня, вядома мне. Вось слухай. Калі было табе дваццаць гадоў, стала ты ўдавою, бо загінуў ад стралы татарскай твой муж. Яшчэ праз дваццаць гадоў татарамі ж быў забраны ў палон твой малады сын. Не вытрымала разлукі з ім, памерла прыгажуня нявестка. І засталася ты адна з маленькім унукам, якога корміш зараз крадзенымі ў суседзяў аб'едкамі, бо сама ўжо занадта слабая, каб працаю здабываць хлеб. Ці няпраўду я гавару, Луня?

— Праўду, — з уздыхам кажа маленькая жанчына. — Так, праўду. Мне казалі, ты бачыш усё, што было з чалавекам, і адчуваеш усё, што прызначана яму лёсам. І вось я...

— І вось ты — у мяне, — перабівае вядзьмарка, — каб даведацца, ці не смяротная тая хвароба, якая сушыць зараз твайго ўнука. Так, Луня?

—Так, — ківае тая.

— Чым жа ты заплоціш мне за гэта? Ты павінна ведаць: я ніколі нічога не раблю дарма. Можа, ты вырашыла даць мне долю сваёй крадзенай вячэры? — вядзьмарка зноў засмяялася.

І ледзь чутна зашаптала маленькая жанчына:

— Гэта праўда, у мяне нічога няма. Але я ішла зараз да цябе праз дождж і жах, спадзеючыся на тваю дабрыню, на тваю міласць да адзінокай жанчыны. Зразумей, унук мой — апошняе, што ў мяне засталося. І вось ён памірае. Няўжо ты адмовіш мне нават у дробязі — уведаць праўду? Ты проста павінна...

—Я нікому з вас, хрышчаных, нічога не павінна, — рэзка перарывае яе вядзьмарка. — Ты просіш мяне быць добрай да твайго гора, але ці быў хто добрым, калі мяне цкавалі, як лісіцу, гналі ад кожнай хаты, і ўсё толькі таму, што я засталася вернай Перуну? Вы думалі, старая Няміла хутка сканае ўдалечыні ад людской ласкі, але, бачыш, я ўсё жыву, і мне зусім непатрэбны ніхто з вас. Наадварот, вы самі ідзяце да мяне, язычніцы, калі даводзіцца цяжка. Што ж не дапамагае табе твой бог, Луня?

— Людзі кажуць, Хрыстос выпрабоўвае нашу веру, — адказвае маленькая жанчына. — Але, мабыць, ты кажаш праўду, калі адмовілася здрадзіць богу бацькоў нашых. Пярун быў дабрэйшы. — І раптам

нейкая думка асвятліла яе твар: — Паслухай, з усяго дабра я захавала толькі маленькі нацельны крыжык. Але вера мая ў Хрыста пахіснулася. Ці не возьмеш яго за сваё прадказанне?

Заблішчэлі вочы вядзьмаркі:

—Гэта тыя словы, якія я чакала ад цябе, Луня. Не думай, мне непатрэбны твой крыж. Але я прынясу яго ў ахвяру Перуну, і ён, зміласцівіўшыся над табою, мабыць, не толькі раскрые табе ўнукаў лёс, але і дапаможа ў бядзе.

Амаль раніцай стомленая, маленькая жанчына вярталася дамоў. Прадказанне, зробленае старой вядзьмаркай, было такім няясным, што яна нават не ведала, радавацца ёй ці сумаваць. Адно зразумела яна, Пярун быў разгневаны на яе за тое, што яна ахрысцілася, але цяпер ён даруе ёй віну і аказвае нейкую вялікую міласць. Вядзьмарка сказала:

—Унук твой памрэ, як кожны з нас, але імя яго застанецца жыць. У яго ніколі не будзе сям'і, але многія нашчадкі яго заселяць не толькі гэтыя мясціны, але і ўсе навакольныя землі. Ён скончыць жыццё ў беднасці, але праз шмат гадоў кожны будзе ведаць яго як вялікага багацея. З-за яго ты зведаеш шмат гора, але і цябе ён праславіць.

У непаразуменні вярнулася маленькая жанчына дадому і даведалася, што ўнук яе памёр.

— Схлусіла злая вядзьмарка! — у роспачы ламала рукі няшчасная. — Пасмяялася старая над маёй бядою. Пра жыццё, багацце, нашчадкаў нагаварыла, а мой маленькі хлопчык ужо вось памёр. І як жа застанецца жыць імя яго, калі не было яшчэ імені ў малюткі? Я ж па беднасці сваёй нават ахрысціць яго не змагла! Схлусіла мне злая вядзьмарка!

Але рана абвінавачвала маленькая жанчына ў мане старую язычніцу. Тое месца, дзе пахавалі Луніны аднавяскоўцы яе безыменнага ўнука, сталі называць магілай Лунінца. Ішлі гады, магіла зраўнялася з зямлею, і мясціна гэтая атрымала імя Лунінец. А калі вакол яго вырас горад, то назва перайшла на яго. Так збылося першае прадказанне гаспадыні лясной хаткі.

Лунінецкія людзі, працавітыя і гордыя, рассяліліся па ўсім краі. Так збылося другое прадказанне язычніцы.

З часам горад Лунінец пачаў гандляваць з іншымі, вялікімі і мальмі, гарадамі, разбагацеў так, што слава аб яго прыгажосці пайшла па ўсёй зямлі. Так збылося трэцяе прадказанне старой Нямілы.

Прайшлі стагоддзі, але і да гэтых часоў людзі памятаюць і расказваюць дзецям сваім паданне аб маленькай жанчыне Луні і яе ўнуку. Так збылося чацвёртае вядзьмарчына прадказанне.

# ЛЕГЕНДА АБ НЕДАБУДАВАНЫМ КАСЦЁЛЕ

Амаль на ўскраіне Пружан стаіць маленькі акуратны дамок. Гавораць, якраз тут і жыла Барбара. Старая памерла ўжо, і новыя гаспадары паспяшаліся высекчы старыя яблыні, якія яна так пяшчотна даглядала. Знікла кудысьці і ўсё хатняе начынне, што заставалася ад яе. Ды, мабыць, з часам ніхто б і не ўспамінаў больш сівенькую гасцінную гаспадыню, каб не было жыццё яе звязана з таямнічай гісторыяй аб недабудаваным касцёле. Вось яна.

Барбара не памятала сваіх бацькоў: яны памерлі яшчэ маладымі. Дзяўчынку ўзяў на выхаванне стары садоўнік графа Швыкоўскага. Так яна апынулася ў пружанскім графавым маёнтку.

Вялікім дзіваком быў гэты самы Швыкоўскі. Па вечарах, збіраючыся на кухні ў тоўстай паварыхі Тэрэзы, слугі са смехам расказвалі бясконцыя смешныя гісторыі, галоўным героем якіх быў сам пан. Тэрэза, якая лічылася эканомкай, услых падлічвала, колькі грошай выкінуў "стары дурань", каб зрабіць вакол свайго жытла шыкоўны парк. Лёкай Яўхім, крывячы твар, паказваў, як пан іграе на скрыпцы. Хтосьці замагільным голасам нашэптваў, што бачыў гаспадара маёнтка ў поўнач на перакрыжаванні трох дарог, адна з якіх вяла на могілкі. Там ён кагосьці быццам чакаў. Жанчыны спалохана ўскрыквалі: "Матка Боска, не можа быць, каб Швыкоўскі знаўся з д'ябламі!"

Мабыць, менавіта з-за гэтых вячэрніх гутарак у Барбары з'явілася вялікая цікаўнасць да гаспадара. Усё часцей стала яна, прыбіраючы графавы пакоі, затрымлівацца ў бібліятэцы і разглядаць тоўстыя фаліянты на паліцах. Барбара ведала трохі польскую мову. Але кнігі былі не толькі польскія. Потым ад самога пана Швыкрўскага даведалася яна, што сярод іх былі і стараславянскія, і рускія, і лацінскія, і грэчаскія, і французскія, і нават старажытна-яўрэйскія. Пан выпісваў шмат чаго па пошце і вечарамі, калі звычайна пачынаўся гоман і смех у Тэрэзы, пачынаў чытаць. Калі Барбара бачыла яго за гэтым заняткам, яна замірала каля дзвярэй і доўга стаяла так, імкнучыся зразумець па гаспадаровым твары, пра што тая кніга, над якой ён схіліўся. Аднойчы, рэзка кінуўшы чытанне, Швыкоўскі пачаў хутка малясаць нешта на вялікім аркушы паперы. І Барбара не вытрымала, падышла бліжэй. Быццам бы загадзя ведаючы, што так адбудзецца, граф пачаў услых, як мага больш зразумела, тлумачыць Барбары свой занятак:

— Ці бачыш, мілая, я збіраюся пабудаваць касцёл. А гэта праект. Касцёл павінен быць прасторны і прыгожы, з разнымі шпілямі і ляпнінай, з велізарным высакароднага гучання арганам. Я ўжо ве-

даю, дзе можна дастаць цудоўную выяву Маткі Боскай. Гэта даволі старая скульптура. У яе вялікія самотныя вочы, як у маці, што сумуе аб лёсе сваіх няшчасных дзяцей. Хай плача дзева Марыя аб нашай долі, бо горкая яна...

І графавы вочы раптам сталі суровыя і халодныя. У той вечар Барбара нічога больш не пачула ад гаспадара. Маўчаў ён і потым, але Барбара ведала ўжо: думка пра касцёл не пакідае пана ні ўдзень, ні ўначы. Ён разарваў некалькі аркушаў са сваім планам, пакуль, урэшце, не зрабіў той, што спадабаўся яму. Потым пачаліся ліхаманкавыя пошукі месца для пабудовы, затым да графскай сядзібы пачалі з'язджацца майстры-будаўнікі. Швыкоўскі цяпер з'яўляўся позна, нават не павячэраўшы, кідаўся на ложак і засынаў.

Праходзячы непадалёку ад будоўлі, Барбара спынялася, каб паглядзець, што адбываецца. А адбывалася ж дзіва. Падымаліся ад зямлі стройныя, беласнежныя сцены, цягнуліся рукамі да неба, быццам крылы анёлаў, строгім і мужным хоралам гучала песня камення. Мясцовы ксёндз з замілаваннем назіраў за нараджэннем "дома пана Езуса". Ён бачыў ужо сябе ў цэнтры ўзнёслага велічнага храма, чуў голас свой, якім чытаў пропаведзь і які зліваўся з магутным голасам аргана.

— Пан Швыкоўскі робіць вялікую справу, — часта гаварыў ксёндз, ліслівa зазіраючы ў графавы вочы. Пан Швыкоўскі сапраўдны сын каталіцкай веры...

Граф моршчыўся. Ён не вельмі шанаваў лянівага і няшчырага ксяндза і зусім не дзеля яго ўдзячнасці ўзводзіў зараз касцёл.

Аб сапраўднай прычыне даведалася Барбара з, доўгіх начных размоў, якія граф вёў з нейкімі дзіўнымі, чужымі людзьмі.

Гэта пачалося амаль адразу ж пасля таго, як быў закладзены падмурак. Ноччу ў браму пастукаўся чалавек у чорным, падобным на крылы, плашчы і пад такім жа чорным капелюшом з шырокімі палямі. Барбара правяла яго да гаспадара і, будучы, як і ўсе маладыя жанчыны, вельмі цікаўнай, крыху затрымалася ля дзвярэй. Яна чула здзіўлены голас гаспадара, ціхія, ледзь чутныя словы госця.

Яны прагаварылі амаль усю ноч. Раніцай госць знік таксама, як і з'явіўся. У той дзень граф ужо не хадзіў на будоўлю, ён прасядзеў у сябе, робячы разлікі ў кнізе фінансавых расходаў. Праз два тыдні госць з'явіўся зноў. На гэты раз — не адзін. З ім быў малады хлопец з вялікімі выразнымі шэрымі вачыма. Правая рука ў хлопца перацягнута белым палатном і бездапаможна вісела на поясе, перакінутым праз шыю. Зараз Барбара пачула ўсю размову з пачатку да канца.

—Вы смелыя людзі, — гаварыў гаспадар. На вашым месцы я не рызыкнуў бы з'яўляцца тут.

—У нас не было выбару, — адказаў чалавек у чорным, — за нашым братам сочаць. А ў Ружанскай пушчы яму пакуль не месца. Тыдзень-два, не больш, ён будзе ў вас. Добрая ежа і медыцынская помач — вось усё, што яму патрэбна.

—У мяне няма чалавека, якому б я мог даручыць яго жыццё, — памарудзіўшы, прамовіў Швыкоўскі.

—Вы хочаце сказаць, што мы памыліліся, выбраўшы менавіта вас? — спытаў госць.

Доўгае маўчанне перарваў высокі юначы голас:

— Кастусь перадае вам словы падзякі, пан Швыкоўскі. Ён папрасіў мяне сказаць вам, што зброя, набытая за вашыя грошы, ужо страляе па ворагу.

Граф ад нечаканасці скінуў на падлогу мармуровую чарніліцу, якую да гэтага нервова матузіў па стале.

—Ён сам сказаў так? Ён ведае пра мяне?

— На жаль, не так ужо многа ў нас сяброў, каб не ведаць іх прозвішчы.

Барбара ўжо здагадалася, што за госці з'явіліся ў яе пана. Разбойнікі самага лютага з "лясных галаварэзаў" — Каліноўскага! Яна неаднаразова чула пра тое, як гэтыя людзі спынялі абозы купцоў на лясной дарозе, налятаді на мястэчкі, дзе распраўляліся з чыноўнікамі, салдатамі, жандарамі і заклікалі простых сялян ісці ў лясы, далучацца да іх хеўры. Толькі Барбара ўяўляла іх падобнымі на казачных ліхадзееў: з густымі барадамі, у лахманах, з нажамі і пісталетамі за поясам. Гэты ж прыгожы юнак быў зусім не падобны на бандыта.

Пакуль Барбара раздумвала, дзверы шырока расчыніліся, усе тры субяседнікі выйшлі. І тут граф заўважыў яе. Барбара нават не спрабавала ўцячы.

— Ты падслухоўвала? — спытаў Швыкоўскі.

Яна моўчкі кіўнула. Цямней за хмару стаў твар у графа, і невядома, што б сказаў ён. Але паранены юнак паспеў раней:

—Ці можаш ты захаваць таямніцу? Я — твая таямніца, прыгажуня.

І не змагла адмовіць Барбара шчырай усмешцы яго шэрых вачэй.

Штодзень насіла ежу маладому паўстанцу Барбара. Рука яго хутка загойвалася, і ўсё часцей ён бываў у гумары, усё часцей размаўляў з дзяўчынай пра чыстае і светлае пачуццё сваё, якое з'явілася амаль адразу, як убачыў яе. Барбара была шчаслівая. Цяпер ёй часта прыходзілася быць пры размовах графа з шэравокім хлопцам. І ўсё больш і больш пранікала яна ў таямніцу касцёла.

—Усю моц і прыгажосць духу чалавечага, усё імкненне наша да волі, незалежнасці, увесь агонь сэрца нашага хачу я ўславіць у камені. Касцёл будзе гімнам нашаму народу, які змагаецца зараз супраць прыгнёту чужынцаў, супраць іх веры, — гаварыў ён.

—Для многіх беларусаў родная вера — праваслаўе, — задуменна адказаў аднойчы юнак.

—Пасля таго, як папы сталі ў цэрквах заклікаць да пакорнасці тым, хто робіць замах на нашу волю і жыццё, да прыняцця чужых звычаяў, мовы, культуры, я думаю, беларус не можа лічыць толькі праваслаўе за сваю веру. Магчыма, я памыляюся ў гэтым, але хто ў наш час можа быць упэўнены ў сабе?

Граф свята верыў у перамогу паўстання.

—Тады, — гаварыў ён, касцёл мой стане трыумфальнай аркай для пераможцаў. І першым, каго мы абвянчаем у ім, будзеш ты, — ён паказаў на свайго госця, альбо Барбара. А можа, адразу абое?

І ён усміхаўся, таямніча падміргваючы счырванелай парачцы.

— А калі мы прайграем? — спытаў аднойчы юнак.

—Гэта немагчыма... Тады касцёл будзе рэквіемам па нашай справе. І не будзе ў свеце больш гаротнай мясціны...

Час ішоў. Шэравокаму паўстанцу трэба было вяртацца да сяброў. На развітанне ён пяшчотна пацалаваў Барбару. І быў гэта першы ў яе жыцці пацалунак, падораны ёй мужчынам. Калі б можна было ведаць, што будзе ён і апошнім...

Праз некалькі тыдняў сярод ночы нечакана з'явіліся ў доме Швыкоўскага паўстанцы. Сярод іх быў ужо вядомы Барбары чалавек у чорным плашчы.

—Збірайцеся, пане Швыкоўскі, — сказаў ён. — Вам належыць пакінуць гэтыя мясціны. Мы разбіты. Многіх схапілі маскалі. І сярод іх ёсць здраднік. Заўтра па вас прыйдуць.

Граф моўчкі апрануўся, кінуў у камін некалькі пісьмаў і дакументаў і клікнуў Барбару:

—Я ад'язджаю, не ведаю, ці вярнуся. Але аб гэтым не трэба нікому гаварыць. Ты хочаш спытаць штосьці?

—Так, — адказала яна ледзь чутна. — А што з тым маладым панам, які жыў у нас?

—Ён застаўся ў Ружанскай пушчы, — ціха адказаў граф.

—Ён вернецца?

—Не, бедная мая дзяўчынка. І ніколі не пашлюбуюць вас у нашым касцёле, бо пашлюбаваны ўжо ён з куляй... Даруй яму, мілая, даруй нам...

Граф ужо больш не вярнуўся да сваёй сядзібы. Лёс яго да гэтых часоў — тайна.

Маладая графіня, што з'явілася пасля Швыкоўскага, дазволіла ксяндзу рабіць з недабудаваным касцёлам, што ён захоча. Даць грошы, каб дабудаваць касцёл, яна адмовілася. Хітры ж ксёндз палічыў больш выгадным прадаць амаль гатовы будынак праваслаўнай абшчыне, а на атрыманыя грошы паставіць маленькі, няўтульны "дом пана Езуса".

Але нядоўга служыў касцёл Швыкоўскага іншай веры. Раптоўна ўспыхнуў пажар і знішчыў яго. Прычыну пажару не ўдалося ўстанавіць.

Барбара сцвярджала, што ў час пажару бачыла сярод натоўпу кагосьці ў чорным плашчы. Але ці варта так ужо давяраць ёй?

## ЧАРАЎНІЦА-ПРЫГАЖУНЯ

Спытайце ў сонца, хто самы ўладны ў гэтым краі, і яно адкажа: "Князь Рацібор, сын мудрай Барыславы". Спытайце ў ветру, хто самы дужы з людзей тутэйшых, і ён адкажа: "Князь Рацібор, сын старой Барыславы". Спытайце ў горнага арла, хто самы смелы на зямлі гэтай, і ён адкажа: "Князь Рацібор, сын гордай Барыславы..."

Так славілі ляхавіцкага князя па ўсім краі людзі, удзячныя яму за тое, што ён, урэшце, перамог, разбіў у вялікай бітве злых ворагаў-качэўнікаў, якія, паверыўшы ў неперапаможнасць сваю, спакон веку рабавалі і палілі землі гэтыя.

Весела святкавалі сваю перамогу воіны. У грыдніцы князя Рацібора наісрылі доўгія дубовыя сталы. Дзесяткі слуг уносілі бесперапынку ў залу для піравання новыя стравы. Яшчэ дзесятак разлівалі віно па чарах. Стаяў гаум, звон, смех, гоман.

Адкінуўшыся на высокую спінку разнога драўлянага крэсла, стомленым вокам азіраў сваіх гасцей князь Рацібор. Побач з ім, роўная і высокая, нібы сасна, сядзела старая княгіня Барыслава, адзіная жанчына, якой дазвалялася прысутнічаць на вясёлых княжацкіх забавах.

— Сын мой, Рацібор, чаму я не бачу на вуснах тваіх усмешку? — спыталася яна. — Хіба не тваю перамогу адзначаем мы зараз так пышна?

—Усё так, княгіня. Але нельга князю весяліцца, пакуль хаця б адзін з яго падданых сумуе.

—Хто ж тут сумуе, сыне?

— Мой добры канюшы Бяляй. Ці пір наш яму не даспадобы, ці ў сэрцы яго пасяліўся неспакой.

—Дык спытай яго аб гэтым, уведаўшы ўсё, развесяліся ўрэшце.

Кліча князь да сябе канюшага ды і пытаецца ў яго:

— Ці не злая думка пра мяне, гаспадара твайго, точыць цябе так, што не ясі ты і не п'еш за сталом маім?

— Няма супраць цябе, княжа, у Бяляя ніякай злой думкі, — адказвае канюшы. — Але страціў я пакой, бо пачуў серабрысты смех чараўніцы-прыгажуні, якая жыве ў лесе ля блакітнай ракі.

Здзівіўся князь, але нічога не сказаў, адпусціў канюшага.

—Сын мой, — зноў пытаецца княгіня-маці, — хіба не супакоіў цябе адказ любімага слугі твайго? Не злосць супраць цябе, але каханне віной яго настрою. Развесяліся ж, я хачу ўбачыць тваю ўсмешку.

— Аб якой весялосці кажаш ты, маці! Зірні, яшчэ два маіх воі сумуюць: лоўчы Воўк ды сотнік Дабрыта, — кажа Рацібор.

І вось клічуць ужо да князя гэтых дваіх, і, без адзінай усмешкі, адказваюць яны на суровыя пытанні.

—Аднойчы, у час палявання, я пачуў у лесе песню чараўніцы-прыгажуні, і спакой адляцеў ад мяне, расказвае Воўк.

—Табе, дружа, лягчэй, а вось я дык бачыў яе, неверагодную красуню, — кажа Дабрыта. — А хіба можна пасля гэтага думаць пра нешта іншае?

Адпусціў лоўчага ды сотніка князь Рацібор ды і прызадумаўся: "Чаму я ніколі раней не чуў пра чараўніцу-прыгажуню? Хто яна? Адкуль з'явілася? Навошта на людзей маркоту наводзіць? І ці сапраўды прыгажосць яе такая, што кожны страчвае розум?"

І загарэлася ў ім нясцерпнае жаданне самому сустрэцца з таямнічай красуняй. Устаў ён з-за стала:

— Зараз жа еду да яе!

І захваляваласся старая Барыслава:

—Не трэба, сыне! Навошта рызыкаваць? А раптам гэта — злая вядзьмарка, і навядзе яна на цябе немач? Што будзем мы ўсе рабіць без свайго князя?

Але непахісным было рашэнне Рацібора.

Узяўшы ў праваднікі Бяляя, Ваўка і Дабрыту, князь смела накіраваўся ў лес. Яны доўга блукалі па гушчары, пакуль, амаль перад заходам сонца, не выйшлі да блакітнай ракі, якая перарэзала змрочны лес амаль напалову.

Вакол ракі зусім мала дрэў, ды і тыя — танюткія, маладзенькія. І таму выехаўшым з гушчару коннікам здавалася, быццам само сонца спусцілася сюды, каб ахінуць свае косы-промні ў рачныя хвалі. Ля ракі знайшлі яны маленькую хатку — жытло чараўніцы-прыгажуні. Але яе самой нідзе не было. І князь Рацібор вырашыў чакаць яе тут. Спадарожнікам жа сваім ён наказаў вяртацца і супакоіць княгінюмаці. Неахвотна і хмура павярнулі коней сваіх назад Бяляй, Воўк ды Дабрыта. А князь пад ласкавы смех вады, пад ціхі шэпт лістоты непрыкметна для сябе заснуў.

Калі ж адплюшчыў ён вочы, перад ім стаяла, схіліўшыся, краса неверагодная, бярозка стройная, крынічка гаючая, чараўніца-прыгажуня. Ён адразу зразумеў: гэта яна, бо прыгажосць яе была такой, што нават вочы не верылі таму.

І сустрэўся блакіт вачэй Рацібаравых з чарнатою вялікіх вачэй чараўніцы, быццам неба дзённае і начное.

І зразумеў князь, што гэта — лёс яго, што гэта — яго адзінае каханне. Моўчкі працягнуў ён руку красуні, і таксама моўчкі яна паклала на яе сваю.

Доўга сядзелі яны так, адно побач з адным. Толькі калі ўжо зусім сцямнела, князь змог, урэшце, зварухнуць вуснамі, каб спытацца пра імя дзяўчыны.

—Чарнава, усміхнулася яна.

—Ці не таму цябе так назвалі, што ты — дачка злога бога Чарнабога, які калісьці пакляўся перад Перуном загубіць род чалавечы?

—Зусім не, адказала прыгажуня. Але паглядзі, якога колеру ў мяне вочы і валасы, і дзяўчына абедзвюма рукамі ўзняла над галавой тоўстую чорную касу, такую доўгую, што яна, калі чараўніца ішла праз лес, заўсёды цалавалася з зямлёю і травой.

—Я чакала цябе, князь, вымавіла прыгажуня, ласкава гледзячы на Рацібора. — Колькі разоў, седзячы каля вады, я паўтарала: прыйдзі да мяне. І вось ты тут. Дзякуй табе, княжа, што пачуў мой клік. Але пойдзем у хату. Ужо цёмна і становіцца холадна. Я пачастую цябе мёдам, які падаравалі мне лясныя пчолы, грыбамі і ягадамі. Я хачу, каб табе спадабалася ў мяне.

Усю ноч прагаварылі Рацібор і Чарнава, і дзяўчына, урэшце, адкрыла яму таямніцу сваёй незвычайнай сілы над людзьмі:

— Не, княжа, я не вядзьмарка. Але валодаю вялікім дарам багоў. Ён і на радасць мне, бо дапамог сустрэцца з табою, і на гора, бо вакол мяне зараз адны закаханыя, а я не магу гэтым жа адказаць ім усім.

А пачалося ўсё ў сцюдзёную зімовую ноч, у якую без вясёлага агню, песень ды скокаў — не сагрэцца. У тую ноч, калі кожны з нас славіць і ўхваляе жонку Перунову, верную Каляду, якая сыходзіць штогод у адзін і той жа час на зямлю, каб тут, сярод людзей, нарадзіць вялікага Дажджбога.

У беднай хатцы бацькі майго таксама чакалі прыходу Каляды і таксама ведалі, што калі людзям не ўдасца ў гэтую ноч абараніць пяшчотную жонку Перунову ад гневу бога зімы, сівога Зюзі, адпудзіць агнём ды весялосцю яго ваўкоў-завірух, не народзіцца Дажджбог, не прыйдзе ў наш край сонца і вясна.

Але з голаду не цягне на песні ды скокі. Сям'я ж наша ў тую зіму вельмі галадала, і таму ўсе мы сядзелі ціхенька ў хаце сваёй, прыціснуўшыся адно да аднаго, і слухалі вой завеі за акном.

Раптам хтосьці пастукаў у нашы дзверы, і ледзь чутны слабы голас папрасіў адчыніць і даць прыстанішча няшчаснай вандроўніцы. Гэта аказалася бледная, бедна апранутая жанчына-жабрачка. Яна ледзь трымалася на нагах ад холаду і стомы. Бацька пасадзіў яе ля агню, і мы яшчэ доўга адчувалі, як калоціцца яна, ніяк не можа сагрэцца.

І, сапраўды, з той хвіліны, як жанчына ўвайшла ў наш дом, завіруха разгулялася яшчэ больш. Здавалася, моцны марозны вецер

хутка сарве дах нашай хаты, зломіць дзверы, і ўсе мы ператворымся ў вялікія ледзяшы. Цяпер у завыванні мяцеліцы нам чулася не жаласная скарга, але пагроза.

Са страхам глядзелі мы адно на аднаго, і тады бацька наказаў мне як самай старэйшай пець. І я запела сваю любімую песню пра сонца і лета, пра купальскіх багоў і папараць-кветку, і, здаецца, за акном сцішэла. Я пела ўсё больш гучна і весела, і, здавалася, быццам ад песень гэтых станавілася кожнаму цяплей.

І, што самае дзіўнае, госця наша пад гукі іх пачала з бруднай жабрачкі ператварацца ў прыгожую княгіню. Толькі тады мы зразумелі, што гэта сама Каляда, і яна прыйшла менавіта да нас. Ашаломленыя, мы не спускалі вачэй з багіні, а яна, усміхаючыся, дзякавала нам за тое, што мы выратавалі яе ад злога Зюзі і яго памагатых.

Да людзей прыйдзе Сонца-Дажджбог, а разам з ім вясна і лета, сказала яна. — Вы павінны быць за гэта ўзнагароджаны. І я ўжо ведаю, чым аддзякаваць гэтую хату. Няхай у ёй вырасце прыгажосць незвычайная, краса немагчымая, лябёдка белая, рамонак духмяны, і яна паказала на мяне. І няхай заўсёды цягнуцца да яе людзі так, як цягнецца ўсё жывое да цяпла і сонца.

Цяпер зразумеў ты, князь мой, чаму дар гэты для мяне — і радасць, і гора...

* * *

Забыў пра ўсё на свеце, страціў развагу князь Рацібор з тых часін, як сустрэўся з чараўніцай-прыгажуняй. Глядзеў ён на вояў сваіх з суровымі, мужнымі, пасечанымі ў бойках тварамі, а бачыў пяшчотнае Чарнавіна аблічча, слухаў звон зброі ды конскае ржанне, а чуў ціхі ласкавы голас красуні з начнымі вачыма. Удыхаў пах дыму і жалеза, і здаваўся ён яму духмяным водарам цела і валасоў каханай. Усё часцей, кідаючы дружыну сваю, знікаў Рацібор у лесе, а вяртаўся адтуль ціхі і лагодны, быццам гасціў на балі ў вялікіх багоў.

І страшна стала мудрай Барыславе, бо зразумела яна, што, калі захоча, стане чараўніца-прыгажуня гаспадыняй над сынам яе, і скончыцца тады час улады Барыславінай. Вось кліча старая княгіня да сябе канюшага Бяляя, лоўчага Ваўка ды сотніка Дабрыту. Ласкавую гаворку з імі заводзіць, він ом поіць, пра Рацібора з чараўніцай расказвае: "Хутка жонкаю сваёй лясную прыгажуню назаве князь Рацібор. Адбярэ ён у вас ваша каханне".

Пільна сочыць Барыслава за тым, як павольна бляднее твар у Бяляя, чырванее ў Ваўка, цямнее у Дабрыты. І разумее яна, што ў сэрцах іх ужо няма адданасці гаспадару свайму, там толькі крыўда,

зайздрасць ды злосць, і, значыць, могуць яны здзейсніць тое, чаго хочацца ёй...

Цёмнай ноччу тры маўклівыя коннікі пад'ехалі да хаты чараўніцы-прыгажуні. Яны ўвайшлі ўсярэдзіну з пустымі рукамі, выйшлі ж з цяжкай ношай у мяшку. Толькі хвалі блакітнай ракі ды поўня былі сведкамі чорнай справы іх...

Сярод ночы ўскочыў з ложка князь Рацібор. У цішыні, здалося яму, паклікаў яго самотны голас каханай. І скочыў у сядло Рацібор у хваляванні вялікім і адчуванні надыходзячай бяды.

Выбегла са святліцы сваёй княгіня Барыслава ды і ўпала, забілася ля стрэмені сына, просячы яго спыніцца. Але сцебануў каня князь, і той панёс яго да знаёмай лясной хаткі...

Ён адразу ўсё зразумеў, калі ўбачыў на падлозе змятую хусцінку ды разарваныя рабінавыя каралі. Ногі самі прывялі яго да ракі. І схіліўся князь над хуткай плынню, і бязгучна затрэсліся яго плечы. І тады, здалося яму, зашаптала яму штосьці голасам Чарнавы ласкава і пяшчотна рачная вада.

Але тут на паляне з'явіліся дружыннікі, якія кінуліся ўслед свайму князю. І выехала наперад на сваім кані старая Барыслава.

— Сыне, апамятайся! — крыкнула яна, але было ўжо позна.

Ён зрабіў толькі адзін крок наперад. І ніхто не пачуў усплёску. Быццам каханага ў абдымкі, узяла яго рака.

І ў нейкім незразумелым страху адступілі ад вады воіны, што кінуліся ратаваць князя Рацібора.

У цішыні пад зорным небам былі чутны толькі дзіўны, незвычайны шэпт вады ды галашэнне Барыславы:

"Навошта, сыне! О, гэтая ведзьма!"

* * *

Нясе свае воды праз горад Ляхавічы блакітная рака. З даўніх часін называюць яе Ведзьмай. Кажуць, калі доўга стаяць ля вады і добра прыслухоўвацца, можна пачуць праз шум хваляў ціхі пяшчотны шэпт двух галасоў, жаночага і мужчынскага.

І яшчэ кажуць, тых, хто пачуе гэты шэпт, куды б іх ні занесла жыццё, заўсёды будзе цягнуць сюды, на радзіму, да блакітнай ракі Ведзьмы, гэтаксама, як усё жывое на зямлі цягне да сонца і цяпла.

## ВІЦЯЗЕВА МАГІЛА

А яшчэ ён быў у Візантыі і, закінуўшы ўгору галаву, доўга з захапленнем пазіраў, як зіхацяць на фоне высокага неба, быццам велізарныя зоркі, залатыя крыжы цэркваў. І там ён чуў скаргі на жорсткасць суровых варажскіх воінаў.

А таксама вандраваў ён па франкскіх землях, і франкскі рыцар, яго спадарожнік, расказаў яму, як аднойчы трапіў у палон да варагаў, у якіх дзікія звычаі і незразумелая вера.

А калі давялося яму быць у Кіеве і ён сам упершыню ў жыцці ўбачыў дружыннікаў-варагаў, запрошаных князем Уладзімірам да сябе на службу, ён зразумеў: гэта сур'ёзная небяспека.

І ён паспяшаўся ў родныя мясціны, каб перасцерагчы свайго князя, які даўно ўжо знаходзіўся з кіеўскім Уладзімірам у варожасці. Але яму не паверылі, узнялі на смех, бо не чутна было, каб Уладзімір збіраўся ў паход у гэтыя землі.

— А я кажу вам, што прыйдуць сюды варагі і шмат крыві тады пральецца. І загінуць многія воіны нашы, бо цяжка змагацца з лёгкаю зброяй ды тонкай кальчугай супраць жалеза варажскага, у якое закаваны яны з галавы да ног, даказваў віцязь.

—Хопіць палохаць нас, Судзіслаў, — смяяўся яму ў твар князь. — Вось не ведаў раней, хто самы палахлівы з маіх падданых. Калі ўжо цябе так калоціць пры адным напаміне аб гэтых бадзягах з Поўначы, дык я дазваляю табе пакінуць наш горад і хавацца ад небяспекі ў лесе. Сярод воінаў маіх шмат смельчакоў. Яны за жыццё столькі разоў выходзілі пераможцамі з бітваў, шго з даспехаў ворагаў, забітых імі, можна было б скласці сапраўдныя курганы-бранявіцы. Але рана яшчэ героям думаць аб смерці і пахаванні, і таму даспехі пераможаных ворагаў іржавеюць у полі.

Нічога не сказаў на гэта Судзіслаў, а толькі павярнуўся ды павольна пайшоў прэч ад княжага пасада. У той жа дзень ён пакінуў родны горад.

Судзіслаў добра ведаў, чаго вартыя словы княжацкія, таксама ж як ведаў і вартасці воінаў, землякоў і сяброў сваіх.

Так, сапраўды, многія ліхія ворагі знаходзілі смерць у лясах і балотах іх радзімы, і, сапраўды, даўшы некалькі боек суседзям-качэўнікам, надоўга адбілі ім ахвоту нападаць на горад княжацкія дружыннікі. Але няпраўду казаў князь, не было сярод іх ні аднаго, хто б мог з даспехаў пераможаных уласнай рукой ворагаў скласці курган. Так зрабіў калісьці толькі адзін чалавек — прадзед Судзіслава Перанег. Віцязь добра ведаў: князь сваімі словамі імкнуўся прынізіць

яго, Судзіслава, Перанегавага нашчадка, смеласць, незалежнасць якога даўно ўжо замінала княжацкай уладнасці.

Зараз Судзіслаў, пазбаўлены клятвы вернасці князю, мог бы пакінуць гэтыя мясціны. Яго з радасцю ўзялі б у любым горадзе. Але чамусьці ён не мог зрабіць гэтага. Віцязь скіраваў свайго каня да заставы амаль на мяжы княства. Менавіта з гэтага боку, мысліў ён, трэба чакаць нападзення. Воіны-вартавыя цёпла сустрэлі смелага вандроўніка, вырашыўшы, што ён з імі па княжацкім загадзе.

Прайшло шмат дзён. На заставе было спакойна, і, можа, хтосьці іншы на месцы Судзіслава ўжо б засумняваўся ў правільнасці сваіх здагадак, але, сталы воін, ён па-ранейшаму заставаўся насцярожаны і пільны.

Чужынцы з'явіліся апоўдні, у адзін з гарачых летніх дзён. Варажская дружына кіеўскага князя моўчкі імчала прама на вартавую вежу.

— Хутчэй запаліце сігнальны агонь, спакойна загадаў Судзіслаў ратнікам і надзеў шалом.

І час спыніўся...

Гарачае сонца раскаляла зброю і даспехі воінаў, з-пад конскіх капытоў узлятаў густы пыл, які трапляў у вочы, забіваўся ў ноздры і рот, перашкаджаючы дыхаць.

Судзіслаў не лічыў, колькі варагаў зваліў з ног яго меч. Ён не бачыў, колькі абаронцаў заставы яшчэ працягваюць стрымліваць шалёны націск. Рука яго быццам занямела, і ён не адчуваў больш яе. У галаве была толькі адна думка: ці хутка падыдзе князева дружына? Ён баяўся, што, пакуль гэта адбудзецца, варагі паспеюць змесці са шляху свайго невялічкі атрад абаронцаў і спыніць іх потым будзе ўжо вельмі цяжка. Пра сябе ён ведаў, што загіне. Вельмі ж няроўныя сілы сустрэліся тут, ля заставы. Толькі б пратрымацца як мага больш! Вось падае яшчэ адзін вараг і яшчэ. З перакошаным тварам на Судзіслава насоўваецца велізарны вой з магутнымі рукамі і шырокімі плячыма. Пот цуркам сцякае па яго лбе і шчоках.

Судзіслаў міжволі адступае. Адзін чужынскі ўдар, і пачынае асядаць пад ім конь. Мёртвая жывёла прыцiскае сваім целам нагу гаспадара, і рэзкі боль прымушае Судзіслава застагнаць. Вараг, які імгненне таму забіў Судзіслававага каня, заносіць руку, каб расправіцца і з чалавекам. І... раптам пачынае завальвацца набок. Юны ратнік, блакітнавокі Мікаш, выратаваў Судзіслава. І вось ужо яны, адзіныя з тых, хто застаўся жывы, спіна да спіны адбіваюць удары варагаў.

Нешта дзіўнае здарылася, бо Судзіслаў пачаў бачыць сонца і светлыя шматочкі неба паміж целамі нападаючых. Ён зразумеў, што

гэта так парадзелі іх рады. Раптам павольна па яго спіне споўз на зямлю смяротна паранены юны Мікаш. І шаленства, справядлівая прага помсты за сябра дабавілі моцы Судзіславу...

Калі ля заставы з'явілася князева дружына, там была ўжо цішыня. Пасярод груды мёртвых целаў воіны ўбачылі акрываўленую постаць Судзіслава. Ён стаяў, абапіраючыся абедзвюма рукамі на ўторкнуты ў зямлю меч. Ён нават не азірнуўся. Тады князь скочыў з каня, наблізіўся да віцязя, апусціў руку яму на плячо, і віцязь упаў ля ног князя... Ён быў мёртвы.

Уражаныя, доўга глядзелі на месца крывавай бойкі воіны, а потым штосьці, выйшаўшы наперад, моўчкі пачаў збіраць зброю варагаў. Адразу зразумеўшы яго, яшчэ двое кінуліся здымаць даспехі з пераможаных чужынцаў. Дарэмна спрабаваў спыніць іх князь, воіны ўпершыню не слухаліся яго загадаў.

Мячы, шаломы, браня — усё скідвалася ў велізарную кучу, якая ўсё расла. Яна ўзнялася амаль на вышыню сігнальнай вежы, і тады зверху на яе паклалі мёртвае цела Судзіслава. І запалыхала пахавальнае вогнішча.

Змрочныя, суровыя, праводзілі ў апошні шлях героя воіны. Агонь кідаў чырвоны водбліск на іхнія твары, і ў цішыні чуўся толькі шум полымя ды ледзь стрыманы плач.

Воддаль, апусціўшы галаву, усімі пакінуты, стаяў князь.

Час яго ўлады скончыўся.

А браня расплаўлялася ў агні, сцякала распаленымі струменямі ды так і застывала. І калі агонь сціх, перад людзьмі ўзнікла сапраўдная жалезная гара-бранявіца, векавечная віцезява магіла.

* * *

Да нашых часоў адно з маленькіх мястэчкаў на Бярозаўшчыне называецца Броннай Гарой. Ніякай жалезнай гары, канешне, ужо даўно няма. Яна захавалася толькі ў памяці людской.

## САМОТНАЯ СВЯТАЯ

Нетрывалы матэрыял — дрэва, бо недаўгавечны. Знішчае яго агонь, псуе вада, точыць жук-караед, час ператварае ў труху. Здаецца, навошта ж і браць майстру такую сыравіну для шэдэўра, які мусіць пераўжыць стагоддзі. Але, мабыць, ёсць штосьці прыцягальнае і ў гэтым простым матэрыяле. З-за чаго якраз яго выбірае музыка для пявучай скрыпкі, паэт у якасці паперы для ўзнёслых вершаў, дойлід для гордых храмаў. Можа, сакрэт у тым, што дрэва, як і чалавек, жывое.

Як бы там ні было, але матэрыялам рэзчыка Андрэя таксама было дрэва. Беларус, але добры каталік, які лічыў асноўным заняткам выразанне драўляных фігурак святых і анёлаў для касцёлаў і каплічак. І фігуры гэтыя з-пад рук Андрэя выходзілі як жывыя: гордыя, прыгожыя, вясёлыя і сумныя, добрыя і сярдзітыя увогуле такія, якімі звычайна бываюць людзі.

Таму нікога не здзівіла, калі малады ксёндз нядаўна пабудаванага ў Слоніме сабора святога Андрэя запрасіў якраз гэтага майстра аздобіць нованароджаны храм. Самому майстру прапанова здалася прадвызначэннем лёсу. Ён з натхненнем узяўся за працу, і хутка ўжо з'явіліся ладныя юнацкія постаці анёлаў ля алтара. Святыя з мудрымі тварамі і велічным спакоем узнесліся ў знарок падрыхтаваныя дзеля гэтага нішы з вонкавай часткі сабора. Цудоўная ляпніна ўпрыгожыла сцены.

І вось надышоў дзень адкрыцця сабора. Нібы іерусалімскія паломнікі, пачалі сцякацца ў Слонім людзі з усяго наваколля. Усе хвалілі майстэрства дойлідаў, ваяцелю Андрэю таксама дасталася вялікая колькасць добрых слоў. Але сам ён адчуваў: не ўсё зроблена. Патрэбна яшчэ адна статуя, якая б ураўнаважыла асіметрычную драўляную кампазіцыю, прыдуманую ім. Смутныя вобразы нараджала майстрава фантазія...

І раптам у вочы яму кінулася маленькая жанчына з вялікімі вачыма, у якіх, здавалася, застылі назаўсёды непралітыя слёзы болю і крыўды. Пачалася служба, і жанчына схілілася, быццам пад цяжарам арганных гукаў. Майстра глядзеў на яе і бачыў, як нейкае невядомае гора цяжка прыціскае яе да зямлі. І чым больш назіраў Андрэй за незнаёмкай, тым больш упэўніваўся: сабору патрэбна менавіта такая, пяшчотная, чуллівая ў сваёй безабароннасці, жаночая постаць — Матка Боска. Вось стаіць яна сярод пышнасці і раскошы, маленькая, здзіўленая, самотная і зусім тут чужая. Яе славяць, а яна не разумее за што; ёй пакланяюцца, а яна толькі з журбою і сумам глядзіць на схіленых перад ёй людзей, бо ведае, што не можа нікому з іх памагчы. Хіба не прачнецца ў кожным, хто мае моц, маладосць, сэрца, жаль да гэтай слабой і незвычайна дарагой жанчыны? Ці не захочацца абараніць яе, сваю каханую, маці, веру, родную зямлю? Так! Ён павінны зрабіць менавіта такую святую.

За ўвесь час службы ён не адрываў позірку ад маленькай багамоліцы, а пасля пайшоў за ёй праз шумны натоўп на вуліцу. І тут недзе зусім побач раптам пачуў словы дваіх, якія глядзелі ў той жа бок, што і майстра. І словы гэтыя спынілі яго, прагучаўшы падобна праклёну:

—Прыгажуня Магдалена! Ты глядзі, і яна прыйшла!

—Ёй больш нашага трэба. Замольвае грахі, распусніца.

Увесь дзень ён пакутліва раздумваў над гэтымі выпадкова пачутымі словамі, а вечарам рашуча выйшаў на вуліцу. Спытаўшы двух-трох чалавек, ён лёгка знайшоў невялічкі, увесь абвіты плюшчом домік Магдалены. Пастукацца ён не паспеў — гаспадыня сама ўбачыла яго праз акно і выйшла.

—Пан скульптар? Я адчувала, што вы прыйдзеце, чамусьці шэптам пачала жанчына. Я яшчэ ў касцёле заўважыла, як вы глядзіце на мяне. І потым, калі вы пайшлі за мною... Навошта я вам? Я ведаю, пра мяне гавораць шмат дрэннага, але калі вы прыйшлі дзеля гэтага...

— Не, панна Магдалена, — перарваў яе майстра, — я прыйшоў усяго толькі прасіць вас пазіраваць мне. Вы — Матка Боска. Такой я ўбачыў вас, і такой убачыць вас кожны, калі статуя гэтая ўпрыгожыць сабор святога Андрэя. Назавіце любую цану за сваю паслугу. Я згодны, бо мне пагрэбны толькі вы.

—Але хіба гэта магчыма? — спалохалася жанчына. — Ці ж вы не чулі, пан скульптар, што гавораць пра мяне людзі? Якая ўжо з мяне святая!

— Ці мала што гавораць аб кожным з нас? — запярэчыў Андрэй. Я бачыў ваш твар у час малітвы, з такімі вачыма, як у вас, нельга хлусіць. У іх пакута, а значыць, і выкупленне...

Яна яшчэ доўга маўчала, а потым, узяўшы майстра за руку, увяла ў свой дом.

— Вы першы, хто ўбачыў маю душу, сказала яна, — і таму я — згодна. І не трэба грошай...

Мёртвы камень заўсёды застаецца толькі мёртвым каменем. Мёртвае дрэва іншы раз нараджае жыццё. Ці бачылі вы калі-небудзь, як сухі пень па вясне выкідае зялёныя парасткі? Таксама і мёртвае дрэва, з глыбінь якога рукі майстра Андрэя выраблялі постаць прыгожай жанчыны, пусціла два жывыя парасткі, адным з якіх было каханне Андрэя, а другім — каханне Магдалены. Яны не заўважылі, як адбылося гэта, а заўважыўшы, не адразу паверылі, бо ў душы кожны з іх перастаў ужо спадзявацца на сваё шчасце. Можа, якраз з-за гэтага Магдалена вырашыла зрабіць апошняе выпрабаванне свайму лёсу і пачала расказваць Андрэю пра сваё мінулае, мабыць, і не такое ўжо грэшнае. Хутчэй, няшчаснае. Але майстра спыніў Магдалену. Навошта ведаць яму ўсё гэта? Ён кахае яе, ён зробіць усё, каб яна больш не ведала гора...

Работа скончана. Андрэй апошні раз глядзіць на статую і асцярожна загортвае яе ў палатно. Заўтра, калі ён атрымае за працу сваю грошы,

яны з Магдаленай возьмуць шлюб. Заўтра ўнершыню маленькая самотная Матка Боска ўзыдзе на свой высокі пастамент і зірне вялікімі сумнымі вачьма на людзей...

Ён не ведае, што гэтага не адбудзецца ні заўтра, ні паслязаўтра, ні праз тыдзень. Таму, што здарыцца вялікае гора.

Перад раніцай Магдалена прачнулася з галаўным болем і нейкім незвычайным пачуццём млявасці ўва ўсім целе. Яна пабудзіла Андрэя, і той, дакрануўшыся да яе цела, адчуў вялікі жар. Яна яшчэ спрабавала хадзіць па пакоі, штосьці рабіць, але ў поўдзень хвароба зваліла яе. Гэта была страшэнная чорная воспа, якая, перш чым забіць чалавека, непазнавальна брыдзіць яго.

Тыдзень прайшоў у адчайнай барацьбе. Увесь гэты час Андрэй не спаў. Ён схуднеў. З Магдаленай жа адбыліся яшчэ больш жудасныя змены. Усё цела яе, пакрытае гнайнікамі, стала адной трапяткой ранай, воспа выела вочы прыгажуні, і яна больш не ўзнімала павекі, каб не палохаць каханага. Большую частку дая яна кідалася ў непрытомнасці, а калі прыходзіла ў сябе, пачынала жаласна прасіць:

— Андрэй! Выратуй мяне, вярні мне маё цела, — я хачу быць здаровай. Вярні мне мой прыгожы гвар. Андрэй, я не хачу паміраць! Я ведаю, ты выратуеш мяне, ты — моцны... добры...

І са слязьмі на вачах майстра суцяшаў каханую:

— Не, маё сонейка, не, мая зорачка, ты не памрэш! Ты заўсёды будзеш прыгожая і жывая. Нават калі цела тваё больш не можа ўтрымліваць у сабе душу, ты будзеш жыць. Душа твая пяройдзе тады ў нашу з табой Матку Боску. Там будзе душы тваёй добра, утульна, нібы ў сапраўдным целе...

Калі Магдалена памерла, майстра яшчэ доўга сядзеў ля яе знявечанага цела. Ён чакаў, каб страшэнная хвароба перайшла на яго. Але зараза чамусьці не кранула майстра. І Андрэй праклінаў сваё моцнае здаровае цела...

Воспа не спустошыла Слоніма, як раней яна рабіла з многімі іншымі гарадамі. На дзіва, ахвярамі яе сталі толькі некалькі чалавек. Цуд прыпісалі святому Андрэю, які быццам пасля таго, як пабудавалі новы сабор, узяў гараджан пад сваю апеку. У гонар святога абаронцы намячалася правесці ўрачыстую імшу. Увесь горад нецярпліва чакаў яе. Тады і з'явіўся ў саборы, пагойдваючыся ад стомы і гора, майстра Андрэй. Ён прынёс сваю рабогу.

— Ахвярую, — хрыплым голасам прагаварыў ён. Калі рабіў — на вялікія хрошы спадзяваўся. Цяпер не трэба мне грошай. Ахвярую.

Са здзіўленнем углядаўся малады ксёндз у шчымліва-пакутлівы твар драўлянай жанчыны.

— То не дзева Марыя, — вымавіў ён урэшце, то Магдалена.

— Біблейскую Магдалену і Матку Боску звалі аднолькава — Марыямі, рэзка адказаў Андрэй, робячы выгляд, што не разумее, аб якой Магдалене ідзе гаворка.

— Так, але, на жаль, і біблейская Магдалена, і іншая, — ксёндз яшчэ раз, уздыхнуўшы, зірнуў на статую, — былі распусніцамі. Ці захочуць людзі схіляцца перад выявай такой жанчыны?

— І тады Гасподзь сказаў:"Хто з вас без граху хай першым кіне ў яе камень", адказаў майстра словамі з Бібліі.

Доўга яшчэ маўчаў ксёндз, а потым прашаптаў:

— Што ж, у кожнага свая святая...

І скульптура засталася ў саборы. Людзі, якія ведалі пра каханне майстра і Магдалены, не дазволілі праціўнікам таленту Андрэя вынесці з сабора яго работу, хаця і адмовіліся ўкленчваць перад ёю, як перад выявай Маткі Боскі.

З часам за скульптурай замацавалася назва Самотная Святая.

Ішлі стагоддзі. Мір змяняўся войнамі, голад — дастаткам. Узведзеная на пастамент святой зямная жанчына па-ранейшаму са сваёй вышыні заклікала людзей да міласэрнасці, дабра, кахання.

Але аднойчы ў храм уварваўся натоўп.

— Бі папоў! Грамі папоўскае дабро! — крычалі яны.

І ў галаву Самотнай Святой паляцела цагліна. Імгненне, і толькі разбіты кавалак дрэва застаўся ад пяшчотнай выявы...

У саборы быў зроблены склад калійнай солі, а калі соль раз'ела сцены і падлогу, разбураны сабор пакінулі паміраць павольнай смерцю пакутніка.

Тады пачалі хадзіць чуткі, што іншы раз па начах пры свеце гнілушак, палохаючы падарожнікаў, ірвецца з сабора жаночы голас, які заве кагосьці, просіць аб чымсьці: "Вярні мне маё цела! Вярні мне мой твар!"

* * *

Кажуць, разваліны храма падобны на знявечнае цела, пазбаўленае душы. Ці ж не ад нас залежыць зараз, каб аб'ядналіся цела і душа?!

**ЗМЕСТ**

Сіні камень
Крыніца
Лоскі купец
Таямніца глыбінь свіцязянскіх
Міндоўгава карона
"Святы" Шэраш
Царыцына ўзнагарода
Дуб ды сасна
Ружа колеру сонечных промняў
Душа горада
Парушанае слова
Нашчадак
Аношняя ахвяра
Белыя слупы
Паненка
Вядзьмарчына прадказанне
Легенда аб недабудаваным касцёле
Чараўніца-прыгажуня
Віцязева магіла
Самотная Святая